**Ятранка**. Дзятлаўскі літаратурны альманах № 1. На беларускай мове. Ліда. 2021. 132 с.

Выданне Дзятлаўскай раённай арганізацыі Грамадскага аб’яднання “Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны”.

Укладанне і прадмова Сяргея Чыгрына.
Рэдактар: Сяргей Чыгрын.
Тэхнічны рэдактар: Станіслаў Суднік.

У зборнік уключаны выняткі з творчага даробку дзятлаўскіх літаратараў розных часоў.

*У альманаху выкарыстаны рэпрадукцыі карцін беларускага мастака Івана Козела.*

# Літаратурная Дзятлаўшчына

Упершыню ў гісторыі Дзятлаўшчыны выдаецца літаратурны альманах, якія вы, шаноўныя чытачы, трымаеце сёння ў руках. Мясцовыя творчыя людзі вырашылі назваць яго "Ятранка". Ятранка - гэта рака ў Навагрудскім і Дзятлаўскім раёнах, правы прыток Моўчадзі. Даўжыня Ятранкі 31 кіламетр. Пачынаецца яна каля вёскі Ярошычы на Навагрудчыне, цячэ па паўднёва-заходніх схілах Навагрудскага ўзвышша, упадае ў Моўчадзь на поўдні ад Наваельні на Дзятлаўшчыне. Мае Ятранка і свае прытокі - гэта Мутніца і Лапушанка…

Адны назвы рэк і самі рэкі, а таксама прырода вакол іх, не могуць тутэйшых людзей не натхняць на творчасць. Таму пісьменнікі Дзятлаўшчыны хутчэй за ўсё і натхняліся мясцовай прыродай, апісваючы яе прыгажосць. Бо на Дзятлаўскай зямлі заўсёды жылі творчыя людзі розных нацыянальнасцей. Стваралі тут паэзію і прозу пісьменнікі на польскай, рускай, украінскай, ідыш, літоўскай мовах. Але найбольш творчым людзям тут добра думалася на роднай мове. Таму з-пад іх пяра, як грыбы ў Ліпічанскай пушчы, з'ўляліся творы па-беларуску.

Вельмі актыўна пачыналі свой шлях у літаратуру пісьменнікі Дзятлаўшчыны ў 1920-х-1930-х гадах. Літаратурная Дзятлаўшчына ў былой Заходняй Беларусі мела добрую суполку творчых людзей, якія пісалі літаратурныя творы і актыўна друкаваліся ў віленскіх і ў іншых беларускіх выданнях. Былі

гэта Ігнат Дварчанін (1895-1937) з вёскі Погіры, Сяргей Хмара (сапраўднае прозвішча Сяргей Сіняк, 1905-1992) з вёскі Казлоўшчына, Васіль Струмень (сапраўднае прозвішча Аляксандр Лебедзеў, 1914-1992) з вёскі Зачэпічы, Пятрусь Граніт (сапраўднае прозвішча Іван Івашэвіч, 1909-1980) з вёскі Зачэпічы, Гарасім Прамень (сапраўднае прозвішча Іван Пышко, 1908-1964) з вёскі Зачэпічы, Нікіфар Жальба (сапраўднае прозвішча Аляксандр Бяленка, 1898-1991) з вёскі Гірычы. Пра іх часцей за ўсё і згадвалі літаратуразнаўцы, пішучы пра заходнебеларускую літаратуру ў кантэксце агульнай беларускай літаратуры. А Уладзімір Калеснік у калектыўныя зборнікі "Сцягі і паходні" (Мн., 1965) і "Ростані волі" (Мн., 1990) уключыў па некалькі вершаў Ігната Дварчаніна, Петруся Граніта, Нікіфара Жальбы і Васіля Струменя. Але той жа Уладзімір Калеснік, ды і іншыя даследчыкі нашай літаратуры, ніколі не згадалі тых паэтаў, якія пад рознымі псеўданімамі друкаваліся ў "Шляху моладзі" і "Калоссях", заходнебеларускіх календарах, калектыўных зборніках, газетах. Але не прыгадвалі яны не таму, што не хацелі, а таму, што сапраўдныя прозвішчы невядомых аўтараў пад псеўданімамі цяжка было расшыфраваць. Нядаўна прозвішчы двух паэтаў з той жа Дзятлаўшчыны ўсё ж удалося вярнуць з небыцця і ўключыць іх у гэты альманах.

У 2009 годзе мне ўдалося падрыхтаваць і выдаць асобнай кнігай выбраныя творы Сяргея Хмары (Сіняка) пад загалоўкам "Рабінавы хмель". Вырашыў зноў перачытаць гэта выданне. І на старонцы 170 звярнуў увагу на адзін раней прапушчаны факт, дзе Сяргей Хмара прыгадвае, што "не так далёка ў суседняй гміне (Раготная)" жыў паэт М. Дубок (сапраўднае прозвішча яго было Язэп Сіняк). Язэп Сіняк не быў ніякім сваяком Сяргею Хмары-Сіняку, проста на Дзятлаўшчыне вельмі шмат жыло людзей з прозвішчам Сіняк, ды і зараз Сінякоў там хапае.

Пра Маладога Дубка не згадвае і Янка Саламевіч у сваім "Слоўніку беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў" (Мн., 1983). Гартаючы, напрыклад, часопіс "Шлях моладзі", які выходзіў у Вільні ў 1929-1939 гадах, сапраўды, знаходзім вершы М. Дубка і Маладога Дубка. Але не трэба блытаць з Маладым Дзятком, бо гэта псеўданім паэта Сяргея Новіка-Пеюна (1906-1994).

Сяды-тады друкаваўся ў віленскіх выданнях і проста Дубок. Але пад такім псеўданімам падпісваўся аўтар з вёскі Кашачы каля Паставаў ("Шлях моладзі", 1937, № 1. С. 27). А менавіта псеўданімі М. Дубок і Малады Дубок меў яшчэ адзін паэт з Дзятлаўшчыны Язэп Сіняк.

Язэп Сіняк жыў у вёсцы Раготна. Ён атрымаў пэўную адукацыю, бо актыўна знаёміўся з заходнебеларускай прэсай і чытаў яе. А потым сам пачаў дасылаць свае вершы ў Вільню. Асабліва шчыльна супрацоўнічаў Малады Дубок з часопісам "Шлях моладзі". Агляд яго вершаў трапляў і ў паштовую скрынку часопіса. "Вершы атрымалі, адзін з іх друкуем. Звярніце ўвагу на папраўкі і пішыце выразней пяром, а не алоўкам. Адказ на ўсе пытанні дамо пісьмом тады, як дастанем той адрас, каторага Вы просіце", - так паведамляў "Шлях моладзі" ў № 7-8 за 1934 год. А ў № 2 за 1935 год "Шлях моладзі" Маладому Дубку пісаў: "Пісьмо і матэрыялы атрымалі, просьбу часткова спаўняем, рэшта будзе ў пісьме, якое незадоўга пастараемся напісаць".

Малады Дубок (Язэп Сіняк) жыў бедна, працаваў на зямлі разам з бацькамі. Вершы і пісьмы пісаў алоўкам, занатоўваў алоўкам і ў сшыткі. Гэтыя сшыткі ён заўсёды насіў з сабою за пазухай, бо дома баяўся пакідаць. Некалькі разоў іх маці спальвала ў печы, бо чула на вёсцы, што тых, хто чытае газеты і часопісы, а таксама нешта піша, арыштоўваюць і саджаюць у турму. Таму баялася, каб сын з-за "гэтай пісаніны" не трапіў за краты.

Сяргей Хмара ў "Шляху моладзі" (1938, № 21) апублікаваў вялікі артыкул "Пяе беларускі маладняк", дзе згадаў і пра Маладога Дубка: "…Вельмі плодны. З вершаў яго б'е нейкі сум і туга. Няма радасці, хоць час ад часу вырываюцца і бунтарныя радкі. Піша. Піша ўсюды. Дзень і ноч…".

І Малады Дубок пісаў, а лепшыя творы траплялі ў друк. Хаця, сапраўды, вершы атрымліваліся тужлівыя, у іх аўтар марыў пра тое, што "ўстане наш народ з пакуты… і парве вяковы путы ён магутнаю рукой". Паэт хацеў, каб яго краіна дарагая прытуліла і абняла, каб "над намі зорка Волі ўзышла, і над нашым родным краем ззяла міла без канца".

Пра светлае і шчаслівае жыццё марыў з Дзятлаўшчыны Малады Дубок (Язэп Сіняк). Ён таксама вельмі жадаў выдаць свой першы паэтычны зборнік, але, як пісаў Сяргей Хмара, "на зборнік не было выдаўцоў".

Як склаўся лёс вясковага паэта - пакуль невядома. Сёння ў вёсцы Раготна на Дзятлаўшчыне старэйшыя жыхары яго не памятаюць, ды і людзей у вёсцы з прозвішчам Сіняк ужо не засталося.

У 1920-я-1930-я гады на Дзятлаўшчыне ў вёсцы Казлоўшчына жыў яшчэ адзін беларускі паэт Язэп Крыга. Сапраўднае прозвішча яго было Хаім Кравецкі. Яўрэй па нацыянальнасці, але беларус - сэрцам і душой.

Язэп Крыга быў сынам местачковага краўца з вёскі Казлоўшчына. Яго дзяцінства прайшло разам з беларускімі хлопчыкамі і дзяўчынкамі, з якімі ён размаўляў па-беларуску, чытаў беларускія газеты і часопісы. А дзесьці ў 1927 годзе ён паступіў у Радашковіцкую беларускую гімназію імя Францішка Скарыны. Але ў верасні 1928 года гімназія была закрыта, і Кравецкі вярнуўся дамоў.

Жывучы на Дзятлаўшчыне, Хаім Кравецкі пачаў пісаць вершы на беларускай мове і дасылаць у віленскія выданні, падпісваючы іх псеўданімам Язэп Крыга. Вершы з вялікім задавальненнем публікавалі часопісы "Шлях моладзі", "Калосьсе" і іншыя выданні. Па першых паэтычных творах Язэпа Крыгі было бачна, што ў беларускую літаратуру прыйшоў вельмі таленавіты паэт. Некаторыя яго сябры і віленскія паэты пачалі называць Хаіма "другім Змітруком Бядулем". У артыкуле "Пяе беларускі маладняк" пра яго напісана, што Язэп Крыга "характарызуецца багацтвам вобразаў і думак. Шматабяцаючы талент. Патрэбна толькі шліфоўка…".

У часопісе "Баявая ўскалось"(1949, № 2) Сяргей Хмара апублікаваў невялікі артыкул-згадку, які так і называецца "Язэп Крыга". У ім аўтар прыгадвае, што Язэп Крыга разам з беларусамі "перажываў трагедыю усяе тадышняе беларускае сялянскае моладзі", што "гадуючыся разам са сваімі суседзямі - хлопцамі-беларусамі, ён з маленства чуўся зродненым з імі. Жыў іхнымі думкамі, імгненнямі і летуценнямі".

Першыя вершы Язэпа Крыгі, якія публікаваліся ў "Шляху моладзі" і ў "Калосьсях", былі навеяны жыццёвай праўдзівасцю, адчувалася, што паэт шмат думаў над з'явамі і працэсамі той рэчаіснасці, якая існавала. Тым не менш, паэт быў аптымістам, шчырым і смелым беларусам, які моцна любіць сваю Бацькаўшчыну:

*Але ніякая бура ўжо з сэрца*
*Вырваць не зможа любоў да краіны…*

У вершах Язэпа Крыгі прысутнічала вельмі шмат розных параўнанняў, у выніку якога сутнасць аднаго з іх вытлумачваецца праз сутнасць другога. Адчувалася, што аўтар добра ведаў, як і чым можна ўзмацніць вершаваны твор, каб зрабіць паэтычны малюнак па-мастацку дакладным, наглядным, жывапісным і праўдзівым. Праз розныя параўнанні ў вершах выяўлялася мастакоўская своеасаблівасць паэта, яго стаўленне да таго, што адлюстроўвалася ў ягоных творах: "асеннія вятры - кудлатыя сабакі", "кашмарнай хмараю навеялі тугу", "вецер мой сум слязой ў хмары прыгоніць" і г.д.

Другая сусветная вайна спыніла паэтычную творчасць Язэпа Крыгі, які нават паспеў падрыхтаваць да друку і свой першы паэтычны зборнік. Яўрэйская сям'я Кравецкіх уцякала ад немцаў на ўсход. Развітанне з радзімай паэт моцна перажываў і не вельмі хацеў нікуды ехаць. Але выхаду іншага не было. Гэтыя ўцёкі таксама аказаліся трагічнымі. У ваколіцах Смаленска ўся сям'я Кравецкіх была расстраляна немцамі. Загінуў і Язэп Крыга…

У "Ятранку" ўвайшлі таксама творы тых літаратараў, якія жылі пасля вайны і на Дзятлаўшчыне, і ў іншых рэгіёнах Беларусі, а таксама па-за межамі Бацькаўшчыны. Але радзімай для іх была і застаецца Дзятлаўшчына. Гэта Віктар Шымук, Алег Аблажэй, Мікола Грышан, Віталь Губарэвіч, Яўген Мацвееў…

У літаратурны альманах "Ятранка" ўвайшлі і творы людзей старэйшага пакалення, якія, дзякаваць Богу, яшчэ жывуць, працуюць, пішуць. Розныя па-мастацкім ўзроўні гэтыя літаратурныя творы, але ў іх адчуваецца любоў да роднай зямлі,

да матчынай мовы, да сваіх землякоў. Яны вельмі шчырыя і светлыя, як вада ў той самай Ятранцы.

Проза ў "Ятранцы" парадуе чытачоў апавяданнямі Вячаслава Адамчыка і Леанарды Юргілевіч. Верыцца, што яе з цікавасцю прачытаюць не толькі дзятлаўчане, але і чытачы з іншых рэгіёнаў Беларусі.

Вельмі цікавым атрымаўся краязнаўчы раздзел. Артыкулы Валерыя Петрыкевіча, Фёдара Красюка і Дзмітрыя Кузьмы адкрываюць новыя факты з жыцця Канстанціна Астрожскага, Адама Міцкевіча і Яна Канопкі. Даследаванні аўтараў з'яўляюцца своеасаблівым прыпынкам, на якім яны распавядаюць пра заснавальніка Дзятлава і яго першага ўладальніка Канстанціна Астрожскага, пра Адама Міцкевіча, дзе краязнавец даказаў, што наш вялікі паэт Адам Міцкевіч не раз бываў на Дзятлаўшчыне, пра славутага маладаследаванага генерала Яна Канопку, які ў 1812 годзе ваяваў на баку Напалеона і, які, як мяркуе аўтар, знайшоў свой апошні спачын на Дзятлаўскай зямлі.

Некалі Гётэ пісаў, што, калі хочаш пазнаць паэта, едзь у край паэта. А мне, напрыклад, не трэба ехаць на Дзятлаўшчыну, я амаль усіх жывых аўтараў ведаю асабіста, чытаў і чытаю іх сёння, радуюся кожнаму іх слоўку, якое напісана на роднай мове, якое напісана ад душы. І думкі іх - самыя глыбокія - пра сваю прыналежнасць бацькоўскай зямлі і, увогуле, цэламу свету.

***Сяргей ЧЫГРЫН,***
***сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў.***



## Ігнат ДВАРЧАНІН
(1895-1937)

*Нарадзіўся 27 траўня 1895 года ў вёсцы Погіры. Наведваў школу вышэйшай ступені ў Дзятлаве. У 1912 годзе здаў экзамены на званне народнага настаўніка. Працаваў настаўнікам на Слонімшчыне. Быў мабілізаваны ў войска. Скончыў школу прапаршчыкаў. Ваяваў на фронце. Потым вярнуўся на Радзіму, стаў сябрам Беларускай сацыялістычнай грамады (БСГ), прымаў актыўны ўдзел у беларускім грамадска-палітычным жыцці. У 1921 годзе ў Вільні здаў экстэрнам экзамены за курс Беларускай гімназіі, а потым у 1921 годзе паступіў у Пражскі Карлаў універсітэт, які скончыў у 1925 годзе са званнем доктара філасофіі. У час вучобы ва ўніверсітэце актыўна ўдзельнічаў у літаратурным жыцці, выступаў з дакладамі, пісаў і друкаваў вершы ў розных выданнях. Быў выбраны старшынём Аб'яднання прагрэсіўных беларускіх студэнтаў у Празе. Напісаў і абараніў дысертацыю, прысвечаную Францішку Скарыну. У 1926 годзе вярнуўся ў Вільню, выкладаў беларускую літаратуру ў Беларускай гімназіі. Склаў і ў 1927 годзе выдаў "Хрэстаматыю новай беларускай літаратуры (ад 1905 года)". У 1928 годзе ад Наваградскай акругі быў выбраны ў польскі сойм. Разам з іншымі пасламі стварыў у сойме самастойную фракцыю - беларускі пасольскі клуб "Змаганне". У 1930 годзе быў арыштаваны польскімі ўладамі і асуджаны на 8 гадоў турмы. У выніку абмену палітвязнямі паміж СССР і Польшчай у 1932 годзе апынуўся ў Менску. Працаваў у АН БССР у камісіі па вывучэнні Заходняй Беларусі, выконваў абавязкі дырэктара Інстытута моваазнаўства.*

*У 1933 годзе яго рэпрэсавалі і 8 снежня 1937 года расстралялі. Рэабілітаваны ў 1956 годзе.*

## Покліч

Каля нас бушуе мора,
Хвалі хлешчуць цераз край:
Разам усё заварушылась
І крычыць: маё мне дай!
Украіна стала вольнай.
Кажа фін: я аддзялюсь,
Мне не трэба больш апекі,
Я й без руса абайдусь.
Польшча даўно ўжо
адлучылась,
Адхіснулася, ўцякла,
Успамінаючы пра тое,
Пад Масквою як жыла.
Латышы, літоўцы, эсты,
Як бы там ні мала іх.
А і тыя закрычалі:
Будзем жыці без чужых.
Але мора так бушуе,
Так хвалюецца, шуміць,
А нас быццам не чапае:
Усё маўчыць, і ціш стаіць.
Беларусь наша святая
Чагось думае, маўчыць,
Нібы спіць сабе, ні дбае,
І ні просіць, ні крычыць.
Ты маўчыш, мая старонка,
Чаму ж так? Скажы ты мне?
Чаго жджэш? Здаецца сонца
Засвяціла ў вакне.
Ці ў цябе няма раднога,
Або прошласці няма,
Што не хочаш ты нічога,
Мая родна старана?
Не, дасюль цябе, здаецца,
Ні пакрыўдзіў Бог саўсім:
Ёсць свая культура, мова, -
Пахваліцца ёсць нам чым!
Але будучы ва ўціску
У сваіх братоў радных,
Ты сваё усё забыла,
Стала наймітам у іх.
І цяпер, як рух падняўся,
Як стаяць ўсе на сваём,
Ты адна ўсё спіш, старонка,
Летаргічным, моцным сном.
Дык прасніся, мая маці,
Паглядзі каля сябе, -
Зноў цябе пакрыўдзяць людзі.
Зноў пакінуць у бядзе.
Загукай усім ты моцна,
Што жывеш на свеце ты,
Што й табе прыйшла свабода,
Што не хочаш крыўды ты.
Пад свой сцяг чырвона-белы
Пасклікай усіх сыноў,
Параскіданых на свеце,
Каб вярталіся дамоў.
Мае сябры-беларусы,
Адгукнецеся, братке:
На пазоў свае матулі
Сабірайцеся ў гуртке!
Пад яе зышоўшысь сцягам,
Будзем з горам ваяваць,
Будзем дома працаваці,
Сваю хату будаваць!

*1917 г.*

## Мой скарб

Не пакінуў бацька родны
Мне палацаў, ні дабра.
Сам не бачыў век у вочы
Золата ні серабра.

Толькі родная матуля
З нараджэння мне дала,
Што дагэтуль ані пуля,
Ні бяда не адняла.
Сэрца мяккае ў грудзях
Падарыла мне яна,
Ў ім адбілась, як у люстры,
Наша бедна старана.
Сэрца з роднага абшару
Сабірае да грудзей
Слёзы, жаль, няшчасце, гора,
Што па краю так гудзе.
Грамадой сабраўшысь цеснай
У яго яны, а там,
Выліваюцца у песні
Для чутна усім людзям.
Песня гору і няшчасцю
Як бы робіцца вянком,
Як гірляндаю дзіцятку,
Як нявесце валюшком.
Дык прымі жа свет вялікі
Гора, ўбраная у валь,
Сэрца змучанага крыкі,
Вылітыя ў песню-жаль.
*1918 г.*

## Брату-вучыцелю

Сей, браце мой мілы,
Сей поўнаю жменяй,
Загон свой гусцей засявай,
Ціхутка і роўна,
не болей, не меней,
Ад краю загона у край.
Хай віхры бушуюць,
гудуць навальніцы,
А ты ні на што не зважай -
А крокам за крокам
па свежай зямліцы
Ўпярод ды ўпярод падступай.
Не бойся, мой брат,
Не загінуць зярняты,
Што ўкінеш ты вернай рукой,
Як дар яны з неба
там будуць прыняты
Даўно ўгатаванай раллёй.
Задзівішся сам ты,
як сонца прыгрэе,
Што стане з тваёй паласы,
Як буйна на вочах яна зарунее,
Як хутка ўсплывуць каласы.
*1921 г.*

## З чужое стараны

О, Беларусь, о, край мой мілы,
Старонка родная мая!
Тут расказаць не маю сілы,
Што адчуваю ў сэрцы я.
Цябе я бачу у бляску сонца,
У срэбных пацерках расы,
Што красяць ўсё
ў табе бясконца:
І луг, і поле, і лясы.
Цябе, убраную у шаты,
Ў зялёны, свежы, як бы жар.
Узор цудоўны і багаты,
Што робіць вобраз, поўны чар.
Народ я бачу веры поўны,
Няволі выжыўшы кашмар.
Усім народам - свету вольны,
У роднай хаце гаспадар.
Люблю цябе,
о край мой родны!

За што? Сказаць бы я не мог…
Што мушу мо, як пёс нягодны,
Туляцца па чужых кутох.
А можа быць сваю нядолю
У тваім твары палюбіў,
Сваю аддаўшы ветру волю
Сабе чужую налажыў.
Што мне там месца
не знайшлося,
Паміж улюбленых сяліб,
Дзе гнецца і шуміць калоссе,
Паміж галлістых груш і ліп.
Што з дому выгнаны
злым рокам
Табою запаўняюць сны,
Як птушка ў выраі далёкім
Чакаю светлых дзён вясны.
*1922 г.*

## Сланечнікі

Спакон вякоў, ды з году ў год
Хадзіла сонца на заход,
Але не ў сонцы тутка дзела.
Сям'я сланечнікаў сядзела
Ля частаколу ненарокам,
І ўсё сачыла пільным вокам
За тварам сонца залатога:
Ці мала схіліцца, ці многа.
Так і сланечнікаў сямейка
За ім цягнулась сілай нейкай.
Хадзіла навакола плётка,
Што голад жаднаму не цётка.
На свеце раз паўсталі дзівы,
Што дзед не помніў тога сівы.
Ў адзін прыгожы ясны дзень
З другога боку стала цень.
Было там гутарак нямала,
Аж тут другое дзіва стала.
Ў гародзе дзіўны карагод
Ды гоман, як пусцілі млын.
Сланечнікі, ну як адзін
Перакруціліся на ўсход.
Ну, пасмяялісь больш яшчэ,
Звычайна так усё цячэ.
На тым быў і канчатак,
Але сланечнікам пацеха
Не кончылась
на тым здарэнні:
Яны завярнулі ўстрэч карэнні.
Людцы, паслухайце мужчыну,
За сонцам гніцесь, як расліны,
Адное мейце на сумленні,
Свае карэнні.
*1925-1926 гг.*

***

Лятуць, лятуць гусі
Ў далёкі вырай,
Усё хавацца мусі
Ад нядолі шчырай.
Гусанькі, вы гусі,
Крылле мне спусцеце,
Можа, падымуся
З вамі й я ляцеці.
Бо ўжо месяц цэлы
Воддаль родных гукаў,
Тут з душой збалелай
Гіну я між мукаў,
Між галодных людзяў,
Між хваробы, смерці,
З тасkнатой у грудзях,
З каменем на сэрцы.

Лятуць, лятуць гусі
Удаль за сіне мора,
Не зважаюць, мусі,
Ні на жаль, ні гора.
Ах, чакайце, гусі,
Я вас запытаю,
Можа, ля мамусі
Праляціце краю.
Там, ля роднай вёскі,
Ведаю я, знаю,
Выйдзе на палоскі
У бок шумнога гаю.
Гдзесь на захад сонца
Сын яе забраны...
Мучаць мо, бясконца...
За што? Незгадана...
Што любіў краіну
Ён усей душою,
Што яе не кінуў
Грознаю парою.
Нікаму ж у жыцці
Не зрабіў благога...
Нікаму не зычыў
Кепскага нічога.
Ах, скажыце, гусі,
Што я жыў, здаровы,
Зараз павярнуся,
Вольны, без аковаў.
Лятуць далей гусі
У свой у даль далёкі,
Нашай Беларусі.
Толькі краем - бокам.
Гусі, пачакайце
На адну хвіліну...
Момант... прывітайце
Родную краіну...
Паляцелі гусі...
Ужо на краю неба...
Ім ні Беларусі
Ні мяне не трэба.

*1921 г.*

## Не спі!

Не спі, мой браце, не чакае
Ідучы ўперад хутка час!
Цяпер мінута дарагая,
Мінута важная для нас.
Праспіш ты гэтую мінуту,
І не спагоніш сто гадоў,
Скажы ты ясна: хочаш путаў,
Ці вольным стаць
без ланцугоў?
Уперад, гэй, браты, да працы
Зніштожым цемру мы датла.
Збудуем славы мы палацы,
Палацы волі і святла.

*1921 г.*

## Вецер і я

Вецер вее, завывае,
Грае. Свішча на прасторы,
Хмары чорныя ганяе,
Ломіць дрэвы, крышыць горы.
І ў мяне на сэрцы бура,
Чад няволі, крык адчаю.
Між людзей адзін панура,
Як ачмураны, блукаю.
Вецер буйны, дух адвагі,
Мы так родныя з табою!
Як бяздомныя бадзягі -
З цэлым светам мы - у бою.
Не знаходзіма спакою
Для другіх у свеце гожым -

Ўсё жыццё для нас маною,
Пра жуду пяяці можам.
*1925 г.*

## Пад небам Лацвіі

Пад небам Лацвіі лагоднай
Так добра чуецца, свабодна;
У твар аж лепей вецер вее
І абуджае зноў надзеі.
З душы пазыў нясецца звонка:
Няпраўда, - родная старонка, -
Пяройдуць годы цемнаты -
Да жыцця вернешся і ты.
Ня вечны груганы ліхія.
Сатрэ іх вольная стыхія,
Заявіць голасна: даволі!
Мы хочам жыць, мы хочам волі.
Надзея, будзь жа вечна з намі -
Ты морам рухаеш, гарамі,
Жыві ж у сэрцы, не ўмірай,
Надзея, ты, на родны край.
*1921 г.*

## Мінор

Аб чым пяяць магу?
Дзе тоны падбяру?
О, не звініць струна,
Спакойна ліра спіць.
Там на двары вясны
Жыццё ідзе, жыццё,
А холад на душы,
А сэрца, як бы лёд.
А крыллі дзе мае?
Апалі да зямлі
Не рвецца сэрца ўвысь,
Маўчыць зусім душа…
Надзея зарасла
Пякучай крапівой.
І свет, як бы не свет,
Жыццё, як не жыццё,
Збаўленне дзе найду?
Няўжо яго няма?
Няўжо патух агонь,
Няўжо зацміўся свет?
Гэй, стой, маўчы душа.
Не муч сябе, не муч, -
Зярняты у зямлі.
І будзе, будзе ўсход,
Надыйдзе красны май.
Надыйдзе блеску час,
І краскі зацвітуць
На полі дзіўна так.
Прыйдзе, прыйдзе яно,
Прыйдзе, прыйдзе святло.
І струны зазвіняць,
І сэрца запяе.

## Адраджэнне

Касцёр гарыць, агонь палае,
Нясе усюды блеск і свет,
Кругом дружына маладая,
Прыймае дзедаўскі завет.
Не дождж ідзе,
шапочуць ветры,
Праснулісь полі і лясы
Дрыжаць, трасуцца
багны, ветры,
Страчаюць новыя часы.
Усе, усё ўстае на ногі,
Зганяе прошлае як дым…
Імкнецца, рвецца да дарогі,

Куды? Чаго?
На што? За чым?
Агонь шыбае вышай, вышай,
На небе свеціць, як зара.
Ўсё прыцягае, ўсё калыша,
Пара прышла, прышла пара.

І словы дзедаў раздаюцца,
Ўсяляюць моц,
пышаць красой.
І слёзы радасці ліюцца
На землю срэбнаю расой.

*Прага, 1 лістапада 1921 г.*

## У тумане

Мы брыдзем ў тумане да адвечнай далі,
Сколькі ўжо ззаду, сколькі напярод.
Чэрцім жыццёвыя мудрыя скрыжалі
І падаем, уступаем для другіх чарод.
Там дзесь прамень свету задрыжыць і згасне,
Рукі працягаем, каб яго злавіць.
Але то міражы, як бы сон ці басня
Зноў страшная цемра ўвакол стаіць.
А туман суровы косьці раз'ядае
І марозіць сэрца й душу ледзяніць.
І краса спадае з шчокаў маладая,
Валімся, каб болей ні аб чым не сніць.
Дзе ж канец імкненняў, чалавецтва мэта,
Дзе збаўлення прыстань, не відна яе -
Схована у далі, ў цемры без прасвета,
Там дзесь у нязнана-незямным краю.
Да якогась пункту ўсё брыдзем ў тумане,
А яго не бачым, схованы за вал.
І балота месім, бродзім на дзірване
Ідэал шукаем, смешны ідэал.
Вежы адбудуем і глядзім у гору,
Ці не там схаваны дзіўны талісман.
Але сумна страшна ў незямным пprasторы:
Увакола цемра, увакол туман.
Хтось незразумелы, ўсемагутны вечны
Пасадзіў на землю між балот і гор.
І смяецца дзіка, і глядзіць бяспечна,
Як там мітусіцца бедны, жалкі твар.



## Сяргей ХМАРА

(Сяргей Сіняк, 1905-1992)

*Нарадзіўся 25 траўня 1905 года ў вёсцы Казлоўшчына. Потым выехаў з бацькамі ў бежанства. Жыў ва Украіне, Польшчы, Расіі. Напачатку 1920-х гадоў сям'я вярнулася на Бацькаўшчыну. Тут пачынае займацца грамадска-палітычнай дзейнасцю. Прымае ўдзел у дзейнасці Беларускай сялянска-работніцкай Грамады, арганізоўвае гурткі ТБШ, працуе інструктарам Галоўнай управы Таварыства беларускай школы ў Вільні, удзельнічае ў канферэнцыі Грамады ў Баранавічах, выконвае абавязкі сакратара пасольскага клуба "Змаганне". За сваю палітычную дзейнасць адсядзеў 11 гадоў у турмах.*

*У 1939 годзе ў Вільні свет пабачыў першы паэтычны зборнік "Жураўліным шляхам". У 1986 годзе выдаў кнігу "Аб Багох крывіцкіх сказы". А ў 2009 годзе ў Менску ў выдавецтве "Кнігазбор" асобным выданнем выйшлі выбраныя творы "Рабінавы хмель".*

*Пасля Другой сусветнай вайны жыў на эміграцыі - у Германіі і Канадзе. У Таронта выдаваў газету "Беларускі голас" і часопіс "Баявая Ўскалось". Памёр 4 верасня 1992 года ў Таронта (Канада), дзе і пахаваны.*

### Землякопы

Капаем, раўнуем, праводзім дарогу -
Пот выцерці часу не маем.
Праз горы, даліны, балоты, адлогі
Капаем,
Ад рана да ночы капаем.
Пад звоны, пад спевы жалезных рыдлёвак

Аб будучым думы складаем:
Як звонам матораў надыйдуць дні новы...
Капаем,
Ад рана да ночы капаем.
Будуем дарогу насупіўшы бровы
І полымя сонца чакаем.
Зазвоняць рыдлёўкі тады песняй новай...
Капаем,
Ад рана да ночы капаем.

*1936 г.*

## Калыхала зыбку маці

Калыхала зыбку маці,
Калыхала.
Ой, бяды не будзеш знаці, -
Мне пяяла.
Будзеш сонцу усміхацца
Залатому,
Сэрца цешыць, любавацца
Грошаў звонам.
Будзеш ты вялікім панам
Над панамі,
У палацы жыць цагляным
Са слугамі.
Ой, пяяла, ой, гадала,
Не мылілась -
У палацы жыву стала
З слугаў сілай.
Табе й дзверы адчыняюць,
Есці носяць,
Абмываюць, апранаюць,
Ў шпацыр просяць...
Ды аднога не ўганула
Мая маці:
Няма сонца залатога
Усміхацісь,
І не цешу сэрца звонам
Купай грошаў -
Звоняць іншым,
ўдзень і ўночы
Сон палошаць.

*1935 г.*

## У паходзе

Засаколіў вецер
Вышэй стрэх і хатаў,
Зашумела вецце
Пра долю аратых.
Дарогай шырокай
Пад шопат лазовы,
Ідзе цяжкім крокам
Паход наш лапцёвы.
Зашумела вецце...
Хмары чоўнам б'юцца.
Лозы, быццам дзеці,
За палу бяруцца.
Ой, ты доля, доля,
Палыновы цвеце!
Ці ж то нам ніколі
Сонца не засвеціць?!

*1936 г.*

## Бура

Будзе бура начой!
Цемра, гразь непралазная,
Духата, ап'яняючы чад.
Зашапталі дубы нешта важнае, важкае,
Прытаіліся купіны хат.
Навалілася ноч цёмнахмарая з захаду,
Тнуць нажамі маланкі прастор.
З перуном лес загуў, застагнаў увесь ахатам...
І патухлі агоньчыкі зор.

*1937 г.*

* * *

Неба начой было яснае... яснае!..
Белае... белае, як малако!..
Недзе жалезам дзверы заляскалі,
Сэрца збяжалася ў ком.
Шыбы у вокнах раптоўна заойкалі,
Глуха дзвярыны паліўся ў ноч стогн...
Чуеш! Без плачу! Трэба быць стойкаю!..
Ў сэрцы хоць ўбіты асцён.
Неба начой было яснае, яснае!
Белае... белае, як малако!..
Недзе жалеза затворамі ляснула,
Сумна зайржаў ў хляве конь.

*1937 г.*

## Раскідала зіма

Раскідала зіма бель-палотны
Па палетках старонкі маей,
І пакрыла хат чорных галоту,
Лес ў капузе стаіць з сабалей.
Зацвіла цуда-краскамі вокан,
Беллю срэбнаю светлых начэй.
Пахаджае, патрэсквае крокам

Ў шэрань ўбраўшысь мароз-чарадзей.
Гэй! Прыйшоў ў вёску марац галодны -
Чорнай працьмаю глянуў з вачэй…
Раскідала зіма бел-палотны
Па палетках старонкі маей.

*1937 г.*

## Не кажы

Не кажы ты мне, што закрасавалі ружы ў нашым саду,
Што даўно ўжо бязлітасны сцяў іх мароз.
Што ўжо сонца праменняў сваіх залатых на ваду,
На ручай з серабра не кладзе сярод лоз.
Не кажы, што мароз свае краскі на вокнах малюе,
Што ў абоймах зімы свет усенькі дрыжыць,
І што смерць ў цэлым свеце ўсеўладна пануе…
Не кажы - бесправудна ўсё спіць!
Знаю я, ажыве, ажыве хутка ўсё, ачуняе,
Як надыйдзе дзень цёплы вясны.
І снягі паплывуць… Ярка сонца на небе заззяе…
І скончацца страшныя сны!

*1936 г.*

## Гускі

Гускі, мае гусачкі,
Скіньце мне па пёрачку!
Паляцела б з вамі я
Ў родную старонаачку.
Дзе жыццё шчаслівае,
Дзе жыццё вясёлае,
Дзе пшанічнай грываю
Шуміць шчасце новае.
Гускі, мае гусачкі,
Скіньце мне па пёрачку,
Лятучы над нівамі
Ў родную староначку...

*1936 г.*

## Язэп КРЫГА
(Хаім Кравецкі, ?-1942)

*Нарадзіўся ў вёсцы Казлоўшчына ў яўрэйскай сям'і. Рос сярод беларускіх дзяцей і добра ведаў беларускую мову. У 1927 годзе ён паступіў у Радашковіцкую беларускую гімназію імя Францішка Скарыны. Але ў верасні 1928 года гімназія была закрыта, і Кравецкі вярнуўся дамоў.*

*У роднай вёсцы пачаў пісаць вершы. Друкаваўся ў заходнебеларускіх часопісах "Шлях моладзі" і "Калосьсе". У 1942 годзе ўся сям'я Кравецкіх была расстраляна немцамі каля Смаленска.*

### Шый, ды шый…

Млеюць рукі й ногі пры рабоце -
Шый, ды шый, ды шый!
Ломіць спіну боль і слепіць вочы -
Гнісь, працуй, маўчы!
Трэба ж, ой, як многа трэба!
Дзецям і сабе -
На аптэку, на падаткі, трэба -
Ні канца бядзе.
Шый, ды шый, ды шый, шчэ трэба многа!
Ноч вяліка, гэй!
Выспішся ў другім жыццi, нябога, -
Сон гані з вачэй!
Шый, ды шый… ах, укалола йголка,
Паказалась кроў.
Разыгралася ў вачах вясёлка…
Ах! Ўкалола йзноў…

Кроў!.. Ці сон яно ці ява?
Кроў во ручаём -
Залівае стол, машыну, лаву
І усё, весь дом…
Выбіць шыбу, крыкнуць - мо пачуюць…
Гэй!.. Ах, што за мара - сон!
Цёмна. Лямпа згасла. Вецер дуе,
Вые за вакном…

*1938 г.*

## Можа…

Можа віхураю гнаны прыдзецца
Родную хату яшчэ калі кінуць,
Але ніякая бура ўжо з сэрца
Вырваць не зможа любоў да краіны.
Тут усё блізкае, матчына - міла:
Неба, зямля, лес і луг, кожна горка,
Могілкаў дзедаўскіх кожна магіла, -
Свет першых радасцяў і слёзаў горкіх…
Калі прыдзецца - ў далёкай чужыне,
Сэрца тугой будзе поўна, не йначай,
Але і родна вярба і рабіна
Пэўна ля хаты за мною заплача.
Хіба іх можа віхура паломіць,
Ды разам з бацькаўскай хатай зруйнуе -
Вецер мой сум слязой ў хмары прыгоніць,
Роднае неба хоць раз засумуе.

*1939 г.*

## Туман

Туман павіс над мерзлаю зямлёю,
Заслонаю сівой завесіў ззянне зор.
Заліў ўвесь свет, нібы жывой вадою,
І патанулі хаты, дрэвы, цёмны бор.
Ды хаты аганькамі пранізалі прастор,

Нібы шукаючы адна другое…
І - праз заслону сіву - ззянне зор,
Туман павіс на мерзлаю зямлёю.
*1939 г.*

## Першы снег

Асеннія вятры - кудлатыя сабакі -
Парвалі радасць сіня-сонечну маю,
Ўкачалі ў гразь яе ліхія ваўкалакі,
Кашмарнай хмараю навеялі тугу…
Расплакаліся дні мае - сівыя вочы
Над брудным воблікам і галітой зямлі,
Над горкай роспаччу даўгой асенняй ночы,
І над бяссіллем дрэў, якіх вятры змаглі.
У дзень тужлівы йзноў ўсміхнулася мне радасць -
Быў гэтай ласкай белай ціхі мілы смех:
З узвышшаў ён пачаў кружыцца й падаць
Латункай яснаю на землю - першы снег…
Ён усміхаўся над тугою і нягодай
І баяў байкі-чары, як у дзіўным сне,
Аб восені праходзячай і аб зіме халоднай,
Аб белых хорамах, аб сонцы і вясне…
Ды сум заўторыў йзноў, як ветру свіст пануры -
Аб ўсім праходзячым, аб жыцці людскім выў…
Я гнаць бы рад яго мяцеліцаю-бурай,
Ды снег у гразь упаў… Таму мо й сум той быў…
*1937 г.*

## Малады ДУБОК

(Язэп Сіняк, ?-?)

*Нарадзіўся ў вёсцы Раготна. Меў добрую адукацыю. У 1930-я гады друкаваўся ў заходнебеларускіх выданнях, у тым ліку ў часопісе "Шлях моладзі". Далейшы лёс невядомы.*

### Скажыце

Ах, родна старонка,
Пакутна мая.
Крывавай рукою
Ты спісана ўся.
У крыўдзе і здзеку
Ты бедная спіш,
Ад слёзаў-уціску
Без руху ляжыш.
Куды не паглянеш:
Магілы-крыжы,
Ну, проста за імі
Жывы сам ідзі.
Скажыце вы, людзі,
Скажыце вы мне,
Калі зло мінецца
І ў процьму спадзе?
Яснае сонца
Калі заблішчыць,
Свабода над краем
Маім загудзіць?
І праўда пагляне,
Народ ажыве,
І родная ніва
Уся зацвіце?..

*1930 г.*

### Зіма

Зіма, зіма нягодная,
Да нас ты ўжо прыйшла,
Халодна і марозна
Дарогу замяла.
Усюды нема, глуха,
На полі снег ляжыць,
І толькі завіруха
Мяцеліцай гудзіць.
Куды не глянь - маўкліва
Зямелька родна спіць,
Глядзець аж неяк крыва,
І сэрца нат шчыміць…
Было, калісь, вясною,
Пойдзеш ў зялёны гай, -
Вячэрняю парою
Дрыжыць ад песні май.
Дзянёчак светла-ясны,
Кіпіць жыццё, бурліць.
А сёння ён няшчасны
Бушуе і гудзіць.
Аднак жа век не будзе
Зіма ў нас панаваць -
Вясна ізноў к нам прыдзе,
Красою будзе ззяць.

*1934 г.*

***

Прыйдзе час і волі зорка,
Зорка шчасця прыйдзе к нам -
Не пальюцца слёзы горка,
Не дакучыць боль грудзям.
Разгарыцца над старонкай
Залатым агнём зара,
І вясёлай песняй звонкай
Прыйдзе,
прыйдзе к нам вясна!
Ўстане наш народ з пакуты,
Вочы змые, твар расой -
І парве вяковы путы
Ён магутнаю рукой.

*1934 г.*

***

Шэрыя, цёмныя хмары
Цяжка па небе плывуць,
Дрэвы лісцё раскідаюць,
Сцюжай вятры так і дзьмуць.
Глуха і нудна у полі,
Сціх салавей у гаёх -
Восень прыйшла й схавала
Светлыя дні ў туманох.
Спіць, спачывае зямелька,
Людзям аддаўшы дары.
Толькі балючае сэрца
Не мае спакойнай пары.

*1935 г.*

## З Новым годам

З Новым годам!
З новым шчасцем,
З лепшай доляю, жыццём!
Я вітаю цэлым сэрцам,
Беларусаў-крывічоў!
З Новым годам!
З днём - зарою,
Светлай зорачкі - агнём!
Я вітаю ўсёй душою,
Беларусаў-крывічоў!
З Новым годам! Каб над намі
Зорка Волі узышла,
І над нашым родным краем
Ззяла міла без канца!

*1935 г.*

***

Міне зіма, вясна надыдзе,
У полі кветкі зацвітуць.
Дзе сёння бура ўсцяж бушуе -
Вясёлы песні загудуць.
І там, дзе сёння гора, смутак,
Праклёны цяжкія вісяць, -
Шчаслівы дзень
для ўнукаў нашых
Праз іх, браты, ужо відаць.

*1935 г.*

## Толькі ўчора…

Толькі учора, здаецца, прыгожа,
Сонейка ззяла, вітала зямлю,

Толькі учора, здаецца, вясёла,
Птушачкі песні пяялі ў гаю.
Сёння ўжо цёмныя, цяжкія хмары
З даляў у далі па небе плывуць.
Сёння ўжо сумныя думкі, як чары,
Сэрца скавалі, балюча ўздыхнуць.
Толькі ўчорайка мне, як дзіцяці,
Сніліся салодкія сны пра жыццё.
Толькі учорайка мог шчасце пазнаці…
Сёння ж у момант прапала усё.

*1934 г.*

***

Надзейся на сілу, на гарт свайго цела -
Здабудзеш ты сонца агні!
Глянь ворагу ў вочы адважна і смела -
І самі спадуць кайданы!
Сплыве тваё гора, адыдуць мучэнні,
Жыццё зацвіце, як вясна.
Адхлынуць ад сэрца ўсе болі-цярпенні -
Красой абальецца душа…
Салодкае радасці чыстай слязою
Зямелячку родну зрашу.
І буду маліцца я цэлай душою
За тых, хто палёг у баю!

*1934 г.*

***

На зары дзён юнацка-бурлівых
Я жыццё самахоць атруціў,
У бяссоныя ночы тужліва
Я, шукаючы праўды, блудзіў.
І не раз плакаў я над магілай,
Дзе найлепшыя спяць змагары,
І душой не раз я таміўся.
Быў гатоў, як яны, умярці.
І не раз маё сэрца шчымела,
Апякаючы прошлыя дні…
О, краіна мая дарагая,
Ты мяне прытулі, абнімі!..

*1937 г.*



## Гарасім ПРАМЕНЬ
(Іван Пышко, 1908-1964)

*Нарадзіўся ў вёсцы ў вёсцы Зачэпічы ў 1908 годзе. У 1920-1930-х гадах юнаком далучыўся да барацьбы супраць пілсудчыкаў. Уступіў у рады Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі (КПЗБ). Быў сакратаром Зачэпіцкай ячэйкі КПЗБ.*

*Друкавацца пачаў у 1933 годзе. Яго першы верш з'явіўся ў газеце "Родны край". Потым вершы друкаваліся ў іншых заходнебеларускіх газетах і часопісах. Пасля Другой сусветнай вайны друкаваўся ў Дзятлаўскай раённай газеце.*

*Памёр 7 чэрвеня 1964 года, пахаваны ў вёсцы Зачэпічы.*

### Каваль

Звон і стукат раздаецца,
Лятуць іскры, валіць дым,
Як пад песню размахнецца
Каваль молатам сваім.
Гэй, каваль! - хлапец вясёлы,
Што куеш ты: плуг ці колы?
Ці мо робіш серп зубчаты,
Што заказвалі дзяўчаты?..
- Не, сялянін мой пахілы,
Памыліўся, браце мілы…
Ці ж не бачыш па размеру -
Гэта ж я раблю сякеру!
Як зраблю яе стальную,
Ў рукі моцныя вазьму я
І пайду у цемры-гушчы
Шлях там новы высякаць -
Беларускаму народу
Шчасце й долю здабываць!

*1933 г.*

***

Ноч настала. Ў небасхіле
Месяц ясны устае.
І на лес імглой закрыты
Сінясветы свае лье.
Ціха дрэмлюць недзе хвоі,
Ўсё спавіта лёгкім сном.
Месяц лісце дрэў прыстроіў
Блескам сумным - серабром.

І здаецца - безустанку
Я сядзеў бы йназіраў,
Як у небе паміж зорак
Маляр ночы фарбы клаў.
Але заўтра дзень настане,
Поўны працы і клапот, -
Сонца яснае зноў гляне,
Зноў пальюцца песня й пот.

*1933 г.*

## Раве піла

Раве піла аб дрэва
І толькі чуцен дзын.
Направа і налева
Рой валіць пілавін.
Сасну работнік рэжа
На ўсякі матэрыял,
І лье свой пот гаротны
Штодня на капітал.
Але пара настане -
І пілы тартака
Зазвоняць ў прывітанне
На долю бедняка.

*1934 г.*

## Наш вецер

Вецер вольны ты гуляеш
Ў полі, ў лесе, над вадой,
Многа ведаеш, бо бачыш,
Як люд змагаецца з бядой.
Як мужык у курнай хаце
Лушпайкі, коркі збірае,
А работнік, як у месце
Зарабіць на хлеб не мае.
Панясі ж ты вецер буйны
На ўсход сонца наш прывет,
Прынясі для нас адтуль ты
Шчасце, працы агняцвет.
Навучы ты люд працоўны
Ненавісцю палымнець,
Выступаць, каб гарту поўны -
Умець змагацца, жыць умець.

*1934 г.*

***

Вёска, родныя палеткі,
Твой загнаны сын прыйшоў
З-за густой жалезнай сеткі
Дыхаць свежасцю палёў.
Смутак пройдзе, летуценні
Сэрца к жыццю ўваскрасяць.
І мінулыя цярпенні
Будзем ў радасць замяняць.

*1936 г.*

## Дажджом

Вось хмара нечаканая,
Як сівы мех наехала,
Каўшом зярняты сеяла -
Піла зямелька кaплямі.
З стрэх малаком цадзілася -
Вада плыла рыштокамі,
У суме закруцілася
І пацякла з падскокамі.
Праплыўшы аглянулася, -
Адменена ўсё сталася,
Ў дарогу-даль папхнулася,
І сонца паказалася.
А перлы-срэбра пацеркі
Калоціць вецер з лісцейка.
І ліжа сонца з жаднасцю
Зямелькі плечы мытыя.

*1937 г.*



## Васіль СТРУМЕНЬ

(Аляксандр Лебедзеў, 1914-1992)

*Нарадзіўся 19 сакавіка 1914 года ў вёсцы Лявонцьева Кастрамской вобласці (Расія). Бацька яго пайшоў на фронт Першай сусветнай вайны і не вярнуўся. У 1919 годзе маці паэта выйшла замуж за беларуса Паўла Івашэвіча, і сям'я з Расіі пераехала ў вёску Зачэпічы на Дзятлаўшчыну. У 1930 годзе арганізаваў і ўзначаліў камсамольскую ячэйку ў вёсцы Зачэпічы. У 1932 годзе ўступіў у КПЗБ.*

*Першы яго верш "Наша доля" быў апублікаваны ў падпольнай газеце "Малады камуніст" у 1931 годзе, а першыя сатырычныя нататкі - у 1932 годзе. За рэвалюцыйную дзейнасць, публікацыю антыўрадавых вершаў і ўдзел у забастоўцы на шклозаводзе "Нёман", дзе працаваў у 1935-1936 гадах, быў зняволены ў турмах Ліды, Глыбокага, Вілейкі. За спробу нелегальна перайсці савецка-польскую мяжу зняволены ў Вілейскай турме. Пасля адбыцця тэрміну пакарання прымусова здадзены ў армію. У 1938 годзе разам з бацькамі пераехаў на Ровеншчыну (Украіна). У 1944-1945 гадах знаходзіўся ў Чырвонай Арміі, двойчы паранены. Пасля дэмабілізацыі працаваў выкладчыкам украінскай мовы і літаратуры ў сярэдняй школе Кастопаля Ровенскай вобласці. Завочна скончыў Ровенскі настаўніцкі інстытут і Львоўскі педагагічны інстытут. Да выхаду на пенсію ў 1979 годзе працаваў у сферы адукацыі ў Валынскай і Ровенскай абласцях.*

*Вершы друкаваў у заходнебеларускіх газетах і часопісах, а таксама ў беларускім і ўкраінскім рэспубліканскім друку. Асноўны яго твор, эпічная паэма “Забастоўка”, апублікавана ў лідскім літаратурна-мастацкім зборніку “Ад лідскіх муроў” № 9 у 2019 годзе.*

*Памёр у горадзе Сарны Ровенскай вобласці (Украіна), дзе і пахаваны.*

## Беспрацоўны

Шкандыбае з кіем ў сцюжы і марозы,
Вопратку благую іней серабрыць,
З вачэй люты сівер выціскае слёзы,
Стынуць ногі ў трэпах, але ён спяшыць.
Чалавеку трэба к гораду дабрацца,
Бо дзяцей пакінуў ў голадзе сваіх.
Няўжо і цяпер ён не дастане працы,
Каб мог зарабіць ён на харчы для іх.
Ўжо даўно патраціў апошнія грошы
За акраец хлеба, за сівую соль.
На худыя плечы, як цяжкая ноша,
Налягае гора, рэжа сэрца боль.
У вайну прыйшлося гараваць ў акопах
І не раз пад кулі галаву насіць
За чужы дастатак, за чужую роскаш,
А цяпер нат дзетак няма чым карміць…
Ад міліянераў гэта нагарода
За цяжкія мукі, за праліту кроў.
Вось чым надзяліла панская "свабода"
Ў гарадах рабочых, ў вёсках батракоў…
Ён ідзе дарогай, вочы гневам свецяць
Да ўсіх паразітаў, ад якіх цярпіць
Крыўду і наругу з месяца у месяц,
Але час настане - вораг задрыжыць.

*1935 г.*

## Допыт падпольшчыка

Скрыпнулі рэзка іржавыя дзверы, -
Ў камеру зайшоў паліцай.
Позіркам зверскім падпольшчыка змераў,
І закрычаў ненавісна: "Ўставай!".
І ў калідорах стаяла чатыры
Панскіх служакаў ліхіх.
Мужны змагар лёгка выйшаў наперад,

Погляд зняважлівы кінуў на іх.
Допыт рабіў камісар паліцэйскі,
Абаронца прыгнёту й няволі.
Ды толькі пачуў ён такое ў адказ:
"Падпольшчык не здрадзіць ніколі!".
Мужна трымаўся змагар у катоўні,
Гонар байца ён не даў сплямаваць.
Шалелі забойцы дарэмна, бо ім,
Ім не ўдалося героя зламаць.
Ў лютай злабе азвярэлыя каты
Труп акрываўлены кінулі ў двор…
Стойка бярог ён свае запаветы -
Мужным героям памёр.

*1936 г.*

## Янку Купалу

Тваёй "Жалейкі" спеў цудоўны
Народ прачнуцца заклікаў,
І прабудзіўся люд працоўны -
З прыгнётам барацьбу пачаў.
Запаланіў мяне малога
Дух непахісны гусляра,
І я іду яго дарогай
Да волі светлай і дабра.
Не мала я на гэтым шляху
Цярплю бяды й цяжкіх нягод,
Але іду па ім без страху,
Бо разам крочыць наш народ.
Ты розум свой, жыццё і сілу
Свайму народу прысвяціў,
І да апошняга дыхання
Яму нязменна праслужыў.
Цябе за подзвіг твой вялікі
Шануе наша ўся зямля,
І працай, барацьбой навекі
Звялічыў ты сваё імя.

*1935 г.*

## Маці

Маці - найлепшае слова,
Маці - найлепшая песня,
Гэтак, як родная мова,
Спеў салаўя на прадвесні.
Нас сустракае з дарогі
Ласка матулі у хаце,
Радасць тваю і трывогі
Можа адчуць толькі маці.
Кожная наша няўдача -
Ў матчыным сэрцы, як рана,
Толькі дабра яна хоча
Ці для дачкі, ці для сына.
Кожнага ў родны куточак,
Дзе калісь маці расціла,
Не дасыпаючы ночы…
Цягне нас моцная сіла.

*1940 г.*



## Нікіфар ЖАЛЬБА

(Аляксандр Бяленка,
1898-1991)

*Нарадзіўся ў вёсцы Гірычы, але пабудаваў сабе хату і жыў з сям'ёй у суседняй вёсцы Труханавічы. Першыя допісы з'явіліся ў 1923 годзе ў газетах "Наш сцяг" і "Змаганне" , якія выдаваліся ў Вільні. У 1926 годзе ў "Беларускай ніве" друкаваў розныя вясковыя здарэнні, якія адбываліся ў вёсках Дзятлаўшчыны, а ў газеце "Жыццё вёскі" за 1925 год апісваў цяжкае жыццё сваіх вяскоўцаў, называючы яго "безнадзейным палажэннем".*

*Уладзімір Калеснік адзін яго верш змясціў у зборніку заходнебеларускай паэзіі "Ростані волі" (Мн., 1990).*

*Памёр і пахаваны ў вёсцы Труханавічы.*

### Неаплатная ласка

Пісар важна сядзіць
За пісьменным сталом -
Ён сягоння прымае падаткі.
Ды на зло людзі йдуць
Неяк вось па адном,
Аж у пісара робяцца складкі.
- Што за ліха, Янук!
Падыходзь да стала -
Цяпер будзем мы браць ад скаціны.
Рэгістрацыя ў нас
Ўжо даўно прайшла,
А ніхто не плаціў з нашай гміны.
Янук, сколькі табе

За худобу плаціць?
Але… ў кнізе звядзём твае счоты…
Працант твой можам тут
Да граша палічыць,
Хоць не многа, а будзе работы…
- Я не знаю, панок, сколькі вам з мяне ўзяць,
Бо кабыла нядаўна прапала.
Не пакінуў па ёй
Я яшчэ бядаваць:
Яна рукі ў мяне адабрала…
- Дык мо скуру садраў,
Ды ўжо жыду прадаў?
Гміна грошы табе не прашчае.
- Дамагаешся, пан, каб астаткі прадаў?
Няхай пан гэта мне выбачае.
- Як не будзеш плаціць -
Мусім во напісаць
Да старосты аб гэтым пасланне…
- Колькі ж, пане, яно будзе мне каштаваць?
- Адной скуры на гэта мне стане…

*1925 г.*

***

Акрыльвай думку ты сваю,
Імкнісь насустрач сонцу.
Спявай ты песню пра зямлю,
Дзе жаль і сум бясконца.
Ты помні крыўды, помні здзек,
Што змалку дзён над намі.
Шукай на ўсе балечкі лек,
Не йдзі дзядоў слядамі.
Змаганнем знач свой кожны шаг,
Грымі аб перамогу.
Магутны гарт ты май ў грудзях,
Здымай з душы трывогу.
За праўду светлую ў жыцці
Аддай свае ўсе сілы.

І гэтым шляхам ты ісці
Прысягні да магілы.
*1933 г.*

***

Гэй, браточкі мае, дарагія,
К вам я словы звяртаю свае:
Распаляйце парывы святыя,
Што таяцца у сэрцы на дне.
За прыклад вы таго не бярыце,
Дзе сільнейшы слабых перамог.
Патаптаўшы ўсю праўду на свеце
І для волі зрабіўшы вастрог.
Мы не хочам такой перамогі,
Каб слабейшы нам стаўся рабом.
Расцярэбім сабе мы дарогі,
Што здаўна заваліў буралом.
Нам не трэба ганебнага шляху,
Па каторым вякамі ўсё йдуць…
Мы ў жыцці сваім хочам размаху,
Чысту праўду усім разгарнуць!
*1934 г.*

## Мой народ

Я ў песнях цябе выслаўляю
І ў думках жыву я табой,
Шчасліў тваім шчасцем бываю
І плачу тваёю слязой.
Жывеш ты - і я ўжо бадзёры,
Спяшаю да радасных дзён,
Што зломяць няпраўды запоры
І знішчаць вяковы праклён.
І цвёрдую ў сэрцы надзею
Нясуць перамогі над злом…

Нас выбіць ніхто не здалее
Турмою, жалезам, агнём!

*1937 г.*

***

І прыціх, як нема, адпяяў, адшумеў,
А на праўду ў грудзях агонь полымем б'е.
І злы лёс ў барацьбе сіл зламаць не здалеў -
Вестак толькі у свет не даваў аб сабе.
І заснуў, як рака, зімой скутая льдом,
Дый пад лёдам бурляць быстры воды яе,
І, як гляне вясна, зашуміць крыгалом,
Край паводкай яна наваколле залье.
Гэй ты, муза мая! Што ж ты стала ўбаку,
І стаіш, і маўчыш ў атупенні нямым.
Падыйдзі жа бліжэй, падай смела руку,
Песню мо як калісь з табой зноў запяем!

*1938 г.*

## Жніво

Ідзе жніво, калосікі худыя
Ў зямлю ўбітыя і градам, і дажджом.
Як цяжка іх збіраць, - сагнута спіна ные
І льецца пот усцяж няўпынным ручаём.
А сонца зверху паліць, як агнём, заўзята,
І вецер дзесь ў бары заснуў і ні сапе.
Ды толькі мятлікі надзеяю крылатай
Змягчаюць працы боль і радуюць цябе!
Азвецесь жнейкі ўсе вы - песняй-весялухай,
Хай рэхам адаб'е яе вяковы бор!
Няхай яна ўзляціць працоўнай раці духам,
І зойме ўвесь хутчэй жыццёвы свой прастор!

*1939 г.*



## Пятрусь ГРАНІТ

(Іван Івашэвіч, 1909-1980)

*Нарадзіўся ў вёсцы Зачэпічы ў сялянскай сям'і. Рана давялося яму выконваць усю цяжкую работу па гаспадарцы. Вучыўся прыхваткамі ў розных настаўнікаў. У 1927-1939 гадах працаваў брукарам у родных мясцінах. Пад уплывам вызвольнага руху перыяду Грамады, пад непасрэдным уздзеяннем юнак пачаў пісаць вершы, уключыўся ў культурна-асветныя справы і падпольную рэвалюцыйную барацьбу на вёсцы.*

*У 1930 годзе ўступіў у рады КПЗБ. Не раз арыштоўваўся, зведаў катаванні ў дэфензіве. Першы верш апублікаваў у 1933 годзе ў віленскай "Беларускай газеце". Друкаваўся ў газетах "Наша воля", "Беларускі летапіс" і іншых. Удзельнік Другой сусветнай вайны. Пасля вайны скончыў завочна Наваградскае педвучылішча, працаваў настаўнікам, загадчыкам пачатковай школы ў Зачэпічах. Выдаў зборнік вершаў для дзяцей "Сцяжынка" (1978).*

*Памёр і пахаваны ў Зачэпічах.*

### Мужыцкая восень

З палёў даўно сабралі
Збажыну мужыкі,
І па вясковых далях
Цяпер грымяць такі.
З братвы мужыцкай, шэрай
Бязмежна кожны рад,
Што хлеба скромнай мерай
Мо хопіць да Каляд.
Праходзяць дні без мовы,
І толькі вецер дзьме,
Сустрэчны гімн суровай
Складаючы зіме.
Далёка ў небным полі
Крык жураўлёў замоўк.
А над мужыцкай доляй
Завые сёння воўк.

*1933 г.*

## Са школы

Грамадой вясёлай
Дзеці йдуць са школы.
Разам і Мацейка
Йдзе, ды невясёлы.
Маці і з Сцяпанам
У сынка пытаюць:
- Аб чым, скажы, у школе
Дзетак навучаюць?
Смуціцца Мацейка:
- Расказаць не ўмею,
Што вучыцель кажа, -
Я не разумею,
Бо не нашай мовай
У школе гутораць.
- Праўда, што чужою, -
Яму бацька ўторыць.
- Але не смуціся,
А чакай цярпліва,
Завітае доля
І да нас шчаслiва.
Хутка ўжо здабудзем
Школу ў роднай мове,
Тады зразумееш
Ты усё даволі.

*1936 г.*

***

Зарою ўсход залоціцца,
лье чырвань на зямлю.
Пад п'яную разводзіцу
жыцця дзень новы родзіцца,
і я жыццё люблю!
Іграюць песні звонкія,
калосячы раллю.
На сонца струны тонкія,
што звіслі над старонкаю,
я песні разалью!

*1937 г.*

## Мяцеліца

Сярдзітая мяцеліца
І віхрам закруцілася,
Снег бел, як пер'е, сцелецца,
Туманам даль пакрылася
І гоніць снег палямі,
Віхры злуюцца, круцяцца,
Спяваюць або смуцяцца,
Гамонячы з парканамі.
Б'юць ў вокны,
ў шыбы белыя,
Снягамі бурна звонячы
І ў комінах рагочучы,
Віхуры ашалелыя.
Дзе дзеці пасінелыя
У кут ля печы туляцца,
І з голадам галубяцца
Іх вочы пахмурнелыя.
Так бачыць сонца й хочацца
Цяпло з яго праменнямі,
Вясеннюю разводзіцу,
Зіму забыцца з ветрамі.

*1937 г.*

## Кінь нуду і бяду!

Кінь нуду і бяду,
Забудзь слёзы і жаль,
Калі ў сэрцы агонь,
Гартуй грудзі, як сталь.
Падымі галаву,

Грымні песняй сваёй,
Каб нячлася яна
З краю ў край над зямлёй.
Кінь нуду і бяду,
Сонцу ў вочы глядзі
І да мэты сваёй
Ўсё пярэднім ідзі!..

*1938 г.*

## Хачу спаткаць вясну

Хачу спаткаць вясну,
вясну вясёлых песень,
пасля цяжкога сну,
як сонца край пацешыць.
На сноп яго зары,
на грэбень бору, лесу,
як выйдуць песняры
і сонца іх асвеціць.
Сплятуць красы вянок
з маёвых красак, песень,
развеюць сум і змрок,
што слаліся па лесе.
Хачу спаткаць вясну,
вясну красы і ўсмеху,
і на цяжкім шляху
паставіць шчасця веху.

*1938 г.*

## Зімовая ноч

Развітаўся з сонцам вечар чарнабровы,
усміхнуўся ночцы, стаў запальваць зоры.
І рассыпаў пэрлы у прастор блакітны,
заіскрыў агнямі залатыя ніткі.
І з-за лесу, гораў выплыў ясны месяц
і стаў гаспадарыць над палямі, лесам.
Загарэліс іскры на снежных раўнінах,
сыпнуліся зоры на лясы, даліны.
І каротка рэха ціха замірае,
зорным срэбрам месяц вёскі залівае
ды крадзецца ціха каля хат вясковых,
хоча ён паглянуць на галодных, голых.
А мароз сярдзіты закрыў лёдам шыбы,
каб не мог ўглядацца месяц да сялібы,
як сінеюць дзеці у трухлявай хаце
і як над калыскай ціха плача маці.

*Зачэпічы, 11.01.1938 г.*



# Віталь ГУБАРЭВІЧ
(1926-1976)

*Нарадзіўся 3 студзеня 1926 года ў вёсцы Наваельня. Рана застаўся без маці. Бацька Віталя спачатку працаваў псаломшчыкам у царкве, а потым, калі прыйшлі саветы, на чыгунцы. Але аднойчы ў іх дом завіталі людзі ў цывільным з наганамі, зрабілі ў хаце вобшук, ператрэслі ўсе кнігі, але нічога крымінальнага і падазронага не знайшлі. Тым не менш бацьку Віталя Губарэвіча Міхася Губарэвіча арыштавалі. Больш сын і ўсе родныя і блізкія яго людзі, а таксама вяскоўцы, ніколі Губарэвіча старэйшага не бачылі, нават нічога не змаглі давedацца пра яго далейшы лёс.*

*Калі пачалася вайна, немцы адправілі Віталя на працу ў Германію, дзе ён цяжка працаваў на адным з ваенных заводаў. На Дзятлаўшчыну юнак вярнуўся вясной 1945 года.*

*У 1946 годзе Віталь Губарэвіч становіцца сябрам Саюза вызвалення Беларусі (СВБ), найперш упаўнаважаным СВБ на Дзятлаўшчыне. Супрацоўнікі НКУС яго часта затрымлівалі, выклікалі юнака на допыты. Хутка Віталя арыштавалі і далі яму 10 гадоў, адправіўшы ў Варкуту, а потым у Інту. Адбылося гэта ў траўні 1947 года.*

*На родную Бацькаўшчыну Віталь Губарэвіч вярнуўся ў 1956 годзе, тады яму было толькі 30 гадоў. У Наваельні на Дзятлаўшчыне ён здаў экзамен за курс сярэдняй школы і паступіў на фармацэўтычны факультэт Ленінградскага хіміка-фармацэўтычнага інстытута, які скончыў, атрымаўшы спецыяльнасць правізара-фармацэўта. Працаваў у аптэках вёскі Наваельня, у Навагрудку, а потым яго прызначылі на працу ў вёску Дварэц аптэкарам.*

*Акрамя сваёй працы, Віталь вёў актыўнае грамадскае жыццё. Ён граў у Наваельненскім духавым аркест-*

*ры, арганізаваў тэатральны гурток у мясцовым клубе ў Дварцы. Вясковыя артысты часта паказвалі пастаноўкі па творах беларускіх драматургаў. Сам Віталь выдатна іграў камедыйныя ролі, пісаў розныя вершаваныя гумарэскі на тэмы вясковага жыцця і выконваў іх на сцэне. У вольны час ён спрабаваў пісаць вершы, займаўся перакладамі гумарэсак з польскага часопіса "Шпількі", які выпісваў. Збіраў і запісваў у вёсках Дзятлаўшчыны легенды і паданні. Але страчанае здароўе ў Германіі і 9 гадоў лагераў рана забралі ў яго жыццё. Віталя Губарэвіча не стала ў 1976 годзе. Яго пахавалі на могілках у вёсцы Дварэц Дзятлаўскага раёна, дзе да сённяшніх дзён стаіць сціплы помнічак.*

## Сябру

Пайшоў ты ад нас у краіну спакою…
Закончыў нявольніцтва мукі…
І сёння паставілі крыж над табою
Сяброўскія верныя рукі.
Над свежай магілай з студзёнае глебы
Не будуць шаптацца бярозы…
І толькі палярнае, хмарнае неба
Пралье свае сумныя слёзы…
Ды што яму - неба? Яно ўжо прывыкла:
Не першы ты, брат, не апошні.
Мільёны такіх вось, як ты, гарамыкаў
Ляглі ў гэтай тундры пустошнай.
Ні бацька, ні маці, ні люба дзяўчына
Над трупам тваім не галосіць…
Ці чуеце, брацця? Яго дамавіна
Ў маўклівых нябёс помсты просіць…

## Да Ларысы Геніюш

Зрадніла мяне муза не ў хаце,
Прыйшла за краты да мяне яна.
І першы гук мой аб нявольным браце
Зляцеў у свет з турэмнага вакна.
Я ліру змайстраваў сваёй рукою,

І струны крыху тоўстыя на ёй,
І непрыемна чуць яе парою,
Бо вуха рэжа востры голас мой.
Ды што рабіць? І я спяваў калісьці
Лірычну песню. Але гэты спеў
Гучаў у сёлах родных без карысці
І не будзіў майго народа гнеў.
Прабач мне, самазванаму паэту,
Ў няроўнай вырасшаму барацьбе,
Што пасвячаю табе песню гэту,
І што сястрою называю ў ім цябе.
Ты гамаю акордаў мілагучных
Напоўніла мне сэрца да краёў,
І вобразаў так родных, неадлучных
Чарга перад вачыма ўстала зноў.
І я за ліру ўзяўся міма волі,
І грозна песня загула мая,
Яна пяе братам маім аб волі,
Аб нашых родных, дарагіх краях.
Але не плач у песні гэтай льецца -
Яна гучыць, як атамана кліч,
Пракляццем грозным з сэрца майго рвецца,
Ўздымае помсты ўсенародны біч.
І пакуль ў маім краі бяздольным
Шчэ не змоўк гук радзімае мовы,
Буду несці я брацціям нявольным
Кастуся Каліноўскага словы.
Каб народ мой крывіцкі, слаўны
Разбудзілі слоў маіх стрэлы,
Каб у небе наш Сцяг дзяржаўны
Узвіўся бела-чырвона-белы.
Ціснуць сэрца тугою жалезнай
Драцяныя калючыя лапы,
Бо з Радзімы па тундры бязмежнай
Ўсё ідуць ды ідуць этапы.
І ў сэрцы нашым гнаіцца
Несцярпіма балючая рана,
Аднак плакаць не трэба вучыцца.
Не, хаўтуры спраўляць яшчэ рана!

*1955 г. Комі АССР, Інта, 1-шы ОЛП.*



**Віктар ШЫМУК**
(1933-1998)

*Нарадзіўся ў вёсцы Змяёўцы. Пасля заканчэння васьмігодкі працаваў адказным сакратаром дзятлаўскай раённай газеты "За новую вёску". Вучыўся ў вячэрняй школе. У 1957 годзе скончыў факультэт журналістыкі Белдзяржуніверсітэта. Працаваў у газетах "Звязда", "ЛІМ", на Беларускім радыё.*

*Літаратурную працу пачаў у 1950 годзе. Выдаў кнігі вершаў "Мы вясне дапамагаем" (1962), "Дочкі сіняга Нёмана" (1964), "Свіцязянскія хвалі" (1968), "Світанне" (1972), "Ад хаты да хаты…" (1983), "Спелы жнівень" (1990) і іншыя. У 2020 годзе выйшаў з друку аднатомнік выбраных твораў "Чалавечая душа - праменьчык сонца".*

*Памёр 18 жніўня 1998 года. Пахаваны ў Дзятлаве.*

## Родная мова

Той-сёй гаворыць: аджывае
Ўжо мова родная мая.
А я скажу: яна жывая,
Пакуль жывеш і ты, і я!
Пакуль цячэ павольна Прыпяць,
І Свіцязь плешча ў берагі,

І васількі цвітуць у жыце,
І пахнуць росныя лугі.
На роднай мове размаўляе
Мой слаўны працавіты люд.
І я заўсёды ўспамінаю
Над Нёманам свой родны кут.
Там, калі родзіцца дзіцятка,
Дык у вячэрняй цішыні,
Як сотні год, спявае матка:
"Саколік, хлопчык мой, засні.
Ты падрастай, нібы дубочак,
Не забывай свой мілы край.
Ой, люлі, люлі, спі, сыночак,
Паснулі куркі ўсе, бай-бай".
Як толькі дзеці падрастаюць
І едуць у далёкі свет -
Па-беларуску бласлаўляюць
Бацькі іх, гледзячы услед.
Калі ж раз'едуцца, я веру -
На Ангары, ля Іртыша
Пяюць пра зорку пра Венеру,
Што над зямлёю узышла.
Пяюць на мове беларускай,
Як пелі з даўніх тых часін.
І падпяваюць ім і рускі,
І украінец, і грузін...
Што наша мова аджывае,
Гаворыць часта мне той-сёй.
Ды, бедалага, сам не знае
Пакуль ён мовы ні адной.
Паехаў бы ён лепш на Свіцязь,
На Нёман ці на рэчку Друць,
Паслухаў бы, як у блакіце
На золку жаўранкі пяюць,
Як маці ціха будзіць ранкам
Свайго прыезджага сынка:
"Уставай, сыночак, на аладкі...
Вось... выпі, сынку, малака...".

## Родны кут

Не першы год жыву ў сталіцы,
Не першы год я гарадскі...
Чаму ж мне часта поле сніцца,
Якім я крочу напрасткі?
Чаму мне сняцца хвалі жыта,
Сінеча лёну за сялом
І летні луг, дзе я нібыта
П'ю са збанка ваду нагбом?
Чаму мне сняцца пералескі,
І хвалі Моўчадзі-ракі,
І задуменныя пралескі,
І неба весняга блакіт?
Люблю цябе, мая сталіца,
Каторы год жыву я тут.
І ўсё ж да скону будзе сніцца
Майго дзяцінства родны кут.

***

Жыццё пражыць - не поле перайсці,
Былі і завірухі, і спякоты.
Але заўсёды лепш было ў жыцці
З тваёй любоўю і з тваёй пяшчотай.

## Маё Наднямонне

Чую - сосны гамоняць,
Шэпчуць вербы пахілыя.
То маё Наднямонне -
Дарагое і мілае.
Я па сцежцы ступаю,
Што да Свіцязі сцелецца,
Пералескамі, гаем
І мурожнай аселіцай.
Пасвіў панскі тут статак
Гразкай восенню босы я,

І гібеў тут мой бацька
Над чужымі пракосамі.
Адышлі ўжо ліхія
Тыя дні і не вернуцца.
Глянь, дарогі якія
Каля Нёмана сцелюцца!
Па іх дружна і молада
Ходзяць людзі шчаслівыя,
І жытнёвае золата
Жнуць камбайны руплівыя.
Чую - сосны гамоняць,
Шэпчуць вербы пахілыя.
То маё Наднямонне -
Дарагое і мілае.

## Ехалі да млына

Па дарозе
Калёсы плылі,
З бацькам ехалі
Ў вёску Краглі.
Ля дарогі -
Быльнёг ды палын,
А мы едзем,
Мы едзем у млын.
Бо адна ў нас
Патрэба з патрэб -
Трэба жыта змалоць
На хлеб.
А ў Краглях
Уцалеў з вайны
Невялікі млынок
Вадзяны.
І цяпер
З наваколля ўсяго
Едуць людзі
Зноў да яго.
Вось і рэчка Маўчадка
Плыве
І ваду
На каменні ліе.
Жорны круцяцца
І скрыпяць,
Добра жыта
Ў латок засыпаць...
Пахне першаю
Белай мукой.
Усміхаецца
Бацька мой.
Пакідалі мы
Вёску Краглі,
Зноў дадому
Калёсы плылі.
...Хлеб навеяў
Сягоння ўспамін
Пра краглёўскі
Маленькі млын.

## Тры рачулкі

Выйду сонечным ранкам
За ваколіцу я.
Як жывеш ты, Ятранка,
Рачулка мая?
Ты шуміш напрадвесні
Між густых лазнякоў.
Гэту простую песню
Чую сёння я зноў.
Ты цячэш без аглядкі,
Шлях скіраваны твой
Да сястры, да Маўчадкі,
Да рачулкі другой.
А далей, між паніклых
Кучаравых ракіт,
Ўецца рэчка Паніква,
Ў хвалях - неба блакіт.
Вы - як цуд, як абнова,
Тры рачулкі-сястры.
...Сустракае вас Нёман
У зялёным бары.

## Не прызнавайся...

Напіліся два дружкі,
Ледзь паўзуць дахаты.
- П'яны сёння я такі...
- І я п'янаваты...
- Ой, што жонцы я сваёй
Скажу? Так набраўся...
- А ты, дружа, ў гэтым ёй
І не прызнавайся...

## Размова з жонкай

- Цябе я на руках
Насіць гатоў.
Гатоў сагрэць
Цяплом свайго кахання.
- Ты лепш прынёс бы
Мне бярэмя дроў,
Бо печ не будзе чым
Паліць уранні.

## Зяць і цешча

Шмат розных дарог
У жыцці, канешне…
Як зяць на парог,
Цешча - за яешню.
Зяць - бутэльку на стол,
А закуску - цешча.
А чаму ж навакол
Языкамі плешчуць.
Што цешча - змяя,
Што не любіць зяця.
А вось цешча мая
Не такая, браце.
- Ну, садзіся, зяцёк
Родны мой, у покуць.
Вось вяндліна, мядок,
Усяго ў нас хопіць.
Гавары, як жа там
Маецца дачушка.
І чаму не піша нам
Ўнучка-весялушка?
Напаўняе мне зноў
Цешча шчыра шклянку.
Размаўляць я гатоў
З цешчаю да ранку.
Пра жонку сваю,
Пра маю Алёнку,
Я цешчы хвалю,
Зразумела, жонку…
Я цешчу заўжды
Дужа паважаю -
Госцем раз у тры гады
У яе бываю.



## Мікола ГРЫШАН
(1933-2017)

*Нарадзіўся ў вёсцы Чэрніхава Баранавіцкага раёна. У Баранавічах скончыў сярэднюю школу і настаўніцкі інстытут.*

*Першы друкаваны верш з'явіўся ў 1942 годзе. З 1950 года пачалося супрацоўніцтва з многімі газетамі і часопісамі. Вершы друкаваў у дзятлаўскай раённай газеце "Перамога", "Настаўніцкай газеце", тыднёвіку "Ніва" (Беласток) і ў іншых выданнях.*

*У 1960 годзе скончыў педінстытут імя Янкі Купалы ў Гародні.*

*З 1952 па 1993 год працаваў на Дзятлаўшчыне настаўнікам беларускай мовы і літаратуры.*

*Пасля выхаду на пенсію жыў у Дзятлаве, а апошнія гады - у дачкі ў Менску. Быў старшынём Дзятлаўскай раённай арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны. Пры жыцці выдаў адзіны зборнік паэзіі "Вернасць".*

### Вернасць

Ёсць на свеце краіна такая,
Там лугі, нівы, рэкі і гай.
А зямля, што малітва святая,
Хоць да раны яе прыкладай.
Яе дзеці, народжаны ў горы,
Праглі звацца спрадвеку людзьмі,
Ды пад сонцам, нябесным сузор'ем
Сабе долі здабыць не маглі.
Як мне люба, як сэрца кранае
Усё чыста, што ў мілым краі:
Сонца, ранкам што ўсходзіць з-за гаю,
Колас жытні на роднай зямлі.

І зямлю, дарагую, святую,
Шчыра, верна люблю ўсёй душой,
З мілай ласкай яе я цалую,
Так, як рукі матулі сваёй.

## Дух Максіма

Мы ўсе пад зоркаю Максіма
Сваё жыццё штодня снуём,
І ў нашых сэрцах яго імя
Іскрыцца любасці агнём.
Мы ад калыскі, з нараджэння
Ўбіраем дух яго надзей.
Хто мае чыстае сумленне -
Не заспакоіцца нідзе
За лёс Радзімы, люд гаротны,
Што хваляваў яго ўвесь час.
Ён там і ў міг перадсмяротны,
Пра край свой думаў і пра нас.
Плыве вясна штогод на крылах
У кліках-песнях журавоў.
Чакае край самотна, міла
Вяртання з выраю дамоў
Яго, Страціма, з-пад аблокаў.
Яго няма - ён там адзін.
А кліч нясецца адзінока:
- Прыйдзі, зірні на нас, Максім!

## Жыву для горкай праўды і надзей...

Жыву для горкай праўды і надзей,
І на душы, што неба сінь, празрыстасць.
Я не чакаю ласкі ад людзей -
Такі закон для нас дыктуе існасць.
Душу мне кожны можа расквяліць,
І я ў адказ зрабіць магу нямнога.
Мне хочацца адно па-людску жыць

І не зысці з праўдзівае дарогі.
І хоць мяне кудысьці кліча даль -
Наперад я: няма мне перашкоды,
Бо сёння я - і сейбіт, і каваль,
Бо сёння я жыву душой з народам.

## Нічога мне не трэба ад нікога...

Нічога мне не трэба ад нікога,
Што я жыву - ніякі не сакрэт.
Не сорам мне, калі асудзіць строга
Мяне за штось патрабавальны свет.
А ўсё ж хвалюе час сваёй істотай,
Хоць перад ім не быў век у даўгу:
Нічога не рабіў сабе я ўпотай -
Усё аддаў, што мог і што магу.
Гады спадаюць, як ад дрэва лісце,
Мой час таксама, як другіх, міне,
Прашу вас, людзі, толькі не хваліце
Мяне, як буду я ў труне.
Дарэмна слоў не кідайце на вецер,
Ад іх мне аніяк не стане лепш...
Адзіным сведкам пра мяне на свеце
Пасля мяне застанецца мой верш.

## Бацькаўшчына

Боль за цябе лунае да нябёс
І прымушае сэрца моцна біцца,
Для нас ты - жыватворная крыніца,
Якую ў нашы сэрцы Бог прынёс.

Калі ж настане міг, каб мог пазбыцца
Мой край спрадвечных бед і слёз?
А то пакуль што толькі сніцца
Майму народу лепшы лёс.



## Яўген МАЦВЕЕЎ
(1937-2005)

*Нарадзіўся на Пскоўшчыне. У 1963 годзе скончыў Менскі медыцынскі інстытут. Па размеркаванні быў накіраваны ў рэспубліканскі тубсанаторый "Наваельня", дзе ў далейшым адпрацаваў больш за сорак гадоў, спачатку доктарам-фтызіятрам, а пасля - намеснікам галоўнага ўрача па медчасткы. У 1972 годзе быў узнагароджаны знакам "Выдатнік аховы здароўя".*

*Наваельня стала для Яўгена Матвеева другой радзімай. Жыхарам Дзятлаўшчыны ён стаў вядомы не толькі як выдатны лекар, але і як таленавіты паэт і мастак. З-пад яго пяра выйшлі ў свет восем зборнікаў цудоўных вершаў - шэсць пры жыцці і два пасля смерці. Матэрыялы для апошніх сабрала ў хатнім архіве яго жонка, таксама медык па прафесіі - Ніла Іванаўна Мацвеева.*

*Паэт доўгі час займаўся разьбой па дрэве. Многія яго работы перайшлі ў фонд Дзятлаўскага гістарычна-краязнаўчага музея і неаднаразова ўдзельнічалі ў абласных выставах.*

*Памёр і пахаваны ў Наваельні.*

### Беларуская мова

Белорусский язык - "беларуская мова",
Голас продкаў-славян я ў табе пазнаю,
Так чаруе тваё першароднае слова,
Як прарочыя гуслі пра нешта пяюць.
Можа быць, пра адвечную долю-нядолю
Ці ад слёз і крыві пачарнелы прастор.
І гарэла яна, і стагнала ад болю,
Ды жывая ізноў, усё змагла перажыць.

Захад скрозь рабаваў, лезлі орды з усходу,
Гнулі ўлады, нядоля і невуцтва груз.
Не зламаны народ- у брацтве сілы вытокі.
Быццам казачны дуб наша Белая Русь.
Дык аб чым жа сумуюць прарочыя гуслі?
Мова спеўная, у вуснах так рэдка гучыш.
Або з "аистом" разам, па-тутэйшаму з "буслам"
Паляцела ў глухмень, дзе крыніцы-ключы?
Нават дуб векавы з валатоўскай выправай
Без трывалых асноў можа бура зламаць.
Не эфірны "пясняр" мусіць пецць "калыханку",
А святы запавет з вуснаў маці гучаць.

***

І лашчыць цябе сонца,
 і лашчыць цябе мора,
 і лашчыць цябе вецер -
Зайздрошчу трошкі ім.
Але была б ты побач,
 то я, назло прыродзе,
 цябе адзін бы лашчыў
На зайздрасць усім траім.
Каханне лепш за сонца,
 за плёскат хваль пяшчотней,
 нястрымнае, бы вецер -
Так мудры верш сказаў.
Яна - мая багіня,
Акрылены ўжо ёю,
І здольны стаць я годным
Супернікам стыхій.
Няхай цалуе сонца,
 пяшчотна шэпча вецер,
 хай абдымае мора.
Але адчуй сама,
Што ты змяніць гатова
 усе спакусы свету
 на шум далёкіх сосен,

Дзе з розуму сыходжу,
бо тут цябе няма.
*Пераклад з рускай мовы Алены Абрамчык.*

* * *

Гай сонцам абліты вясеннім.
Уначы - сакавіцкі мароз.
Вяснушкі-праталіны, цені
На снезе між чуйных бяроз.
Нястрымны жыццёвыя сокі
У вечным парыве сваім,
Бо прадвызначэннем высокім
Лісцём стаць, суквеццямі ім.
Падсечкаў рабіць я не буду,
К ствалу прытулюся шчакой:
Не целу уцеху здабуду -
Душа атрымае спакой.

* * *

Цягну, як поезд, за сабой
Узрост - ланцуг бадзяг-вагонаў.
У іх - надзей звон, скрыгат-боль,
Дзіцячы смех, старога стогны.

Ужо шэсць паўстанкаў - круглых дат,
І як дарога апусцела!
Глытаю дым балючых страт,
Цягну цяжар душы і цела.

Гудзе ў вушах. Малю без слоў:
Мяне прабачце, неба, людзі!
То не гудок - кліч сэрца - зноў! -
Я веру, ён пачуты будзе…
*Пераклад з рускай мовы Георгія Шундрыка.*



## Алег АБЛАЖЭЙ
(1954-2016)

*Нарадзіўся ў вёсцы Лезнявічы. Скончыў Віцебскі педагагічны інстытут і Віленскі дзяржаўны мастацкі інстытут. Жыў у Вільні (Летува). Займаўся жывапісам, акварэллю, ілюстраваў кнігі і пісаў мастацкія творы на беларускай мове. Быў мастацкім рэдактарам беларускай газеты "Рунь", якая выдавалася ў Літве, а таксама мастацкім рэдактарам дзіцячага часопіса "Лола" (Летува).*

*У яго афармленні ў Беларусі выйшлі творы В. Жуковіча "Гуканне вясны", Д. Бічэль "Гараднічанка", у Маскве - "Шведскія казкі" Э. Хэмінгуэя, "Сербская паэзія", у Вільні - "Казка пра Султана" і іншыя. У 1984-1986 гадах у Летутве была выдадзена серыя канвертаў з партрэтамі літоўскіх дзеячаў у яго афармленні, а таксама серыя паштовак. Маляваў партрэты вядомых дзеячаў і краявіды. Любімая тэма мастака была - жанчына ў фантастычных строях і проста жанчына. Яго працы выстаўляліся неаднаразова ў Летуве, Польшчы, Германіі, Эстоніі, Латвіі, Беларусі.*

*У вольны час пісаў таксама замалёўкі, апавяданні і вершы. У 2015 годзе ў Менску выйшла кніга "Красамоўнае сэрца".*

*Памёр 18 траўня 2016 года ў Вільні. Пахаваны ў роднай вёсцы Лезнявічы на Дзятлаўшчыне.*

### Therapia

К.Б.

На ўсе замкі замкну і ўтаплю ключы,
Тугу па тым, што не вярнуць ніколі,
Прэч з сэрца выкіну. Маўчы,

Душа мая, і развітайся з болем.
У ваду ўвайду і люстра разаб'ю
Вазёрнае. Мне ў вочы пырсне сонца -
І я, як роўны, увальюся у сям'ю
Аблокаў вольных, што жывуць бясконца.
І я ў вазёрным небе палячу
Паміж двух сонцаў, лёгка і без мэты.
І я адчую - гэтак я лячу
Сябе самога, разам з цэлым светам.
Ёсць свет ўва мне, і ў свеце - я,
Няма перагародак паміж намі.
І сам я - парастак, і сам сабе - ралля,
І да вады жывой цягнуся каранямі.
Так, я - жывы, але мяне няма
Для вас усіх, панурых і зайздросных.
І для мяне зайграе нездарма
Арган нябачны ў меднаствольных соснах.
І буду я ў табе, і ты - ува мне,
Адной істотай станем днямі і начамі,
І я забудуся, што недзе там, на дне,
Зламысны д'ябал бавіцца ключамі.

***

А я прачнуўся раніцой і зразумеў,
Што я ніколі не памру, ніколі,
Бо ноччу цёплы дожджык прашумеў,
Бы Моцарт, над зялёным полем.
І я пачуў - шапталі ціха рэчы:
- З табою застанемся мы, з табою -
Такім далёкім мне здаваўся вечар,
І сонца ўставала над вадою.
І адбылася першая сустрэча,
Мая рука спаткалася з тваёю.
І мы ў сваіх руках трымалі вечнасць,
Нібы штандар маленькі над сабою.

***

Мой сябра крэмень, навучы
Іскру з бяды любое высеч.
Так таямніча ты маўчыш -
Што ж, - у каменняў гэткі звычай.
А я не камень - чалавек,
І крык мой нема мкне ў нябёсы:
Ці так і будзе цэлы век
Маё жыццё змаганнем з лёсам?..

***

Мой брат палын, абодва мы з табой
Не выбіралі часу ані глебы,
Дзе нарадзіўся, там цярпі і стой
Пад непрытульным шэрым небам.
А я рвануўся - я хацеў
Перамагчы свой лёс нягеглы.
Ці ж бы я гэтак згінуць меў,
Нібы у полі лён палеглы?
Але дасюль з адной зямлі
Адну мы горыч п'ём. Мой браце,
Ці мяне крылы падвялі,
Ці то карэнні не пускаюць…



**Георгій ШУНДРЫК**
(1936)

*Нарадзіўся на Слонімшчыне, а потым сям'я пераехала на Дзятлаўшчыну. Скончыўшы пачатковую, а затым сямігадовую школы, паступіў у Наваградскае педвучылішча, а потым - геаграфічны факультэт БДУ.*

*Пасля арміі дзесяць гадоў працаваў выхавацелем у школе-інтэрнаце Дзятлава, арганізаваў духавы аркестр, вёў гурткі. Выкладаў геаграфію ў СШ № 2 г. Дзятлава. Урокі вёў на беларускай мове.*

*Свае вершы друкаваў у мясцовым і рэспубліканскім друку.*

## Не саромеюся

Брыдка, крыўдна:
згоцаць польку
Не магу - ўжо рэдкі вус.
Не саромеюся толькі,
Што ад роду беларус.
Мовай сваёй ганаруся
І ніколі не аддам, -
Знаю: з роднай Беларуссю
Можа здарыцца бяда.
Мову ў клопатах адвечных
Для нас продкі збераглі,
З ёй мы з роднага гняздзечка
Разышліся па зямлі.
У мове - памяць пакаленняў,
Людзей сіла, іх імпэт,
Невычэрпны дух натхнення,
Што дабрэйшым робіць свет.
Свая мова - моцна, цесна, -
Здольная нас паяднаць.
Без яе "пасад пачэсны"
Нам ніколі не заняць.
Запытаюць ў судзе Божым:
Дзе сягаў твой след і шлях?
Што зрабілі, людзі, кожны,
Каб жыла яна ў вяках?..
Ці пражыць нам
без хаўрусаў?
Адно ведама і мне -
Будзе мова беларусаў
Гучаць у нашай старане!

## Дзяцінства кут

О, дзень чаканы, час шчаслівы!
Так часта ў снах бываю тут.
З журбою, ціхай і шчымлівай,
Прыйшоў к табе, дзяцінства кут.
Ніжэй, ніжэй кругом узгоркі,
Вышэй - шацёр старых бяроз.
Не, не забыў я хлеб той горкі,
Чаму ж к табе душой прырос?
Мо за вяскоўцаў гумар меткі?
За краявідаў прыгажосць?
За летні луг, дзе морам кветкі
І кожны дзень - жаданы госць?
За гоман санкавы над грудам?
У рачулцы весняй крыгаў ход?
Ці ў небе - ў снах - з дзівосным гудам
Двухпавярховы самалёт?
Тут ў сорак пятым мая мама
Найшчаслівейшаю была! -
Ад ранку і да ночы самай
Усё звінела, ўсё вяла...
Хаджу. Знаёма мне і нова.
Са мной - не цяжка! - груз гадоў.
Скажы мне, кут, ты толькі слова,
І я спяваць табе гатоў...

## Зіма

Белая ўрачыстасць,
Цішыня, спакой.
Снег бялютка-чысты
Зноў мне дарыш свой.
Коўдраю-сурвэтай
Легла на зямлю;
Я цябе за гэта
І за ўсё люблю.

Сонейка зноў ззяе,
Хоць і рэдкі госць,
Светла азірае
Гэту прыгажосць.
У карунках-строях
Заінелы лес.
Дзесьці без настрою
Звер у куст палез.
А мароз-гарэза -
Наш сваволльнік-зух,
Просіцца і лезе
Пад стары кажух.

***

Ты сказала: душа ачарсцвела
І ў сэрцы няма ўжо агню.
Мо, таму запытальна, нясмела
Твой гарэзлівы позірк лаўлю.

Ведай, ноччу да самага ранку
На Цябе мае вочы глядзяць.
Я ў мроях цябе, дзятлаўчанку,
Лашчыць стаў, цалаваць-мілаваць.

Лісцем высланы ў садзе дарожкі -
Больш прыгожай не будзе пары.
Закахайся, красуня, хоць трошкі,
Мне надзею і сон падары.



**Лідзія НІЧЫПАР**
(1944)

*Нарадзілася ў вёсцы Прудцы Шчучынскага раёна. Скончыла Каменскую сярэднюю школу і факультэт методыкі пачатковага навучання Гарадзенскага педінстытута імя Янкі Купалы.*

*У 1964 годзе пераехала працаваць у Дзятлаўскую школу-інтэрнат. Да 1970 года працавала выхавацелем, затым - намеснікам дырэктара па выхаваўчай рабоце да 1986 года. З 1986 і да выхаду на пенсію - выхавацелем у школе-інтэрнаце.*

*Вершы піша ўсё жыццё, друкуецца ў беларускіх перыядычных выданнях. Сябра дзятлаўскага літаратурнага аб'яднання "Пралескі".*

## Родны кут

Усё пачыналася вось тут,
Дзе верас сіні палыхае.
Мая радзіма, родны кут,
Цябе мне вельмі не хапае.
Я ў снах прыходжу да цябе
І бачу дзіўныя малюнкі:
Дзяцінства, росы на траве
Блішчаць, зіхцяць, нібы карункі.
Тут сосны стромкія стаяць
І пахнуць водарам смалістым,
А з-пад зямлі крынічка б'е
Слязою чыстай і празрыстай.

Ўсё пачыналася вось тут,
Мясцін я гэтых не забуду…
Мая радзіма, родны кут,
З табой заўжды душою буду.

## Успаміны

Дзяцінства маё, ты прыходзіш у снах,
І хоць паміж намі - гадоў карагоды,
А я ўсё бачу, як кружаць буслы,
І я ў іх прашу ўсё пагоду прызначыць.
Маленства святое. Рамонкавы луг,
Купчастыя вербы схіліліся нізка,
Каліна цвіце, і чароты шумяць -
Усё гэта сэрцу знаёма і блізка.
І ранішні холад, й раса на траве,
Зара палымнее амаль на паўнеба.
Мы ў лес летнім ранкам спяшаем хутчэй,
І мама дае нам кавалачак хлеба.
Які ён быў смачны ў дзяцінстве той хлеб,
Што мама ў печы пякла на аеры!
…Я дзецям сваім гавару пра яго,
Ды толькі ім цяжка ў тое паверыць.

## Бывай, лета!

Яшчэ не паспелі нацешыцца з лета,
Яшчэ ва ўспамінах квітнеючы май,
Ды падаюць спелыя яблыкі ў садзе,
Бывай, маё мілае лета, бывай!
Так хочацца роснай прабегчы сцяжынай,
І кліча нас рэчка, і вабіць нас гай,
Ды стала чырвонаю ў лузе каліна,
Бывай, маё мілае лета, бывай!
У лесе так ціха, сціх гоман птушыны,
І выбегла з лесу бярозка на ўскрай,
Ды толькі лісточкі яе пажаўцелі,
Бывай, маё мілае лета, бывай!

## Асенняя пара

Асенняя пара - шчымлівая пяшчота,
Заўсёды ты трывожыш сэрца мне,
Як ззяе пазалотай дрэў лістота
І павуцінка вісне на акне!
Тады сумуюць астры каля плоту,
І спелыя антонаўкі вісяць,
І штосьці адбываецца ў прыродзе,
Што словамі таго не перадаць.
Тады пад вокнамі палае куст барвовы,
І цішыня пануе навакол,
І лёгкі ветрык кружыць ліст кляновы,
Што ціха апускаецца на дол.

## Бацькоўская хата

Якое вялікае шчасце,
Што маем бацькоўскую хату.
Няхай абыходзяць няшчасці
Старых маіх маму і тату.
Так добра прыехаць дадому,
Радзіме сваёй пакланіцца,
І дубу за вёскай старому,
Рачулцы, што ў полі бруіцца.
А дома заўсёды чакаюць,
Ці ў будзень прыедзеш, ці ў святы.
Так ветліва нас сустракаюць
І ставяць на стол, чым багаты.
Кавалак духмянага хлеба
І міску гарачае стравы…
І мне больш нічога не трэба -
Паслухаць пра хатнія справы.

## Беларусь

Беларусь, мая маці, красою тваёй
Хіба можна цяпер не дзівіцца?

Нахіліліся вербы над ціхай ракой,
Нібы хочуць вадзіцы напіцца.
Ліпы, клёны паўсталі навокал дарог,
Прыгажуні-бярозы сумуюць,
Ну а сосны дзівуюць такой вышынёй,
І на іх аблачынкі начуюць.
Хоць няма на зямлі вадападаў і скал,
Стромкіх гор, дзе лавіны бушуюць,
Ды затое ж так многа блакітных азёр
І дуброў, што нам сэрцы хвалююць.
Верасоў, тапалёў і густых тумаоў
Ды бусліных гняздоўяў над хатай,
Летам ягад салодкіх, пахучых грыбоў
У Беларусі таксама багата.
Беларусь мая мілая, як я люблю
Твае пушчы, бары і крыніцы.
Шмат гадоў на зямлі нашай мілай хаджу,
Усё ніяк не магу надзівіцца.



**Раіса ЛАКІЗА**
(1948)

*Нарадзілася ў вёсцы Ляхі Нясвіжскага раёна Менскай вобласці. Скончыла Гарадзенскі педагагічны інстытут імя Янкі Купалы. Працавала настаўніцай, намеснікам дырэктара па вучэбна-выхаваўчай рабоце ў школах Дзятлаўскага раёна, інспектарам аддзела адукацыі Дзятлаўскага райвыканкама.*

*З вершамі выступае на старонках дзятлаўскай раённай газеты "Перамога". З'яўляецца сябрам мясцовага літаратурнага аб'яднання "Пралескі".*

## Успаміны

Лёс павёў мяне з роднай хаціны,
Падрываў і круціў карані -
Не забыць мне малую радзіму,
Той куточак бацькоўскай зямлі.
Памяць холадам сэрца кранае:
Мая вёска амаль без людзей…
Як жывеш ты, зямелька пустая,
Дзе прагалы часцей і часцей.
Успаміны, штодзень успаміны…
Вобраз краю ўзнікае да слёз,
Памяць сэрца не зможа пакінуць
Родны кут, дзе радзіўся і рос.
Бачу вобраз той яблынькі-цуда
У вянчальным уборы-красе,
Яе яблычак смак не забуду -
Мне адведаць іх маці нясе.
Як не ўспомніць пару сенажаці:

Пад лінейку вяскоўцы ідуць,
І наперадзе косіць мой бацька,
А жанчыны валкі ўжо кладуць.
Над акацыяй рояцца пчолы,
Кмін дурманіць ў гародчыку тым,
Ад зямлі пар віецца наўкола,
А яшчэ - пахне хлебам ржаным.
Ў роднай вёсачцы тут на прыволлі
Палавіну пакінула сэрца -
Не забудзеш такое ніколі,
Дзе душа напаўнялася сэнсам.
І жывеш ты, радзіма малая:
Карані не засохлі навек…
І не зніклая ты, не пустая,
Бо шануе цябе чалавек.

## Старонкі жыцця

Зямлі дзятлаўскай вобразы мілыя
Ўсё ярчэй паўстаюць год за годам,
З вамі лёс назаўжды параднiў мяне,
Хоць сама я з Нясвіжчыны родам.
Вёскі Явар, Раготна, Ахонава -
Гэта вы майго сэрца скарбонкі.
Працаваць тут лічыла я з гонарам -
Не было даражэйшай старонкі.
Часта сняцца гады хвінявіцкія,
У палоне пяшчотна трымаюць.
І калегі такія мне блізкія,
Заўжды ў госці мяне запрашаюць.
Ў сельскіх школах прайшлі мае вёсны,
Колькі помню яскравых падзей!
А цяпер так трывожна за вёскі,
Што пусцеюць яны без людзей.
Зямлю гэту амаль паўстагоддзя
Называю другою радзімай…
Таму дыхаю з ёю у згодзе,
Пакуль сэрца маё не астыне.

## Буслы

Прыляцела з далёкіх краёў
Ў вёску пара прыгожых буслоў.
Нашы людзі на шчасце згадалі,
Каб буслы для іх блізкімі сталі.
І здзіўляліся ўсе жыхары -
На слупах тэлеграфных буслы…
І чакалі іх кожнай вясной,
Ганарыліся вёскай сваёй.
І бурліла жыццё ў маёй вёсцы,
Жылі людзі без зайздрасці, злосці,
А буслы кожны год прылятaлі,
На слупах ля людзей гняздавалі.
Птушкі сталі для вёскі натхненнем,
Верай моцнай ў яе адраджэнне -
Ў вышыні бусел-воін стаяў,
Быццам ўсіх жыхароў зберагаў.
- Над сядзібай маёй - Божы дар!, -
Так суседзям крычаў гаспадар.
Усе людзі выходзілі з хатаў…
- Вось, глядзіце, у гняздзе бусляняты!..
І вяскоўцы жылі, працавалі,
Кожны год тых буслоў сустракалі…
А жыццё як імгненне ляцела -
Мая вёска з гадамі пусцела…
Засталіся жывымі тры хаты,
Не клякочуць даўно бусляняты.
Слуп за слупам даўно пахіліўся,
Апусцелі і гнёзды у высі.
Без людзей птушкі жыць не хацелі,
Па палях нашых ходзяць, як цені.
Больш не кружаць над вёскай маёй, -
А навокал - трывожны спакой.
Мае родныя птушкі - буслы,
Памахайце крыламі зямлі…



*Нарадзіўся ў вёсцы Падвялікае. Скончыў гістарычна-педагагічны факультэт Гарадзенскага педінстытута імя Янкі Купалы. Працаваў настаўнікам і дырэктарам школ Дзятлаўскага раёна, сем гадоў на пасадзе старшыні сельскага Савета, а таксама супрацоўнікам Дзятлаўскага гістарычна-краязнаўчага музея.*

*У 2020 годзе выдаў кнігу "Мая Дзятлаўшчына: для жыцця на зямлі".*

**Міхаіл ЛУК'ЯНЧЫК**
(1953)

## Нашым матулям

Складаючы прачулыя радкі
У хаце за святочным за сталом,
Я бачу: круцяцца і круцяцца клубкі,
І вее дабрынёй ад іх, цяплом.
Так ловіць мама тоненькую ніць,
Каб сыну на патрэбу штось звязаць.
Яна сядзіць, шчыруе ўсю ноч,
Каб дзецям цеплыню зімою даць.
Не думаем, не разумеем мы:
Няпроста нашай маці ўсё паспець.
Ад цяжкай працы рукі забаляць.
Яе б пашкадаваць, душой сагрэць.
А падрастаюць дзеці - у палёт,
Не помняць маму і лістоў не шлюць.
Яна ж сядзіць, чакае зноў усю ноч

Прыезду дзетак родненькіх сваіх.
Прабач нам мама, любая, прабач,
Што пісьмаў мала атрымала ты.
Не даляцелі да цябе скрозь змрок
Напісаныя мной табе лісты.
Прыеду я, калі настане час,
Святло вачэй тваіх за ўсё мілей.
Не дакарай, што я няшчыры сын:
Няма нікога за цябе радней.

## Сустрэча

Праз гады, праз доўгія гады
Я сустрэўся з школаю сваёй.
Толькі у душы шчымлівы боль:
- Што ж такое сталася з табой?
Там, насупраць школы, як раней,
Купаламі цэркаўка блішчыць,
Бы памінкі па жыцці былым.
Сэрца рвецца і баліць, баліць.
Школьны сад паніклы, сіратой
Проста ў вочы слёзна мне глядзіць.
Шкадаванне і вялікі жаль.
Так балюча, аж душа трымціць.
І няма спортзалы і двара,
Дзе ў дзяцінстве бегалі гурбой.
А на месцы кветнітка - кусты,
Ды расце паўсюдна зверабой.
Расчыняю весніцы, іду,
Быццам у дзяцінстве зноў сваім.
Школа, школа - дом душы маёй,
Назаўсёды буду разам з ім.

## Размова над магілай бацькоў

Я прыехаў да іх,
Яны ж тут - удваіх,
На мяне зноў глядзяць,
Як бы хочуць спытаць:

- Як ты там, наш сынок,
Чым цяпер ты жывешь?
Ці шчасліў, ці здароў?
Аб чым марыш, пяеш?
Ім ў вочы гляджу.
Шчыра так гавару:
- І здароў, і шчасліў,
Шмат дарожак схадзіў.
І ў шчасці, і ў бядзе
Разам дзеці, сям'я.
Школу шчыра люблю,
Працу сэрцам цаню.
Два сыны, як дубы,
Трое ўнукаў у нас.
Ёсць і радасць, і боль,
Весялімся падчас.
Усё ідзе, як ідзе,
Наракаць не хачу:
Не кідае радня -
Ім любоўю плачу.
Так стаю, гавару,
Нібы чуюць мяне.
Сам не ведаю я,
Ці наяве, ці ў сне…
Ля магілак сваіх,
Трэба часта бываць,
Каб душой прасвятлець,
Каб дабро памнажаць.

## Начамі…

Ноччу зноў не спіцца,
Не магу забыць,
Што мне давялося
Зведаць, перажыць.
У светлае дзяцінства,
У далёкі май,
Думка зноў вяртае,
Нібы ў вечны рай.
Як знайшоў каханне,
Як ім даражыў,
І чакаў, і верыў,
І жыццё цаніў.
Як бацькі вучылі
Шчасцем даражыць,
Мужным быць і смелым,
Слабых бараніць.
Веру і надзею
Па жыцці пранёс,
Выплакаў нямала
Горкіх долі слёз.
Ратавала праца
І мая сям'я.
І скажу вам шчыра,
Што шчаслівы я.

## Вясна ідзе

Ад промняў сонца залатых
Пяшчотных, сакавіцкіх,
Дрыжыць зямля - ідзе вясна,
І вецер буйны свішча.
Снягі заплакалі вадой,
Ліюцца бурнай рэчкай.
Гамоняць чорныя гракі,
І сосны грэюць свечкай.
Вярба раскрылася пучком,
І пацяплелі ночкі.
І на душы мілей, святлей,
І сэрца шчасця хоча.



## Ала НІКІПОРЧЫК
(1957)

*Нарадзілася ў вёсцы Копці. Скончыла філфак Белдзяржуніверсітэта. Працавала настаўніцай на Дзятлаўшчыне і Мастоўшчыне, у музеі Максіма Багдановіча ў Гародні, у абласной навуковай бібліятэцы імя Я. Карскага.*

*Аўтар кніг паэзіі "Сляза і малітва" (2006), "Пад бахаўскую такату дажджу" (2007) і іншых. Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў.*

*Жыве ў Гародні.*

* * *

П'ю вачамі
разлітае святло Нябёсаў
наталяю смагу чысціні
і вечнасці.

* * *

О гэтая няшчадная сляза!
то раптам аціхае музыкай
то аплывае кропелькай воску
са свечкі
майго
жыцця.

* * *

Прашу міласці
а потым
нібы схамянуўшыся
Божа а што я ведаю
пра Тваю міласць?
што я разумею
ў Тваёй міласці?
а можа хадзіць па краю
паміж жыццём і смерцю
гэта якраз і ёсць
Твая
міласць?..

* * *

Слава Богу
і слава - болю
што ўзводзіць на вяршыню
радасці.

* * *

Я вымалю сябе як з небыцця
з свайго мінулага жыцця

* * *

А час ідзе - маўчання і малення
адзіны
светлы
час

* * *

У горадзе
цалкам закрытым туманам
у час вячэрняга паўзмроку і змроку
о Божа за што мне
гэты світальна-балючы
узыход сонца?!.

* * *

Нічога не адбылося
проста Бог крануў сваім паглядам
вось і ўсміхаюся кроплям дажджу
што скачуць у лужыне
і жоўтым галоўкам дзьмухаўцоў
якімі ўсеяна трава
ўздоўж дарогі

* * *

*(вольны пераклад з прарока Ісаі)*

О нафарбаваныя вусны!
о закратаваныя душы!
якою гарою ахінецеся
ад жаху жыцця свайго?
калі замест паса будзе вяроўка
калі замест красы стане кляймо
і толькі для тых хто застанецца
Гасподзь здзейсніць воблака
як найсвяцейшы покрыў свой.

* * *

Мінула ўжо колькі тысячагоддзяў
і мы ніколі не даведаемся
што Ён пісаў на зямлі
нізка нахіліўшы галаву
- Ідзі і Я не асуджаю цябе
Божа
адпусці і мяне з грахоў маіх
як вязня з клеткі.

* * *

Дапамажыце мне
Вас так многа
Вы такія светлыя і чыстыя
Вы такія моцныя і святыя
а я - адна
сяджу на падлозе
на гэтым пыльным дыване
і не маю ні слоў ні слёз ні сіл для малітвы
ды і ці ведаю я
чаго мне прасіць
і аб чым мне маліцца
Божа
прымі маю цішыню
патаемную - як воля Твая
пакаянную - як бяссонне ўночы.

* * *

Яслі і крыж
як пачатак і канец
зямной
Божай
дарогі
наіўная і балючая - да бяскраю
якога разумення

і якой спагады
я хачу знайсці тут
калі іх не было нават
у самога Госпада
і адзінае што дадзена - маленне
як выратавальная нітачка
каб выступіўшы аднойчы з ясляў
дайсці да крыжа.

* * *

Слава табе Божа за дождж
слава табе Божа за плач
слава табе Божа за ноч
нават калі не наступіць ранак.

***

Я даю табе Магдэбурскае права
як Леў Сапега - Слоніму
у тысяча пяцьсот дзевяноста першым годзе
ты можаш патэлефанаваць мне
а можаш - не тэлефанаваць
ты можаш адвярнуцца
і не сустрэцца са мной ніколі
а можаш - прыляцець
і ўпасці на калені
і застацца са мной назаўсёды
ты вольны
на любое з гэтых - пералічаных
і непералічаных -
дзеянняў
мой прывілей
пацвярджае верасень
сваёй сургучовай пячаткай -
шчодрымі промнямі сонца
і ўжо парыжэлымі лісцямі
гарадзенскіх каштанаў.



## Алена АБРАМЧЫК
(1962)

*Нарадзілася ў вёсцы Цынцавічы Вілейскага раёна Менскай вобласці. У 1977 годзе скончыла Цынцавіцкую васьмігадовую школу, у 1979 - Вілейскую СШ № 2. У тым жа годзе паступіла на філалагічны факультэт БДУ, які скончыла ў 1984 годзе. Працавала настаўніцай рускай мовы і літаратуры ў Рэсцянскай СШ Чавускага раёна, карэспандэнтам дзятлаўскай раённай газеты "Перамога", настаўніцай беларускай мовы і літаратуры СШ № 3 г. Дзятлава, намеснікам дырэктара на навукова-метадычнай рабоце гімназіі № 1 г. Дзятлава.*

*Зараз жыве ў Дзятлаве, працуе старшым навуковым супрацоўнікам Дзятлаўскага гістарычна-краязнаўчага музея. Піша вершы, артыкулы, нарысы. Друкуецца ў беларускіх і расійскіх перыядычных выданнях. У Гародні выдала зборнікі вершаў на рускай мове "У последней любви на краю" і "Послевкусие", а таксама кнігу гістарычна-краязнаўчых артыкулаў "Дзятлаўскі край: вядомыя і невядомыя старонкі" (2020).*

### Элізе Ажэшка

Цябе зямля святая нарадзіла,
І старажытнай пушчы вецер калыхаў,
Была закладзена ў душы такая сіла,
Што не баялася ні гора, ні расправ.
Была ты моцнай, дужай і рашучай,
Любіла абяздолены свой люд.
І стала тваё слова неўміручым,

Яно жыве, гучыць і там, і тут.
Прайшлі гады, ды ў душах засталіся
Жывыя словы мудрасці святой,
Прысвечаныя роднай Беларусі,
Любімай, шчыра ўспешчанай табой.
Гартаючы старонкі вечных твораў,
Дзіўлюся шчырай дабрыні тваёй.
Здаецца, нібы час са мной гаворыць,
Вядзе аповяд аб зямлі маёй.
Няхай красуе вечна тваё імя,
Прыходзь да чытачоў сваіх заўжды…
Павер, што наша ўдзячнасць не загіне
Праз забыццё, праз страты, праз гады.

## Вясна

Ты затрымалася на ўзлессі,
Бо зачапілася спадніцай за галлё,
Ды так, што ўжо табе ні стаць, ні сесці,
І пагубляла ўсё начынне ты сваё.
Згубіла рэшата, якім насенне сеяць,
Згубіла ступу, каб на булкі мак таўчы,
Згубіла і кужэльны ручнічок,
Якім ты мыла вешнія шляхі.
Сядзіш і плачаш…
А мароз не здаўся
І серабрыць пад раніцу траву.
Шалёны вецер ноччу разгуляўся,
Чуць не сарваў ён хаце галаву.
Сцюдзёны дождж нясцерпна, люта свішча,
Так, што дарогі нават не відаць.
Вясна мая, ты дзе там, на ўзлеску?
Хутчэй ідзі, каб нам сваё аддаць.
Хай сонейка вясёлае заззяе,
І музыка надзеі заіграе,
І вясні звон нясецца ўгары.

## Дожджык барабаніць па вакне

Дожджык барабаніць па вакне,
Стукае абцасікам ўпарта.
Стаў пасля спякоты ён на варту,
І паведаць нешта хоча мне.
Можа, каб жыла і не тужыла,
Верыла у радасць і святло.
Можа, каб цябе я ўявіла
У мроях-думках праз начное шкло.
Хоча супакоіць і разважыць,
Стукае і стукае ўсю ноч.
Што ў адказ яму ты, сэрца, скажаш?
І ці доўга будзе гэты дождж?…

## Каціласе зорка па ціхай дарозе

Каціласе зорка па ціхай дарозе,
Каціласе зорка ўначы.
У сініх аблоках, у сцюжы марознай,
Надзею давала душы.
Душа трапятала за зоркаю следам,
Душа трапятала, жыла,
Дарогай надзеі, кахання і веры
За  зоркаю следам ішла.
Каціласе зорка па млечнай дарозе,
Каціласе зорка ўначы.
Смяяўся ёй месяц, смяяліся зоры,
І лашчыў начны небасхіл.
У цёмным сусвеце, у жудасным віры
Міргала, ляцела, жыла.
І што з ёю стала, калі на світанні
Зара маладая ўзышла?
Каціласе зорка па ціхай дарозе,
Каціласе зорка ўначы.
У сініх аблоках, у сцюжы марознай,
Надзею давала душы.
Каціласе зорка…

***

Светлыя вочы маіх выпускніц.
Чыстыя, чыстыя, чыстыя душы…
Мне б прыхінуцца хоць трохі да іх,
Сумам жаночым іх свет не парушу.
Добрыя вочы маіх выпускніц:
Юлі, Наташы, Марыны і Іны…
Зноў перад імі я моўчкі стаю.
Помніць вас, любыя, я не пакіну.
Цнота ў вачах у маіх выпускніц,
Радасць нязнаная, песня няспетая.
Цёпла мне грэцца ля вашай душы,
Шчасцем дзявоцтва і верай сагрэта я.
Шчырыя вочы маіх выпускніц?
Юлі, Наташы, Марыны і Іны…
Свецяцца ясным, спагадным святлом,
Хай жа яно ў іх ніколі не згіне.

## Сон

*Тых, хто носіць небасхіл у сэрцы,*
*Нельга ні ўджаліць, ні забіць.*
***Ул. Караткевіч***

Па вузкай лесвіцы наверх, наверх…
Нібы пушынка лёгкая, узлятаю.
І музыка чароўная іграе
Вакол мяне ці, можа, у душы.
Апанавала радасць, асалода,
Пяшчота ўсю істоту заліла.
Кім я была: анёлам з белым крыллем
Ці лёгкім пылам ў водбліску святла?
Так мне хацелася спыніць імгненне,
У сне чароўным кропельку пабыць.
Душа так прагнула дабра і ачышчэння…
Не заслужыла - зноў уніз ляціць,

На грэшную зямлю, у тлумны свет…
Ды засталося тое адчуванне,
Што я лячу да Бога ў дзіўным сне
І музыка ў душы маёй іграе.

***

Я ў зіме…
У беласнежнай халоднай зіме.
Не ў табе, не ў сабе,
а ў прасторах,
Што снегам занесены.
Там жыву, там лятаю і мару я
пад цёмнымі хмарамі.
Мне не сумна.
Ў душы засталося цяпло,
Што насіла мяне, як пушынку
над соннай зямлёй.
Там была я з табой.
І была я сабой.
Трошкі дзіўнай, наіўнай,
І трошачкі смешнай дзяўчынкай,
Што паверыла ў шчасце сваё
і ў каханне на міг,
У бяздоннае мора пачуццяў.
Ну як жа без іх?
Я ў зіме…
Ў беласнежнай пяшчотнай зіме.
Мне не холадна
І не сумна мне.
Недзе ты.
Недзе вочы твае.
Іх цяпло так пяшчотна ліецца
ў сэрца, у цела,
у кожную жылку маю.
Ноч. І месяц-сярпок.
Я не сплю…

***

Яблынька застыла за вакном,
Нізенька галінкі апусціла.
Нечакана так зіма накрыла
Снегавым агромністым пластом.

Вельмі рана к саду падступіла,
Ён яшчэ ўвесь трапятаў лістом,
Не хацеў забыцца доўгім сном,
А яна, свавольніца, накрыла.

Застудзіла, апякла яго
Холадам, марозам і вятрамі,
Калыхала зоркамі і снамі
І не адступала ад свайго.

Яблынька, ты не сумуй, засні,
Слухай подых ветру ледзянога.
Да вясны яшчэ начэй там многа,
Ты на неба зорнае зірні.

***

Мядзянае святло ў беларускім лесе,
Ліецца скрозь ствалы мядзянае святло.
Чароўнасцю сваёй, загадкавасцю лета
Ізноў мяне ў палон надоўга ўзяло.
Лаўлю праменняў рой і звон хваёвых вежаў
І дыхаю травой, грыбамі і смалой.
Тут рай маёй зямлі, тут нашых душаў вечнасць,
Тут таямніцы сноў і лекавы спакой.
Наш старажытны лес, ахова і надзея,
Звіні над галавой, дай ісціны глыток.
Нясі нас над зямлёй, туды, дзе села сонца,
Дзе падае ў раку мядзяных зор паток.



**Вера**
**ХРЫШЧАНОВІЧ**
(1938)

*Нарадзілася ў вёсцы Агароднікі ў сялянскай сям'і. У 1955 годзе скончыла Дварэцкую сярэднюю школу і паступіла ў Менскую школу кінамеханікаў. Працавала кінамеханікам у Жукоўшчынскім сельсавеце, затым - загадчыцай Нагародавіцкага сельскага клуба. Вершы пачала пісаць у 35-гадовым узросце, доўгі час з'яўлялася ўдзельнікам літаратурнага аб'яднання "Пралескі", якое было створана пры дзятлаўскай раённай газеце "Перамога".*

*За верш "Аб рабоце ў кіно", якое яна напісала да 60-годдзя Гарадзенскай абласной кінасеткі,была ўзнагароджана імянным гадзіннікам, а за верш "Маме" (ён быў напісаны для ўдзелу ў абласным конкурсе "Мая матуля, ты - жыццё") - дыпломам Гарадзенскага абласнога цэнтра творчасці.*

*Выдала зборнікі твораў "Тут уся мая душа", "Дорогой жизни".*

*Жыве ў вёсцы Гезгалы.*

## Мая Беларусь

Беларусь - наша родная маці,
Нас гадуеш, як мілых дзяцей.
Мы пад небам тваім, нібы ў хаце,
Становімся разам мацней.
Саматканую носіш сукенку,
Мыеш ў росах свае ручнікі.
У музеях ёсць серп і сявенька,
Ільняныя нашчадкам вянкі…
Ты заўсёды нам неабходна,
Як маці, як вада ручая.
І жывеш ў нашым сэрцы народным,
Беларусь - Айчына мая!

## Мая вёска

Выйду з Выгады на Белалозы
Ці з Крамяніцы на Чураі,
Лашчыць сонейка хвоі, бярозы,
І лугі каля вёскі, гаі.
Шчыра вам я ўсім прызнаюся,
Што люблю родны край і народ.
То пакіну я вас, то вярнуся
Разоў колькі вось гэтак на год.
Гэта вы мяне тут гадавалі,
Ад нягодаў ліхіх бераглі.
Тут бацькі свет увесь паказалі,
І далі мне ўсё, што змаглі.
Не шукай, дачка, ветру ў полі,
Не ганьбуй тых шырокіх дарог,
Дзе здабыць можна шчасце і долю,
Як пакрочыш за родны парог.
Так на Гезгалах погляд спыніўся,
Тут, на беразе ціхай ракі.
І тут зернем мой колас наліўся,
І з'явіліся тут сваякі.
Я хачу, каб паверылі людзі,
Што для ўсіх не чужая тут я,
Што балюча сціскаюцца грудзі,
Калі ў горы чыясьці сям'я.
І не толькі хай колас тут родзіць,
Хай жа мудрасць расце з году ў год,
Хай да кожнага ў душу ўваходзіць,
Нібы восенню ў свой агарод.
Не шукаю я ветру ў полі,
Не марную адпушчаны век.
Здабываю я шчасце і долю,
Каб пражыць яго, як чалавек.

## З біяграфічнага вяночка

***Урывак***

Я доўгі час не ведала,
Ў вянок той ці ўплятуся.
Хоць ля Маўчадкі снедаю
І спаць пры ёй кладуся.
Ля Моўчадзі радзілася,
Ля Нёмана жыву.
Дай Бог, каб прыгадзілася
Уплесціся ў канву.
Я трэцяй нарадзілася
Дачкой у мамы з татам.
Матулі кажа мачаха:
"Брыдота, выкінь з хаты".
Усе ж хацелі сына,
Прыйшла я нечаканай.
І горкаю навінай,
Нібы на сэрцы рана.
Ляжала побач з мамай,
А мама ж ёсць, як мама,
Яна усіх любіла,
Ды і мяне таксама.
Да сэрца прытуліла,
І моцна шкадавала.
Я з мамаю сваёю
Шчаслівай падрастала.
А як пайшла ўжо ў школу,
То птушкай шчабятала,
І ў той вясковай хаце
Найдаражэйшай стала.
І бабка ўжо таксама,
Мяне пашкадавала
І праз два-тры леты
Веркай называла.
У браме сустракала,
І снег з мяне страсала,
І загадала маме,
Каб з рэчкі праганяла.
І помню, ў час навукі,
Як я з грудка збягала.
Нібы клубочкам к маме
Я ў рукі ёй трапляла.
Пасля ляцела босая
Ў раку з адкоса я,
Была я вельмі смелая,
І да ўсяго ўмелая.
Ну, а цёплым лецейкам
Рвалі мы букецікі…

## Зерне

***Байка***

Пявун - курыны старшыня,
Знайшоў ля веснічак зярня.
Ад радасці такой вялікай
Усіх сваіх чубатак склікаў.
Дык покуль збеглася радня,
Ён праглынуў тое зярня.
Каб шмат было
                    тут зерняў тых,
Пачаставаў бы ён усіх,
А як было толькі адно,
І таго зерня не відно…
Так у жыцці, у чалавечым,
Падобныя бываюць рэчы,
Дарэмна іншых тут вазня,
Калі няма таго зярня.



**Кастусь**
**ІЛЬЮШЧЫЦ**
(1947)

*Нарадзіўся ў вёсцы Наваельня. Скончыў Беларускі тэхналагічны інстытут у 1968 годзе. У гэтым жа годзе быў прызваны ў Савецкую Армію і з ёй назаўсёды звязаў жыццё. Служыў на Далёкім Усходзе, у Германіі, Эстоніі, Літве. Вайсковае званне - падпалкоўнік.*

*Аўтар зборнікаў вершаў "Армейскія будні", "Таёжны гарнізон" і іншых. Узнагароджаны ордэнам "Знак Пашаны". Асобныя яго творы перакладзены на грузінскую, рускую, польскую і ўкраінскую мовы.*

*Жыве ў Менску.*

## Мая зямля

А вы былі ў лясах сасновых
І заблудзілі хоць калі,
Дзе сустракаюць старасць совы
І глуха стогнуць на галлі?!
А я не раз шукаю ветру,
Што дзьме з палескай стараны,
Дзе так настоена паветра
Гаркавым ёдам той вайны.
Лячу, як птушка, на Палессе
Пад сосны цёплыя, як сны, -
Па іх запевы новых песень,
Такіх дрымучых і лясных.
І сэрца зойдзецца ад шчасця,
Што ёсць з усіх адзіны кут.

Які наведваю не часта,
З ім ростань - горшая з пакут.
А ён знаёмы да драбніцы,
І зведаць хочацца другі.
Там, можа, лепшыя крыніцы,
Там, можа, лепшыя лугі?!
І толькі будзе вечным дзівам,
Не разгаданаю зямля.
Дзе пачыналася Радзіма,
Лясная,
Добрая,
Мая.

***

Я вырас там,
Дзе лес кранае
Аблокаў светлыя чубы.
Там на руках,
Над родным краем,
Мяне падкідвалі дубы.
Мой кут,
Здавён даўно абжыты,
Навек запомніўся такім:
Сляпіла сонечнае жыта
І ні хмурынкі па-над ім.
Жанчыны ўвішныя за рэчкай
Зграбалі лета у стагі.
Бялела поле,
што пад грэчкай, -
Нібы над ім прайшлі снягі.
І песня выплывала з гаю, -
Такая вечна будзе жыць…
Шчаслівы я,
Што родам з краю,
Дзе мова матчына гучыць.

***

Мне да купінкі знаёма
Сцежка дзікая ласёў,
Я смяюся тут над стомай
І цалую сінь лясоў.
На губах маіх -
Маліна,
Фарбы спелыя чарніц.
І бярозка,
Як дзяўчына,
Пацалунак мой прысніць.
Доўга сцежкаю блукаю,
Быццам нешта я згубіў.
Кветку-папараць шукаю,
Дзе на шчасце
Лось трубіў…



*Нарадзілася ў горадзе Сяміпалацінску (Казахстан). У 1970 годзе разам з бацькамі прыехала ў Беларусь. У 1975 годзе пайшла вучыцца ў Наваельнянскую сярэднюю школу. Потым скончыла педагагічнае вучылішча. Да 2013 года працавала ў школе настаўніцай пачатковых класаў.*

*Жыве ў Наваельні. Піша вершы, друкуецца ў рэспубліканскім друку.*

## Ірына КАСЯНКОВА
(1968)

### Беларуская родная мова

Быццам срэбны ручай вясною,
Жыватворнаю поіш вадою.
Маё сэрца заўжды замірае,
Калі музыка слоў тваіх грае.
Пра цябе нам спяваў Купала,
Душу Коласу ты саграvала,
Багдановічу зоркай свяціла.
Свае лёгкія белыя крылы
Караткевічу ты падарыла.
Ты - усіх думак маіх лагода,
Памяць продкаў майго народа
І калыска маёй Радзімы,
Скарб бясцэнны, навек адзіны.
Ты - матулі пяшчотная песня,
Радасць птушак усіх напрадвесні.

Тваё кожнае люба мне слова,
Беларуская родная мова!

## Тут я жыву

У прыгожай мясціне, дзе бруяцца крыніцы,
Дзе шчасліва клякоча ў гняздзе бусляня,
Дзе свой водар духмяны людзям дорацць суніцы,
І губляецца недзе ўсіх рэк даўжыня,

Дзе ўсе добрыя людзі цябе стрэнуць сардэчна,
Не цураюцца працы і ў міры жывуць,
Дзе вайну пахавалі назаўсёды, навечна,
І на брацкія могілкі кветкі кладуць,

Дзе цымбалы пяюць і гармонік іграе,
Беларуская полька стаяць не дае,
Салавей-чараўнік сваю песню спявае,
Я жыву. Прыязджайце ўсе да мяне!

## Маё месца святое

Бачу дзедаву хату,
Сад, дзе вішняў багата,
Дзе ад яблыкаў дрэвы
Гнуцца аж да зямлі.
Ім прыйшла пакланіцца,
У цішы памаліцца
За ўпакой сваіх родных,
Што калісьці жылі.
Загляну ў акенца.
Моцна стукае сэрца!
Бы пачую, як песні бабуля пяе,
Нахіліўшыся нізка
Над маёю калыскай,
Ды на жаль, забываю рысы твару яе.
У шурпатай далоні,

Ля сівенькае скроні
І ў голасе любым растварыцца хачу.
Мне тут лёгка й журботна,
Мой куточак пяшчотны,
Дзе я сэрца і душу ад сумненняў лячу.
Буду думаць пра тое:
Гэта месца святое
Забыццём не накрые, бы вядзьмарка, зіма.
Наталі мяне сілай,
Любы кут, сэрцу мілы,
Дай надзею і веру, што жыву нездарма.

## Калыханка

*Майму любаму ўнуку Кірушы*

Да мяне ты цягнеш ручкі,
Залаты анёлак мой.
Трэба спаць, мой любы ўнучак,
Сонца села за гарой.
Сон ідзе сцяжынкай гладкай
Калыханку запрашаць.
Месяц пухкаю аладкай
Будзе ночку частаваць.
- Люлі, люлі, мой маленькі,
Свае вочкі закрывай.
Заўтра дам цукерак жменьку,
Ну, а зараз, засынай.
Хай табе прысніцца казка,
Што нясе спакойны сон.

Спі, мой хлопчык, калі ласка,
Хай табе спрыяе ён.
- Люлі, люлі, - кажа ночка
Для маленькіх немаўлят,
А дрымота склеіць вочкі,
Завядзе ў цудоўны сад.
Там ты будзеш весяліцца,
Феям песенкі спяваць,
Разам з добрай чараўніцай
Зоркі ў кошычак збіраць
Усе знічкі на світанку
Зноў у казку паляцяць…
Ну, а зараз, калыханку
Для цябе будуць спяваць.



## Вячаслаў
## АДАМЧЫК
(1933-2001)

*Нарадзіўся ў вёсцы Варакомшчына. Пасля заканчэння сямігодкі працаваў грузчыкам на станцыі Наваельня і вучыўся ў вячэрняй школе. Скончыў аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Працаваў у рэспубліканскіх газетах і часопісах, рэдактарам Дзяржаўнага выдавецтва БССР, рэдактарам аддзела публіцыстыкі часопіса "Полымя". У 1965 годзе скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы пры Саюзе пісьменнікаў СССР у Маскве. Быў галоўным рэдактарам сцэнарнай майстэрні пры кінастудыі "Беларусьфільм", намеснікам галоўнага рэдактара выдавецтва "Мастацкая літаратура", галоўным рэдактарам часопіса "Бярозка". Прымаў удзел у рабоце XXXVIII сесіі Генеральнай Асамблеі ААН (1983).*

*Аўтар зборнікаў прозы "Свой чалавек", "Млечны шлях", "Міг бліскавіцы", "Дзікі голуб", "Дзень ранняй восені", "Раяль з адламаным вечкам" і іншых.*

*Аўтар шырока вядомай тэтралогіі "Чужая бацькаўшчына" (1978), "Год нулявы" (1983), "І скажа той хто народзіцца" (1987), "Голас крыві брата твайго" (1990). У цэнтры ўвагі пісьменніка - заходнебеларуская вёска Верасава. Напісаў сцэнарыі дакументальных фільмаў "Іван Мележ" (зняты ў 1977), "Валянцін Таўлай" (зняты ў 1978), "Дзядзька Якуб" (зняты ў 1981), п'есу "Раіса Грамычына"(1989), займаўся перакладамі.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя І. Мележа (1980, за раман "Чужая бацькаўшчына") і Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа (1988, за раманы "Чужая бацькаўшчына", "Год нулявы", "І скажа той, хто народзіцца...").*

# ЖЫВАЯ ВАДА

Ятранка... Яна плыве праз маё сэрца: плыткая - вераб'ю па калена - улетку, шырокая, як мора, на згоне зімы. Помню вечар, жоўтае радкаватае святло месяца, шум вады за вёскаю на балоце і трэск алешніку - ідуць крыгі. Вільготны пах адталае зямлі, пах густога змякчэлага ветру з поўдня.

На трэці дзень вада спадае - на балоце доўгія косы мокрага пяску, у кожнай лагчынцы азярцо - срэбны і трапяткі бляск вады. На голым і шэрым, як сум, алешніку пачынаюць чырванець раны - там, дзе крыгі пазбівалі маладую крохкую кару. Нехта ходзіць балотам па коўзкай і ліпкай гразі з сеткаю на плячах.

Помню нясмелую зелень рэдкае травы, першы плач кнігаўкі, узмах спаднізу белага крыла, першую кветку, ясна-жоўтую на сыпкім пяску ля рэчкі, і драбналістую вярбу над кладкаю. І халодную крамяную чысціню вады, светлае дно, перламутравы водсвет ракавіны, што сядзіць напалавіну ў пяску пры беразе.

Помню, быў май. Над берагам гусцеў, распускаўся і горка пах алешнік. У рэчцы цэлымі клубамі віліся вераценніцы і прыліпалі мяккімі ратамі да слізкіх каменняў. Потым на зэдліках перылі палатно - нізка над рэчкаю плыўляскат. Стаялі жанчыны па калені ў вадзе, падаткнуўшы за пояс краі падолаў.

Улетку мылі авечак. Выбегшы на бераг, авечкі бляялі. З іх цурком лілася вада. Яны трэслі мокраю шэрсцю - над імі ў густых кроплях зіхацела вясёлка.

Перад нядзеляю ў суботу, вярнуўшыся з поля, з жніва, дзяўчаты і маладзіцы ішлі купацца: дзе-небудзь у зацішнае месца - крый бог, каб не ведалі хлопцы.

А хлопцы ўжо даўно ляжаць у алешніку на другім баку рэчкі і адтуль бачаць усё... Не, спачатку нават нічога: дзяўчаты спачатку ў кашулях, спачатку саромеючыся, спачатку пабойваючыся празрыстага холаду вады, пакуль каторая баявейшая не асмеліцца першаю... Гэта ж так добра і хораша, а вада цёплая, як луг! І тады ўжо... над рэчкаю баязлівы, раптоўны піск, звонкі пляск вады і мільганне стройных белых постацяў.

А тут, у кустах, - цяжкія ўздыхі, нячутны стук сэрцаў і

шалёная гарачыня. Потым у кустах моцны кашаль - знарок і нечакана. А тады ў дзяўчат колькі ўжо страху - хаця б дабегчы да адзежы.

Толькі тая, што і падвучвала, не вельмі ўжо спяшаецца: "Няхай глядзіць, няхай яму павылазяць - хіба ж я зблажэю?!"

Адной рэчцы давяралася нейкая чалавечная таемнасць і шчырасць.

У гарачыню, у лета, калі скрозь на падворках у нашай вёсцы жаўцела і перасыхала трава, калі на вуліцы быў гарачы, як прысак, жоўты пясок, калі вяла і скручвалася ў трубку лісце на бэзе, а на полі гінула і чэзла ўсё, у нашай хаце збіраліся кабеты і ішлі на рэчку сыпаць мак, каб быў дождж.

На рэчцы ўгадвалі і надвор'е: зменшала вада пад вечар - заўтра з раніцы будзе дождж, нізка ластаўкі лятаюць над вадою - таксама на дождж, паглыбшала рэчка - гэта ўжо знак, што будзе пагода.

Без рэчкі не абыходзіліся кабеты, кленучы чужых дзяцей, што ноччу латашылі сады, выбіралі гуркі і цягалі з градаў моркву: "Чаму ж ты не хадзіў у свой, каб ты пайшоў у вір галавою!"

Вада ў нашай вёсцы дамешвалася да ўсяго.

На Вербніцу мая маці брала дубец, што распускаўся ў бутэлечцы на акне, свянціла ў касцёле і, вярнуўшыся дадому, сцёбала мяне па нагах і прыгаворвала:

Не я б'ю - вярба б'е:
За тыдзень - Вялікдзень.
Будзь здаровы, як вада,
І багаты, як зямля.

Мяняліся людзі ў нашай вёсцы, мяняліся прыгаворы, а за вёскаю ўсё плыла і плыла Ятранка.

Восенню з алешніку, з вербаў сыпалася лісце на быструю ваду, кружылася на вірах і плыло далей. На другую восень сыпалася зноў. І так заўсёды.

У зялёных і густых аерах шумеў вецер. У зацішку пры беразе ўсё скакалі супраць вады і ўсё стаялі на адным месцы вадзяныя камары. І трапяткая страказа шуршэла сухімі крыль-

цамі, усё даганяючы свой цень. Недзе з алешыны, з камля, падала на ваду і бездапаможна церабілася чорная малюсенькая мурашка, а пад ёю ў жаўтаватых пасмах праменняў роем кружыліся, бліскаючы срэбнымі бакамі, драбнарыбіцы.

Над берагамі па алешніку вілася і цвіла вялікімі, як грамафонавы трубы, белымі кветкамі бярозка.

А Ятранка плыла, падмываючы на павароце стромы бераг: цёмна-сіняватыя глыбы, асунуўшыся, бухалі ў ваду - з глыбокіх норак-гнёздаў імкліва вылятали беражанкі, палахліва цвыркалі і, датыкнуўшыся вострым крылом да ракі, уздымаліся ўгору.

Па калені ў вадзе стаяла непраходная лаза і млела ад гарачыні - на лістах выступала і пенілася белая сліна.

Цякла Ятранка. На беразе старэў алешнік. Да Пятра ў алешніку кукавала зязюля. Нам, малым, старыя казалі, што клікала яна ўсё свайго мужа: "Якуб! Якуб!"

Пад восень у алешніку стракацелі шпакі і плылі чорнаю косаю хмараю на скошанае балота.

Цякла Ятранка. І нехта прыводзіў сюды паіць каня. Цяпер і некалі. Конь біў капытом. Ляцелі пырскі, адганяючы мух і аваднёў.

Цякла Ятранка і мяняла сваё рэчышча. Кажуць, тут, дзе цяпер стаіць завоінка, кожнае лета мялеючы і зарастаючы аерам, дзе позняю вясною, калі росіць дробны дождж, цёплым сырым вечарам крэкчуць і, здаецца, лопаюцца ад натугі жабы,- некалі была рэчка. Некалі тут, пад вярбою, - цяпер яна старая, у тоўсты яе камель глыбока паўрастаў калючы дрот, - майго дзеда Івана Шайбака да смерці напалохала Віктукова Марыся, што, кажуць, у нашу вёску прыйшла ўдавою, а калі Віктук памёр, чацвёрты раз выйшла замуж - ужо з нашае вёскі.

Кажуць, у Віктука - і цяпер стаіць гэтая хата: гумно, хлеў пад адзін шнур - сядзелі кудзельніцы. Чуюць - нехта вуліцаю вядзе да рэчкі каня. А што бабам рабіць - давай, кажуць, настрашым. Выцягнула Віктушыха касу з-пад застрэшка і ў адной кашулі - хіба ж не смерць? - пераняла Івана над рэчкаю, высунуўшыся з кустоў.

Прыбег мой дзед дадому без мовы і памяці. А потым цэлы год хварэў, і над яго галавою ў міску лілі расплаўленае волава -

і з волава ў вадзе выліваўся страх.

Пра гэта расказваюць цяпер, бывае, сабраўшыся на вуліцы, старыя мужчыны ў светлую нядзелю, калі без работы дзень здоўжыўся, калі мухі абрыдлі (а здаецца, выганяў і вокны завешваў), а цяпер во і добра пасядзець: спала гарачыня, сонца хіліцца на вечар, і ласкавае цяпло яго льецца на рукі, што ляжаць на каленях, і нават чуваць, як яны прыемна цяжэюць.

А каля рэчкі бялеюць фартухі і хусткі - бабы збіраюць шчаўе.

Спачатку ідзе гаворка, што во дажджу каторая пара нямашака, што ізноў высахне ўсё, што недзе каля Азяран людзі добра жывуць, што там старшыня памяркоўны, гэта... які з яго гаспадар. А потым пра тое, як было раней.

- Ат, не кажы: у пазычаных касцюмах ездзілі ў сваты, - хто-небудзь перабівае.

Той маўчыць, мусіць, праўда. Ніжняя губа ў яго дробна трасецца і едзе ўніз - ён смяецца. Ён, пэўна, успамінае тое даўнейшае.

- А помніш, які ў Пэлькі конь быў? - пытае ён сам, і вочкі яго хітра косяцца на таго, хто яго падцяў.

Пэлькавага каня помняць усе - і ўсе пачынаюць ехаць ад смеху. Ды, мусіць, рагочуць не з каня, а з самога нябожчыка Пэлькі.

А было вось што.

Худы і нядужы конь, калі Пэлька ехаў араць, тут, у бродзе, у рэчцы, раптам занаравіўся. Пэлька пабіў на худых конскіх скабах ядлоўцавае пужальне і, не ведаючы, як даць каню рады, са злосці ўкусіў яго за губу.

Даўно здох той худы і наравісты Пэлькаў конь, даўно памёр і сам гаспадар, а пра гэта будуць яшчэ доўга расказваць у нашай вёсцы. Будуць яшчэ расказваць і пра тое, як ішоў тут Напалеон. Што на тым месцы, дзе цяпер рэчка падмывае сыпкі груд, дзе расце крывая хвойка, трымаючыся голымі выветранымі карэннямі за пясчаны бераг, і вось, здаецца, упадзе туды, дзе па дробных каменьчыках бегаюць і звонка крычаць кулікі, - стаяла некалі хата. Жыў там некалі Ратамскі - вось чаму гэты груд і балота называюцца Ратамшчынаю. Прыйшоў да таго

Ратамскага француз - а гэта, мусіць, было зімою - і кажа яго жонцы, каб вады нагрэла памыцца. А сам сеў на парозе і чакае. Так і заснуў, седзячы. А гаспадыня тым часам дастала чыгун кіпятку з печы, лінула яму на галаву і, вядома, апарыла.

Французскага салдата, кажуць, пахавалі недалёка ад таго груда на пералазе, дзе стаіць высокі капец. Там была некалі бітва. У тым капцы пахавана многа французаў. І ружжы там, казалі, ляжаць. І мы некалі, малыя, бегалі раскопваць гэты капец - а над нашымі галовамі шумелі вятры тае далёкае гісторыі.

Тут, ля капца, пахавалі старога Мірона, што расказваў нам пра тую страшную бітву. Яго раніла насмерць асколкам ад снарада на парозе свае хаты ў пачатку гэтае вайны. Сплылі тыя воды, што помняць, як тут, ля рэчкі, спыніўся на пастой нямецкі абоз.

У цяньку ў алешніку стаялі шыраказадыя бельгійскія коні, памахваючы кароткімі хвастамі. А нямецкі кухар, тоўсты, у белым каўпаку, па балотцы ганяў курэй. Каля рэчкі па беразе ў адных трусах хадзілі немцы, расціралі ручнікамі белыя мяккія спіны і рагаталі. У аднаго на ўсе грудзі быў вытатуіраваны арол.

Сцякала вада ў Ятранцы маіх далёкіх малых год.

Мы хадзілі на рэчку есці яшчэ зеленаватыя няспелыя парэчкі. У парэчніку буяла крапіва. Я помню, як яна апякае рукі: як агнём, на целе потым чырванеюць пухіры, яны пякуць і свярбяць, іх потым раздзіраеш да крыві і слініш - робіцца трохі лягчэй.

Скрозь па беразе цвіла лодзьма. Яе было поўна. Яна цвіла, як кмен, толькі буйней, і пахла, як кмен, толькі з нейкай сырасцю, з ілам. З лодзьмы мы выразалі сікаўкі і abліваліся вадою: з ног да галавы. Ды мы ніколі не высыхалі. Папрыганяўшы каровы на полудзень, мы гадзінамі ляжалі ў вадзе, пакуль чыя маці не выйдзе на грудок і не гукне з вёскі: "Казё, дзе ты, Казё! У поле пагналі, каб ты не даждаў!"

Мы тады спахопліваліся, што на вечар трэба выганяць, і вылазілі з рэчкі. У вушах стаяў глухі звон. Нахіліўшы набок галовы, мы доўга скакалі на адной назе - пакуль у вушах не забулькае і не пацячэ цёплая вада. На хаду зашпільваючыся, мы беглі дадому. Губы ў нас былі сінія, а зубы дробненька

ляскалі - гэта ад вады і холаду.

Але мы ніколі не хварэлі, мы толькі набіраліся вадзяное кароcты: на целе густа высыпаў чырвоны трут - дробныя, як мак, болечкі. Мы чухаліся і раздзіраліся да крыві. На другі ці на трэці дзень кароста гінула.

Мы былі здаровыя, як вада. Мы верылі, што рэчка папраўдзе тоіць у сабе нешта святое. Мы верылі ў тое, што казалі старыя: калі пярун стрэліць у рэчку - яна заменіцца крывёю.

Сплылі тыя воды, што помняць нас малымі.

Сплылі тыя воды, што ведаюць і маё першае каханне.

А была ветраная ноч, крышку азыраватая, крышку брала халадамі за плечы. Шумеў перагонамі алешнік, і нешта, як праз сон, усплёсквалася вада пад цёмнымі карчамі. Сіняваты месяц усё плыў і плыў за рэдкімі хмаркамі, і ў неспалоханай цішыні блізкіх надрэчных вербаў скрыпеў драч - раз за разам: драч-драч, драч-драч...

Я прыходзіў з ёю сюды пасля сяла, з-пад Мікітавых, дзе на прызбе збіраліся хлопцы і дзяўчаты, дзе спявалі пра зялёны сад, пра журбу дзяўчыны, што маладзенькаю палюбілася. Спявала і Кася, ды, можа, спявала толькі яна адна, саромеючыся мяне і хаваючы свае добрыя вочы. Русая каса вілася ёй на плячо, на грудзі, на прыпол.

А тут, ля рэчкі, мы маўчалі. Не, здаецца, Кася спявала - я слухаў яе песню:

Зайшло сонца за аконца,
За зялёны сад.
А хто любіць цалавацца,
То той таму рад.
Узяла міла за ручаньку
Дай павяла ў сад,
Пасцель белую паслала
Дай паклала спаць.
Сама села край пасцелі -
Зажурылася:
Што я млада, маладзенька
Палюбілася.

Сплылі тыя воды, што помняць і гэтую песню.

Ятранка, я яшчэ прыйду на твой бераг, каб глянуць у тваю чыстую глыбіню.

Ты цячэш праз маё сэрца. Ты помніш - на тваім беразе радзіўся я. Яшчэ не раз я прыйду да цябе, каб зачарпнуць у прыгаршчы твае жывучае святое вады і напіцца.





**Леанарда**
**ЮРГІЛЕВІЧ**
(1948)

*Нарадзілася ў вёсцы Рагалёўшчына Валожынскага раёна Менскай вобласці. Скончыла Свіслацкую школу-інтэрнат і факультэт журналістыкі БДУ. Працавала ў дзятлаўскай раённай газеце "Перамога".*

*Шматгадовы лаўрэат прэміі часопіса "Вожык", удзельніца Усебеларускага фестывалю сатыры і гумару "Аўцюкі-2000", дзе атрымала дыплом "За развіццё беларускага гумару". А ў 2002 годзе была ўдастоена спецыяльнага дыплома і прэміі амерыканскай кампаніі "Філіп Морыс" за перамогу ў конкурсе для журналістаў, якія пішуць на сацыяльную тэматыку.*

*З друку выйшлі кнігі прозы "Грэшная душа", "Восеньскае танга", "Доўгі калідор", "На лясной дарозе", "Калі адлятуць журавы" і іншыя.*

*Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў.*

*Жыве ў Дзятлаве.*

# Бура

Васіль Барабанскі дакопваў граду пад цыбулю, як раптам невядома адкуль наляцела бура: затрашчала голле на дрэвах у садзе, сарвала страху суседскага дома, і вялікі кавалак шыферу абрушыўся проста на яго легкавушку, што была прыпаркавана каля гаража. Мужчына ледзь адчыніў дзверы пуні, каб схавацца ад ліўню. Здавалася, што ўсё адбываецца не сапраўды, а ў нейкім страшным сне. Бура як наляцела, так і сціхла. У садзе валялася паламанае голле яблынь і сліў, на адной завесе матлялася фор-

тачка кухоннага акна, пад якім было рассыпана шкло. Але ўсё гэта мала хвалявала Васіля. Як не сваімі нагамі ён падышоў да чырвонай іншамаркі. Быў моцна пашкоджаны бампер, выбіта лабавое шкло, пагнуты дах.

- І года не праездзіў, - шаптаў сам сабе з жальбой. - Колькі тае страхоўкі заплацяць, а рамонт на тысячы долараў. Каб жа была аўтакаска, тады іншая справа…

Са свайго дома выйшаў сусед Віталь Канапельскі і, задраўшы галаву, пачаў аглядаць сваю паламаную страху.

- Лічы, увесь бок трэба перакрываць, - паскардзіўся Барабанскаму. - Добра, што маю і абавязковую, і добраахвотную страхоўкі.

- Жаліцца ён! Ты паглядзі, што твой шыфер зрабіў з маёй машынай! У параўнанні з маімі выдаткамі, тваё дробязь.

І раптам у Васіля з'явілася думка, ад якой ажно пасвятлеў ягоны засмучаны твар.

- А ты, галубок, павінен заплаціць мне частку грошай за рамонт машыны.

- Чаму гэта? - не зразумеў Віталь.

- А таму, што шыфер прыляцеў з тваёй страхі. Значыць, твая віна тут ёсць.

- Прыляцець то прыляцеў, але ж не я яго туды кінуў. Проста нейкая недарэчнасць…

- Нічога не ведаю, не хочаш па-добраму, то падам у суд.

- А хоць у два суды! Кожны разважлівы чалавек скажа, што маёй віны тут няма. Гэта і ў судзе пацвердзяць.

Васіля было не спыніць. Ён падбухторыў і сваю жонку. Маня кожны дзень чаплялася да суседкі Вікці, і тая старалася не трапляць ёй на вочы.

- Можа, дамо яму грошай, каб супакоіўся, а то ж не дадуць на вуліцу выйсці, - сказала Вікця мужу.

- Ды за што?! Вядома, я сядзеў на страсе і спецыяльна шпурнуў шыфер на іхнюю машыну.

- Але ж лаюцца, абражаюць…

- Няхай лаюцца, а ты не зважай. Некалі ж надакучыць… Гэта проста глупства - даваць ім грошы на рамонт машыны. Нас не толькі людзі, але і куры засмяюць.

Не мінула і тыдня, як Васіль падаў на суседа ў суд, але вярнуўся адтуль з тым, з чым паехаў. Гэта яшчэ больш распаліла Барабанскага, і ён пачаў усяляк помсціць за віну, якой не было. Паліў бензінам кусты агрэсту пры плоце, і маладыя лісточкі на ім з зялёных ператварыліся ў рудыя, паскручваліся галінкі.

- Ну, цяпер выходзіць, мне трэба падаваць на цябе ў суд? Так і будзем цягацца па судах, смяшыць людзей. Каб я быў вінаваты ў тваёй бядзе, то і без прымусу заплаціў бы за рамонт машыны, можаш не сумнявацца. А так за што плаціць? - Віталь ужо не ведаў, што рабіць.

Думалі-разважалі з Вікцяй і вырашылі даць суседу долараў, бо гэтай варожасці не будзе канца.

- Праўду ты казала, трэба саступіць і заплаціць, хоць мы без віны вінаватыя. Ды грошы, Вікцечка, не галоўнае ў жыцці. Нам больш як па семдзясят гадоў, і мы ніколі ні з кім не варагавалі. Не будзем і цяпер…

Грошы ён не панёс да суседа ў хату, а, падпільнаваўшы, калі той выйдзе на надворак, аддаў.

- Тут амаль тысяча долараў, можаш пералічыць.

- І пералічу. - Васіль сеў на траву і старанна перакладваў купюры.

- Правільна, усё як трэба. Малавата, канешне, але што з цябе больш возьмеш? Старыя вы з жонкай, нямоглыя, пакіньце крыху грошай сабе на пахаванне.

- Гэтыя ж я і ўзяў з пахавальных. Доўга збіралі з Вікцяй, але што зробіш, раз такая справа.

- Віталю было крыўдна да слёз. І не так шкада тых грошай, як крыўдна за несправядлівасць. Праз месяц на Васілёвым надворку ззяла чырвонай фарбай прыгожая машына, нібыта і не было ніякай буры, нібыта яе не пабіла шыферам.

- Шустра справіўся Васіль…

- А ён ва ўсім шустры.

- Ага, выцыганіў у Віталя амаль тысячу долараў, бо той не хацеў звязвацца з дурнем, - гаманілі вяскоўцы.

- Такі на ўсё здатны, не ведаеш, чаго ад яго чакаць. Але Бог усё бачыць і кожнаму дасць па заслугах, - казала каля магазіна старая Альбіна. І ўсё адно, як у ваду глядзела. Назаўтра Бара-

банскія ехалі з райцэнтра ў свае Нупрэішкі і не змаглі размінуцца з кранам. Васіль крутануў руль так, што іхні чырвоны легкавік кропляй крыві лёг пад колы магутнай машыны. Тут ішоў рамонт дарогі, і людзі казалі, што яго машыну пацягнула па пяску на ўзбочыну. Мані, якая сядзела ззаду, хоць бы што, а Васіль памёр на месцы, нават не дачакаўся прыезду хуткай дапамогі…

# Злыдзень

Алена Мяшалка лічыла таксі самым вялікім дасягненнем цывілізацыі, бо яно магло выручыць у складаныя часіны жыцця. А такіх часінаў у яе было нямала. Вось і ў гэты снежаньскі вечар, калі мароз скаваў зямлю, а снег акуратненька прысыпаў яе, Алене трэба было дабірацца дадому ад сяброўкі. Тая жыла на адным канцы гарадка, сама Алена - на другім. Пасля выпітага ногі трымалі слаба, а галава варыла яшчэ слабей.

- Не дайду, - пажалілася гаспадыні, калі тая вывела яе да варот.

- Мабыць, трэба выклікаць таксі.

- А грошы маеш, бо я свае ўсе на віно аддала?

Алена пакорпалася ў кішэні курткі непаслухмянымі пальцамі і вывалакла дробныя грошы:

- Палічы, бо я слаба бачу. Ці хопіць тут на таксі?

- Акурат, - запэўніла сяброўка.

- Кладзі назад у кішэню, потым аддасі таксісту. Машына прыехала хутка. Алена ўтапталася ў салон, як сланіха ў лаўку, з посудам. Калі садзілася, гузікі з курткі на тоўстай фігуры пырснулі, нібы імі хто выстраліў.

- Завязіце ж яе на вуліцу Палявую, дом сем, бо як прыгрэецца ў салоне, то можа задрамаць і пра ўсё забыцца, - папрасіла гаспадыня, якая была крыху цвяразейшая за госцю.

Папрасіла недарэмна: пакуль ехалі, Алена і сапраўды заснула, ажно захрапла.

- Старая, а гэдак набралася! - паўшчуваў малады шафёр. - Добра, што тая адрас сказала.

Ён спыніў машыну насупроць патрэбнай хаты і ледзь

раскатурхаў бабу.

- Чаго табе трэба? - няўцямна лыпала яна п`янымі вачамі.
- Нейкі незнаёмы мужчына некуды прывёз мяне на машыне…

- На чорта ты мне патрэбна, алкашына. Вылазь, гэта ж твая вуліца і твой дом. І грошы плаці! Задарма я вас, апойкаў, катаць не збіраюся!

Алена пагрэблася пальцамі ў кішэні курткі, але грошы не лавіліся.

- Сам вазьмі. Тут акурат столькі, колькі табе трэба…

Шафёр дастаў грошы.

- Столькі мала, з сённяшняга дня плата павялічана.

- А ў мяне больш няма…

- Вылазь! Пасажырка, крэкчучы, выцерабілася з дзвярэй і села на снег. Таксіст палез у салон, але, убачыўшы, што баба сядзіць каменем, выйшаў, спрабаваў падняць.

- Тут хіба кранам трэба. Во зараза, гэдак напівацца!

Паклікаў на дапамогу нейкіх хлопцаў, што ішлі па вуліцы. Разам завялі Алену на ганак. Яна зноў плюхнулася, нібы гнілы памідор.

- Я тут да раніцы валэндацца не збіраюся! Замерзнеш, то туды табе і дарога. Толькі свет паскудзяць гэтыя алкашы.

Ён на ўсякі выпадак пастукаў у дзверы. Ніхто не адклікнуўся. Сеў і паехаў. Алена прылегла і зноў заснула. Хлопцы, што памагалі таксісту цягнуць яе да дома, вярталіся назад.

- Глядзі, Міша, гэна баба ўжо храпе! - заўважыў адзін.

- А што, на свежым паветры добра спіцца. Ці не праўду кажу, Васіль?

- Жартуеш. Яна ж замернуць можа. Гэта табе не на печы…

- Трэба ў дзверы пастукаць, каб дамашнія адчынілі, - ён забарабаніў кулаком у палатно.

- Асцярожна, тут шкляная шыба, каб не пабілася. Давай паднімем таўстуху, няхай сама стукае. Холад, відаць, крыху выцягнуў з Алены вінныя пары, і яна ўжо магла трымацца на нагах. Хоць і целяпалася.

- Стукай, цётка, няхай табе адчыняць. Нехта ж, пэўна, ёсць дома?

- Ага. Мужык павінен быць. Злыдзень несусветны! П`яні-

ца і абармот. Уставай, каб ты не ўстаў! - лямантавала, стукаючы. - Адчыняй дзверы, бо я ўжо ўкалела ўся, каб ты сам укалеў!

Хлопцы моўчкі стаялі. За дзвярамі ніхто не варушыўся і не запальваў святла.

- Гэта ж, хлопчыкі, ён во заўсёды гэдак: як прыеду позна, то не пушчае ў хату, каб ён дух спусціў, вырадак. Колькі разоў на ганку начавала. Дык тое ж было цяплом, а цяпер зіма… Ніякай спагады…

- Ідзіце, можа, да суседзяў пераначуйце, - сказаў Міша. - Пусціць жа нехта…

- Сама не зайду…

- Давай возьмем пад рукі і завядзём у тую цагляную хату, - прапанаваў Васіль. - Там яшчэ святло гарыць.

Патралявалі Алену да суседзяў. Пачуўшы іх, па надворку забегаў вялікі кудлаты сабака і брахаў, ажно захліпаўся. Праз нейкі час, накінуўшы на плечы цёплую апранатку, выйшаў гаспадар. Запаліў на дварэ святло.

- Хто тут і чаго трэба? - спытаў строга, гледзячы на незнаёмых хлопцаў і раскалтуненую Алену, якая недзе згубіла хустку.

- Во, суседку вашу прывялі. П`яная ўдрабадан. Валялася на ганку, спала ўжо. Потым стала лупіць у дзверы, каб муж адчыніў, а ён нават не аказаўся, - патлумачыў Міша.

- Ну як ён можа аказацца, калі пазаўчора пахавалі? Выклікайце хуткую дапамогу, і няхай вязуць яе, куды хочуць, а нам гэтая завала, што зусім адпіла мазгі, не патрэбна…

## Чуні

- Мая матка некалі падклала мне вялікую свінню, - паправіўшы за пазухай дзве бутэлькі з самагонкай, прамовіў Васіль Кнігаўка.

Ён целяпаўся па вясковай вуліцы, распырскваючы вялікія лужыны. Худыя ногі боўталіся ў ботах, як таўкачы ў ступе. Паношаная куртка на высокай худой постаці была на два памеры большая.

- Чаму гэта? - яго сябрук і сабутэльнік Міцька Сунічны з-

пад казырка кепкі зірнуў на Васіля. Быў ён маленькі і дробненькі, як трэсачка, і ледзь паспяваў за Васілём.

- А таму… Нарадзіла мяне акурат на бабскае свята і тым самым пазбавіла дадатковай выпіўкі. Каб, скажам, сёмага ці дзявятага, то іншая справа, можна было б баляваць два дні, а так магу законна напіцца толькі сёння.

- А што табе падарыла твая Кацярына на дзень нараджэння? Шкарпэткі, напэўна? Ну яшчэ, можа, майку?

- Пакуль што нічога. У магазін нядаўна павалаклася, казала, па падарунак.

Пакуль яны разважалі, памалу дацелямпаліся да магазіна. Тым часам на ганак высунулася Васілёва баба. У адной руцэ яна трымала вялікі цалафанавы пакет з закускай і бутэлькамі са спіртным, бо яны весела пазвоньвалі. У другой былі ботычуні, самы хадавы абутак для мясцовых мужчын. У іх можна было ісці і па снезе, і па балоце, нават па галалёдзе, і ніякая халера не страшная. Да костачак чуні былі гумовыя. Гума такая тоўстая, як на дзіку скура, а можа, і таўсцейшая, а вышэй прышыта непрамакальная тканіна. Уверсе зацягнуты шнурок. Ну, не абутак, а знаходка!

- Во, віншую цябе, Васіль! - прамовіла ўзнёсла. - Прымі падарунак, каб насіў і добрым словам мяне ўспамінаў.

- Я і так успамінаю… - прагугнявіў муж і памацаў сіняк, што ўчора пасадзіла Кацярына пад ягоным правым вокам. За тое, што занычаў амаль палову заробку.

- Заслужыў бо! Каб не хаваў грошай, то і сіняка не было б. На во, нясі пакупкі, а я да сястры зайду на якую хвіліну, словам-другім перакінуцца. Потым замочым і падарунак, і бабскае свята. Толькі ж занясі!

Яна перадала мужу пакункі і завярнула ў другі канец вуліцы.

- Мо не будзем чакаць таго “потым”, а цяпер замочым? - у вачах Васіля загарэліся гарэзлівыя агеньчыкі.

- Я толькі за! - ажывіўся Міцька, для якога выпіўка была найвялікшым святам. Яны паставілі пакункі на зямлю, закурылі і пайшлі за пустую хату Антося Вярбовіча, у якой ужо даўно ніхто не жыў. Пакет з прадуктамі і спіртным узялі, а другі - з

чунямі - забыліся. Уселіся на ганку, што быў ад лесу, і разлажыліся банкетаваць.

- Пашэнціла! - паціраючы рукі, мовіў Міцька. - Тут і каўбаса, і вяндліна, і дзве бутэлькі гарэлкі ды столькі ж віна. А самагонку, думаю, трэба схаваць пад ганак, яна нам потым спатрэбіцца.

Неўзабаве з магазіна выйшла дзеўка-перастарак Ванда Кунцэвіч, што жыла па суседстве з Кнігаўкамі. Яна таксама несла пачастункі, каб разам з мацерай адзначыць кабечае свята. Бачыць, на вуліцы стаіць нейкі пакунак. Разгарнула цэлафан, а там навюткія чуні. Абутак нібыта мужчынскі, але і бабам падыдзе, з нагі не зваліцца. Гэта ж, як балота ці галалёд, лепшага не трэба. Абрадавалася. Аглянулася навокал - нідзе нікога. Узяла і пашыбавала да сваёй хаты, добра, што было недалёка.

- Што гэта ў цябе? - пацікавілася маці. - Знайшла во! Як у нашай балоцістай мясцовасці, дык лепшага абутку і не трэба.

Жанчыны селі баляваць. Назаўтра ўжо быў працоўны дзень, і Ванда ранічкай накіравалася на сваю пошту, дзе шмат гадоў працавала паштальёнкай. Надвор'е выдалася паскуднае. Завываў вецер, мокры снег з дажджом хлюпалі ўперамежку, нібы стараліся, хто каго пераможа. Праходзячы ля хаты Васіля Кнігаўкі пачула нейкі гвалт, а потым з дзвярэй куляй выскачыў гаспадар у адных спадніках. За ім з качаргой гналася жонка. Калі муж панёсся за пуню, Кацярына зачапілася поглядам за суседку. Не так за суседку, як за новенькія цёмна-сінія чуні.

- Дык вось яно як!.. Што гэта ў цябе на нагах, бессаромніца?!

- Абутак, хіба не бачыш?

- А дзе ўзяла?! Украла, зладзейка! Ці мой пустадомак падарыў за якую паслугу?! Я цябе ведаю не першы год, ты да чужых мужчын ласая! Замуж ніхто не ўзяў, дык толькі і стрыжэш вачамі па баках, каб цябе нагола абстрыглі!

- Каб нават ён адзін быў на свеце, то я не паквапілася б на такое шчасце.

І тут з-за пуні высунуўся Васіль. Ён замёрз на халодным ветры і тросся, як асіна.

- Ты ёй падарыў чуні?!

- Ды я яе і ў вочы не бачыў! Не плявузгай абы-чаго, не наводзь паклёп на сумленную дзяўчыну!

- Заступаешся! Значыць, недарэмна, у вас абаіх смятанка на вуснах. Вось я зараз пайду да ўчастковага і выведу яе на чыстую ваду!

- Ды ідзі ты, ведаеш куды?! Гэтыя чуні стаялі пасярод вуліцы, а нікога паблізу не было. Я і ўзяла, занесла дадому. Падумала, спатрэбяцца. Забірайце і насіце, каб вас з ветрам панесла! Панапіваюцца да бяспамяцтва, пагубляюць свае рэчы, а потым абражаюць сумленных людзей.

Дзеўка зняла чуні і ў шкарпэтках, распырскваючы талы снег, пабегла да сваёй хаты. А Кнігаўкі - да сваёй. Высвятляць адносіны…





## Валерый ПЕТРЫКЕВІЧ
(1946)

*Нарадзіўся ў вёсцы Любча Наваградскага раёна ў сям'і настаўніка.*

*У 1963 годзе скончыў 10 класаў Валеўскай сярэдняй школы. Як член зборнай каманды вобласці па лёгкай атлетыцы, быў запрошаны на пасаду настаўніка фізкультуры ў Райцаўскую СШ Карэліцкага раёна, а праз пару гадоў - у Валеўскую СШ, а затым і ў СШ № 2 г. Навагрудка. Праца настаўніка прыйшлася па душы. Таму завочна ў 1969 годзе скончыў Беларускі інстытут фізічнай культуры ў Менску.*

*Са жніўня 1967 года жыве і працуе у Дзятлаве, спачатку быў дырэктарам мясцовай спортшколы, а затым настаўнікам фізічнай культуры ў сярэдніх школах №1 і №3. З 2006 года - на пенсіі. На працягу ўсяго жыцця любіў падарожнічаць. З вучнямі СШ №1 не адзін раз здзяйсняў шматдзённыя водныя паходы па рэках Беларусі, Карэліі, Карпатаў, а ў складзе гарадзенскіх турыстаў-воднікаў зведаў усю прыгажосць, асалоду і экстрым падарожжаў па горных рэках Каўказа, Алтая, Цянь-Шаня, Саянаў, Далёкага Усходу, Кольскага паўвострава і Паміра.*

*Уражаннямі ад сваіх першых школьных паходаў дзяліўся з чытачамі газет "Піянер Беларусі", "Зорька". Пазней дасылаў шмат артыкулаў у дзятлаўскую раённую газету "Перамога". Падчас вайсковай службы на Балтыйскім флоце цесна супрацоўнічаў з газетай "Страж Балтыкі". На старонках "Настаўніцкай газеты" распавядаў пра вопыт арганізацыі турысцка-краязнаўчай працы ў СШ № 1 г. Дзятлава. У апошнія гады займаецца гістарычна-краязнаўчымі справамі, даследуе і ўшаноўвае сваіх знакамітых землякоў.*

*Старшыня Дзятлаўскай раённай арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны.*

# Канстанцін Астрожскі

## Дарога да гетманскай булавы, першыя перамогі і першае паражэнне

У дзятлаўскай раённай газеце "Перамога" за 14 ліпеня 2018 года навуковы супрацоўнік Дзятлаўскага гістарычна-краязнаўчага музея Алена Абрамчык коратка расказала пра заснавальніка нашага Дзятлава і першага яго ўладальніка Канстанціна Іванавіча Астрожскага (1460-1530) - адзінага ў гісторыі Вялікага Княства Літоўскага пажыццёвага гетмана найвышэйшага, прадстаўніка аднаго з найбагацейшых на той час магнацкіх родаў, які ганарыўся сваім паходжаннем ад дынастыі Рурыкавічаў.

Дзякуючы Канстанціну Іванавічу, Астрожскія набылі вядомасць і ўплывовасць не толькі ў сваёй дзяржаве, але і далёка за яе межамі. Найперш гэтаму спрыялі мудрая палітыка гетмана, скіраваная на палітычнае і ваеннае супрацоўніцтва з Польшчай, і, вядома ж, яго ваенныя дасягненні.

Пра дзяцінства будучага палкаводца вядома няшмат. У магнацкіх сем'ях таго часу з ранніх гадоў паралельна навучанню грамаце вялікая ўвага надавалася фізічнай загартоўцы хлопчыкаў, падрыхтоўцы іх да вайсковай справы, бо хто, як не ўладальнікі багаццяў, павіны былі ўмець іх абараняць і памнажаць. Бацька Кастуся памёр вельмі рана, таму выхаваннем малодшага брата займаўся старэйшы - Міхаіл.

Прага да ведаў, нястомная працаздольнасць, упартасць, гены слаўнага ваяра (бацькі Івана) - усё гэта хутка давала плён. Ужо юнаком Канстанцін быў фізічна вынослівы, выдатна валодаў зброяй як у пешым шыхце, так і конна, ведаў шмат прыёмаў вядзення баявых аперацый, скіраваных на розныя кліматычныя ўмовы і рэльеф мясцовасці, засвоіў спосабы заманьвання ворага ў "пастку", а таксама прыёмы дасягнення перамогі меншай колькасцю ваяроў над большай.

Пра гэты перыяд жыцця будучага гетмана найвышэйшага мала звестак у гістарычных дакументах, але вядома, што ў 1480-

ых гадах Канстанцін разам з братам паспяхова змагаўся супраць татар Крымскага ханства, якія тады інтэнсіўна атакавалі паўднёвыя землі Вялікага Княства Літоўскага.

Слава аб смелых і спрытных ваярах Астрожскіх дайшла да двара вялікага князя літоўскага Казіміра, і браты трапілі на службу ў сталіцу, дзе годна выконвалі свае абавязкі. Дакладна вядома, што ў 1491 годзе князь Канстанцін пад камандаваннем Сямёна Гальшанскага ўдзельнічаў у пераможнай бітве з татарамі пад Заслаўлем. У наступным, 1492 годзе, пачынаецца першая вайна паміж Маскоўскай дзяржавай і ВКЛ. Браты Астрожскія таксама ўдзельнічаюць у ёй: яны заўсёды на перадавой лініі вызначальных бітваў. За смеласць, рашучасць, шматлікія перамогі атрымліваюць ва ўласнасць ад вялікага князя літоўскага Аляксандра Ягелончыка, які пасля смерці Казіміра сеў у 1492 годзе на вялікакняжацкі трон, маёнткі Паланая (1494 год), Глінскае (1496 год) і Здолбіцу (1496 год) на Валыні.

Дакументальна пацверджана, што ў канцы 1496 года Канстанцін Астрожскі чарговы раз абараняў Валынь ад татарскага нападу і зноў паспяхова. У наступным, 1497 годзе, пасланы на дапамогу польскаму каралю Яну Альбрэхту бараніць букавінскія землі (сучасная Малдова), Канстанцін Астрожскі разбіў татарскія войскі на поўдні ад Брацлава і ўзяў у палон сына крымскага хана Менглі Гірэя Махмеда. Неўзабаве пасля гэтай перамогі Аляксандр Ягелончык прызначае яго гетманам вялікім літоўскім. Так, у 1497 годзе 37-гадовы Канстанцін становіцца галоўнакамандуючым арміяй ВКЛ. Невыпадкова яму перадаюцца і тры пагранічныя староствы - Брацлаўскае, Вінніцкае і Звянігародскае. З гэтага моманту цяжар ад набегаў татар цалкам кладзецца на яго плечы, тым больш, што на Валыні было і радавое "гняздо" Астрожскіх - горад Астрог, які робіцца ядром яго рэзідэнцыі.

Усе гэтыя перамогі яшчэ больш набліжаюць вялікага гетмана да Аляксандра Ягелончыка і яго палітыкі. Канстанцін цвёрда ўваходзіць у вузкае кола найбольш уплывовых асобаў ВКЛ.

У 1498 годзе Астрожскі за баявыя поспехі атрымлівае двор Здзецела (сучаснае Дзятлава) з правам заснавання тут мяс-

тэчка. На развілцы дарог са Слоніма на Ліду і Наваградак, што была побач з дваром, Астрожскі выдзяляе зямлю пад рыначную плошчу, запрашае на пасяленне раменнікаў і гандляроў. Мястэчка хутка расце і набывае вядомасць, бо ляжыць на стратэгічным шляху з Вільні на Валынь. Неўзабаве Астрожскі ўзнагароджваецца зямельнымі надзеламі ў Ахонаве і возерам Свіцязь з навакольнымі вёскамі.

Імклівая экспансія і пашырэнне межаў Маскоўскай дзяржавы ў канцы XV стагоддзя стала поўнай нечаканасцю для суседзяў. На гэтай хвалі паспяхова было ажыццёўлена далучэнне Наўгародскай рэспублікі, Цвярскога княства, Вяцкай зямлі, а таксама захоплены масівы зямель, якія раней належалі ВКЛ.

У траўні 1500 года пачалася новая вайна з Маскоўскай дзяржавай. На Вялікае Княства Літоўскае рушылі дзве арміі пад камандаваннем братоў Якава і Юрыя Захар'іных. Да канца чэрвеня маскоўскія войскі занялі Бранск, Ноўгарад-Северскі, Старадуб, Дарагобуж. Напад быў поўнай нечаканасцю для літоўскага боку. Астрожскі спрабаваў сабраць армію, якая змагла б весці эфектыўную абарону. Гаворка ішла перш за ўсё пра выратаванне Смаленска. З сіламі, якія налічвалі каля 3,5 тысячы конніцы, ён выступіў да гэтай важнейшай на літоўска-маскоўскім памежжы цвердзі. Войска гетмана было ўзмоцнена невялікім паспалітым рушэннем, а таксама раскватараванымі ў Смаленску атрадамі. Маскоўскі бок сканцэнтраваў супраць Астрожскага 20-тысячнае войска пад агульнай камандай ваяводы Данііла Шчэні, якое і пачало аблогу кцвердзі. Сітуацыя набывала драматычны характар. Земская служба, адказная за мабілізацыю, збіралася павольна, а таму Канстанцін Іванавіч не стаў чакаць атрадаў, якія вёў Аляксандр Ягелончык, і рушыў берагам Дняпра да левага прытока ў вярхах ракі Вядрошы, на поўдзень ад Дарагобужа. Тут 14 ліпеня 1500 года адбылася бітва з пераважаючым у некалькі разоў маскоўскім войскам.

Астрожскі быў упэўнены ў якаснай падрыхтоўцы сваіх жаўнераў, але праігнараваў данясенні шпіёнаў, не разведаў поле бою. Спачатку яму ўдалося з ходу разбіць вартавы полк, але далей напароўся на асноўныя сілы. Разгарэўся шасцігадзінны бой. Пад канец бітвы на правым фланзе ў тыл ваярам ВКЛ нанёс

удар запасны полк праціўніка. Колькасная перавага і элемент нечаканасці прынеслі заслужаную перамогу маскоўскім войскам, а Астрожскаму першае і адзінае за гетманскую кар'еру ганебнае паражэнне. З абодвух бакоў загінула па некалькі тысяч ваяроў. Быў узяты ў палон сам вялікі гетман Астрожскі і многія іншыя прадстаўнікі літоўскай знаці, у тым ліку Іван Храптовіч, Мікалай Глябовіч, Міхаіл Зяновіч. Праўда, Смаленск так і не быў захоплены.

Прайграная бітва скалыхнула літоўскую эліту і прывяла да таго, што некаторыя ўдзельныя князі, бачачы слабасць Ягелонаў, пачалі добраахвотна пераходзіць на бок маскоўскага валадара Івана III. Гэта паўплывала на далейшы ход вайны. Па выніках перамір'я, падпісанага ў 1503 годзе, ВКЛ мусіла аддаць Маскоўскай дзяржаве гарады Невель, Веліж, Тарапец, Бранск, Трубецк, Старадуб, Ноўгарад-Северскі і Чарнігаў. Ад Літвы таксама адышлі Пуціўль, Рыльск і Гомель, а ў дадатак Мглін з Паповай Гарой.

Тэрытарыяльныя страты прывялі да таго, што такія стратэгічна важныя гарады, як Полацк, Віцебск, Смаленск і Кіеў ператварыліся ў прыгранічныя.

Некалькі словаў пра гады, праведзеныя Канстанцінам Астрожскім у палоне. Умовы ўтрымання вязня-гетмана апісваюцца па-рознаму. Няпраўдзівымі з'яўляюцца звесткі Мацея Стрыйкоўскага, які сцвярджаў, што "гетман быў у цяжкім палоне трыманы, бо казалі, што рукі ў яго ззаду былі заліты волавам, а ногі закаваныя". На самой справе ў Маскве Канстанцін Іванавіч знаходзіўся пад хатнім арыштам, што было звязана з планамі маскоўскага цара выкарыстаць вайсковы досвед палоннага сабе на карысць. Але Астрожскі не хацеў прысягаць на вернасць Івану III. Толькі пасля смерці апошняга, 18 кастрычніка 1506 года, ён даў прысягу яго сыну і наступніку Васілю. Гэта дазволіла Астрожскаму свабодна перамяшчацца па дзяржаве і шукаць зручнага выпадку для ўцёкаў. Такі выпадак надарыўся ў жніўні 1507 года, калі князь Канстанцін на чале падпарадкаванага яму татарскага атрада пакінуў тэрыторыю Маскоўскай дзяржавы і прыбыў у Вільню, дзе якраз знаходзіўся новы польска-літоўскі манарх Жыгімонт I Стары.

Кароль з энтузіязмам прывітаў Астрожскага, не прад'явіўшы ніякіх абвінавачванняў, а таксама падарыў шэраг новых маёнткаў, што выклікала зайздрасць у літоўскай знаці, якая пачала абвінавачваць гетмана ў шпіянажы на карысць Масквы. Апрача таго, падставай для абвінавачвання слаўнага палкаводца было і яго праваслаўнае веравызнанне. Дарэчы, хутка пасля вяртання з палону Канстанцін Іванавіч прыязджае ў Зенцёлу (Дзятлава), выбірае месца і фундуе тут пабудову драўлянай праваслаўнай царквы (1508 год).

## Бітва, якая прынесла сусветную славу

Пераход маскоўскага трона да Васіля III (1505 год), а польска-літоўскага - да Жыгімонта I (празванага пазней Старым) не спыніў ваеных дзеянняў на ўсходнім тэатры. Праўда, 5 жніўня 1506 года войскам ВКЛ удалося разбіць татараў пад Клецкам, але пагроза з боку Масквы не зменшылася.

1508 год стаў адным з найцяжэйшых у гісторыі літоўска-маскоўскага супрацьстаяння за панаванне на ўсходніх рубяжах Еўропы. Забойства ваяводы трокскага Яна Забярэзінскага князем Міхаілам Глінскім і здрада апошняга разам з адначасовай агрэсіяй Васіля III на Смаленшчыне маглі скончыцца для Жыгімонта I катастрофай. Толькі нескаардынаванасць паміж атрадамі Глінскага, які здолеў узяць адзін Мазыр, і маскавітамі, якія абмежаваліся аблогай Оршы, выратавала ліцвінаў. Падмацаванне, якое прыйшло пад сцены Оршы 13 ліпеня, прымусіла праціўніка адступіць, і неўзабаве пачаліся перамовы аб спыненні вайны. Мірны дагавор, падпісаны ў Маскве ў кастрычніку 1508 года, перадаваў ВКЛ Любеч з валасцямі ў вусці Сожа, але адначасова пацвярджаў прыналежнасць Севершчыны да Маскоўскай дзяржавы.

Поспехам Масквы на ўсходнім тэатры ваенных дзеянняў спрыяў заключаны царом саюз з крымскім ханам Менглі-Гірэем. Апошняга напружваў той факт, што ў руках Ягелонаў знаходзіўся былы хан Залатой Арды Шэйх-Ахмед, які зімой 1503-1504 гадоў уцёк на землі, падуладныя Аляксандру Ягелончыку, і затым быў перапраўлены ў Вільню. Менглі-Гірэй неаднаразова

патрабаваў пажыццёвага зняволення Шэйх-Ахмеда, які быў для яго небяспечным канкурэнтам на ханскі трон. Увосень яго патрабаванні былі задаволены, але нягледзячы на гэта ўзаемаадносіны ВКЛ і Польшчы з Крымам не палепшыліся. Менглі-Гірэй надалей падтрымліваў саюз з Васілём III. У 1508-1510 гадах татары неаднаразова атакавалі Падолле і Валынь, аказаўшы тым самым вялікую паслугу свайму ўсходняму саюзніку.

Разумеючы неабходнасць разарваць гэты саюз, Жыгімонт I правёў у 1510 годзе перамовы з Менглі-Гірэем. За пераход на бок Ягелонаў хан патрабаваў штогадовай даніны памерам 15 тысяч залатых, а таксама гарантый, што Шэйх-Ахмед ніколі не будзе вызвалены з-пад арышту. Тым часам татары прадаўжалі спусташаць Кіеўшчыну, зрэдку робячы набегі аж да Ашмян. Толькі перамога палякаў пад камандаваннем гетмана Мікалая Камянецкага 28 красавіка 1512 года пад Вішняўцом, а таксама няўдалыя паходы татар на Малдову, прымусілі Менглі-Гірэя змяніць прыярытэты. Пасля перадачы агавораных падарункаў ён заключыў з Жыгімонтам I саюз, скіраваны супраць Масквы, а татарская конніца рушыла на Разань і Севершчыну. Аднак у вырашальным для ходу вайны з Васілём III 1514 годзе ВКЛ змагло разлічваць толькі на падмацаванне з боку Каралеўства Польскага. Спадзяванні на дапамогу Менглі-Гірэя не спраўдзіліся, бо той, атакаваны супляменнікамі-нагайцамі, мусіў весці цяжкія баі за свой дамен - Крымскае ханства.

У студзені 1510 года ў Камянцы-Падольскім ВКЛ падпісала мірны дагавор з малдаўскім гаспадаром. Урэгуляванне стасункаў з Малдовай, а таксама заключэнне саюза з ханам Менглі-Гірэем давалі Жыгімонту I магчымасць засяродзіцца на галоўным тэатры ваенных дзеянняў - так званай "Смаленскай браме", за якую даўно змагаўся з ВКЛ цар Васіль III. У 1512 годзе ён распачаў чарговую ваенную кампанію супраць ВКЛ. Афіцыйнай нагодай для разрыву перамір'я была дыскрымінацыя літоўскім дваром удавы Аляксандра Ягелончыка Алены (была дачкой маскоўскага цара Івана III), а таксама набегі татар, якія заключылі саюз з Жыгімонтам I, на маскоўскія землі.

У студзені 1513 года быў абложаны Смаленск, іншыя важныя гарады прыгранічча - Полацк, Віцебск і Мсціслаў. Каман-

дзіры іх гарнізонаў, аднак, з годнасцю прынялі выклік, асабліва ваявода Юрый Глябовіч, які два месяцы абараняў Смаленск. Другую спробу здабыць гэту найважнейшую ў абарончай сістэме дняпроўскага басейна цвердзь маскоўскі бок ажыццявіў у жніўні таго ж года. Цяпер ліцвіны былі лепш падрыхтаваны: пад Оршу прыбыло падмацаванне на чале з гетманам ВКЛ Канстанцінам Астрожскім, якое разбіла 14-тысячны корпус маскоўскага войска. Вялікія страты і марныя спробы ўзяць Смаленск штурмам прымусілі цара 1 лістапада 1513 года зняць аблогу. Тым часам літоўскія атрады пры дапамозе наёмных харугваў з Каралеўства Польскага ачысцілі прыгранічную тэрыторыю ад маскоўскіх сіл, адцясніўшы праціўніка і ад Полацка, і ад Віцебска. Але маскоўскі бок пачаў падрыхтоўку да новай ваеннай кампаніі з мэтай захопу Смаленска. Ліцвіны папоўнілі ў прыгранічных землях запасы зброі і харчавання, але не ўмацавалі замкавых гарнізонаў. Менавіта таму новы паход царскіх войскаў пад Смаленскія муры скончыўся поспехам. Правалу абароны паспрыяла здрада мяшчан і няздольнасць каменданта цвердзі Юрыя Салагуба падтрымліваць дысцыпліну ў падначаленых яму атрадах. 30 ліпеня 1514 года Сімаленск капітуляваў. Пасля больш як стогадовага панавання вялікіх літоўскіх князёў над Смаленскам горад перайшоў пад уладу Масквы. Ваявода Юры Салагуб быў абвінавачаны ў здрадзе і па загадзе Жыгімонта І пакараны смерцю. Пасля падзення Смаленска маскавіты нацэліліся і на цэнтральныя землі ВКЛ.

Тым часам сабраныя і аб'яднаныя польска-літоўскія сілы нарэшце выйшлі з-пад Менска да Оршы, ачышчаючы ад маскоўскіх атрадаў басейн Бярэзіны. 25-тысячнае войска пад камандаваннем Канстанціна Астрожскага паходным шыхтам рушыла насустрач маскоўскім сілам на чале з Іванам Чаляднінам. Набліжалася найвялікшая і па колькасці ваяроў, і па важкасці вынікаў для далейшага лёсу ВКЛ, бітва. Войска Астрожскага сустрэлася з маскоўскімі сіламі, якія пераўзыходзілі па колькасці нашых продкаў як мінімум у два разы (у гістарычных дакументах падаюцца звесткі як 20-30 тысяч супраць 70-80 тысяч).

Галоўнакамандуючы маскавітамі Іван Чаляднін усё сваё шматтысячнае войска размясціў у выбраным загадзя месцы на

левым беразе вялікай лукавіны Дняпра, за 3-4 кіламетры ад Оршы ў бок Дуброўна, побач з вусцем невялікага левага прытока ракі Крапіўны. У гэтым месцы быў адзіны брод цераз Днепр у бліжэйшым наваколлі. На дзясяткі кіламетраў вышэй і ніжэй па цячэнні рака была глыбокая, са шматлікімі вірамі і амаль непраходная.

Насупраць броду, умацаванага гарматамі, шырокім фронтам заняло пазіцыі велізарнае маскоўскае войска. Гэтым бродам скарысталася асноўная частка літоўска-польскіх ваяроў. Маскавіты змаглі спыніць пераправу, аднак яны занадта разлічвалі на вялікую колькасць сваіх воінаў і не рушылі з месца. Такім чынам частка беларуска-літоўскай конніцы на вачах у праціўніка бесперашкодна фарсіравала раку і заняла баявыя пазіцыі амаль на самым беразе Дняпра, пазбаўляючы сябе шанцу на адступленне. Вышэй па цячэнні праз патаемна наведзены з плытоў і лодак мост прайшла пяхота з гарматамі. Тут жа пераплылі раку і некалькі тысяч коннікаў. Так літоўскае войска без страт перайшло Днепр ды схавала частку ваяроў у засадзе.

Бой завязаўся пасля трох гадзін дня. Маскавіты намагаліся абысці нашых продкаў і ўдарыць у тыл. Пасля кароткай прамовы Астрожскі павёў у атаку конніцу і пяхоту на расцягнутыя рады маскоўскага войска. Бітва была жорсткай і вялася спачатку з палкамі Булгакава-Голіца, Чаляднін у бой не ўступаў, а калі ўдар абрынуўся на яго палкі, ад бою ўхіліўся Булгакаў-Голіца. Хітрым манеўрам пад выглядам адступлення Астрожскі ўцягнуў праціўніка ў пагоню і вывеў яго пад агонь сваіх замаскіраваных гармат. Пасля гэтага ён зноў нанёс удар, але ўжо па задніх радах палкоў Булгакава-Голіцы. Тылавыя атрады, спалохаўшыся і мяркуючы, што першыя рады ўжо разбіты, пачалі ўцякаць. У гэты час дзень пачаў хіліцца да заходу. Страх і роспач ахінулі ворагаў. Яны ўжо былі не ў стане ні змагацца, ні знайсці дарогу назад у тыл, да свайго абозу. Пачалася паніка. У гэтай мітусні яны і панеслі найвялікшыя страты. Ліцвіны акрыялі і ўсёй моцай рушылі на ворага, гналі і забівалі яго. Толькі ноч і лясы паклалі канец бітве. Побач з полем бою ў Днепр упадае нешырокая, але глыбокая рака Крапіўна. Уцекачам неабходна было перабірацца цераз яе, каб пазбегнуць пагоні. Менавіта гэта

рака і стала магілай для дзясяткаў тысяч маскоўскіх ваяроў. Іх патанула столькі, што рэчка была запруджана трупамі на некалькі кіламетраў…

У гэтай бітве з маскоўскага боку было забіта і патанула больш за 40 тысяч ваяроў, палонена - каля 4 тысяч, у тым ліку галоўнакамандуючыя Чаляднін, Булгакаў-Голіца і яшчэ 8 ваяводаў, 17 іншых военачальнікаў, каля 2 тысяч "дзяцей баярскіх" і больш за 2 тысячы вояў.

Страты аб'яднанага літоўска-польскага войска былі амаль у 100 разоў меншыя. Забітымі аказаліся крыху больш за 400 чалавек. Ні адзін ліцвін не быў палонены. Праўда, было некалькі тысяч параненых ваяроў. Сярод забітых - усяго чатыры высакародныя шляхціцы, целы якіх былі пахаваны з вялікай пашанай. Пераможцам раздалі 20 тысяч трафейных коней і палову захопленага абозу, а неўзабаве ў Вільні Жыгімонт І урачыста правёў іх вуліцамі горада.

Палонныя маскавіты дзясяткі гадоў заставаліся ў розных гаспадарчых дварах ВКЛ. Чаляднін памёр у Вільні праз некалькі гадоў, а Булгакаў-Голіца вярнуўся на радзіму толькі ў 1552 годзе.

Легат (прадстаўнік Папы рымскага) Пізон, які быў на полі бітвы, пісаў да Яна Карыція літаральна ў час падзеяў, што ніколі не бачыў большай конніцы і не паверыў бы, калі б не ўбачыў на ўласныя вочы. Таксама яго ўразіла колькасць павозак, якія везлі харчаванне, і колькасць палеглых маскавітаў. Ён таксама пісаў пазней, што ніколі не бачыў такога пампезнага шанавання і шэсця пераможцаў у Вільні.

Аршанская бітва 1514 года - адна з буйнейшых бітваў на тэрыторыі Еўропы ў пачатку XVI стагоддзя. Перамога ў ёй дала магчымасць вярнуць захопленыя праціўнікам Дуброўну, Мсціслаў і Крычаў. Смаленск, праўда, узяць не ўдалося, аднак на некалькі дзесяцігоддзяў спынілася наступленне Маскоўскай дзяржавы на землі ВКЛ (за выключэннем асобных набегаў). Пра бітву шмат пісалася, была складзена беларуская гістарычная песня, якая праслаўляла Канстанціна Астрожскага, у 1520-1530-х гадах невядомым аўтарам напісана батальная карціна (захоўваецца ў Нацыянальным музеі ў Варшаве), амаль два стагоддзі ў лепшых ваенных навучальных установах Еўропы

вывучалі стратэгію і тактыку вядзення бітвы Канстанцінам Астрожскім. Найвышэйшы гетман Астрожскі набыў пасля гэтай пераможнай баталіі міжнародны аўтарытэт і пашану, не кажучы пра яго папулярнасць у ВКЛ. Папскі легат гаварыў пра яго: "Ён высакародны, як Нума (Нума Пампілій - легендарны цар Старажытнага Рыма), і мужны, як Ромул…, шкада толькі, што схізматык".

## Змаганне за праваслаўную веру

Канстанцін Іванавіч Астрожскі быў прыхільнікам цеснага палітычнага і ваеннага супрацоўніцтва з Польшчай, што давала магчымасць супольна больш надзейна бараніць межы ВКЛ, але пры гэтым ён не здрадзіў свайму праваслаўнаму веравызнанню. На працягу жыцця Канстанцін Іванавіч ні на хвіліну не задумваўся пра пераход у іншую канфесію, тым больш што ў ВКЛ тых часоў павага да рэлігійных свабодаў жыхароў не была пустым гукам.

У XV-XVII стагоддзях многія ўплывовыя магнаты мянялі сваё веравызнанне, пераходзілі з праваслаўя ў каталіцтва ці пратэстанцтва, каб быць "бліжэй" да знаці Польшчы ды іншых еўрапейскіх краін і мець пры гэтым нейкія прывілеі. Згодна з тагачаснымі традыцыямі, ваяводам трокскім мог быць толькі католік, але за талент военачальніка, якім валодаў Астрожскі, за яго заслугі перад дзяржавай праваслаўны князь дачакаўся свайго прызначэння на гэтую пасаду, што выклікала негатыўную рэакцыю з боку магнатаў-католікаў, якія "хваравіта" прынялі гэтую намінацыю, палічыўшы яе "замахам" на сваю веру, сваё прывілеяванае становішча ў дзяржаве. Гетману найвышэйшаму тады было больш за 60 гадоў, ён пачаў марыць аб больш спакойным жыцці.

Канстанцін Іванавіч адышоў ад вайсковай справы і прысвяціў сябе выключна гаспадарчай дзейнасці і справам богадагодным пасля пераможнай бітвы над татарамі 5 лютага 1527 года на берагах ракі Альшаніцы, што побач з Чаркасамі, у якой была адбіта ўся нарабаваная здабыча, вызвалены 40 тысяч палонных, 700 татараў узяты ў палон, астатнія (каля 25 тысяч)

загінулі ў бітве ці былі перабіты ў час уцёкаў, а войска Астрожскага налічвала ўсяго 3500 коннікаў, самому ж гетману было ўжо пад 70 гадоў.

Пра мірнае жыццё гэтага чалавека можна меркаваць па эпізадычных звестках, што дайшлі да нас. Вось як у адным з дакументаў апісана яго жыллё: *"Святліца з драўлянай нефарбаванай падлогай, невялікія вокны, шырокія драўляныя лавы ўздоўж сцен, дубовы стол, над якім у куце, аздобленыя льняным палатном, іконы"*, - вось і ўсё ўбранства галоўнага пакоя наймагутнейшага вяльможы ў Літве. Можна толькі здагадвацца, што і асабістае жыццё князя Канстанціна Астрожскага адпавядала абстаноўцы яго дома.

Неабсяжныя землеўладанні патрабавалі вялікіх клопатаў па кіраванні. Канстанцін Іванавіч часта вызваляў свае маёнткі ад каралеўскіх падаткаў, будаваў цэрквы, не даваў сваіх "падуладных" у крыўду суседнім панам. Мяккасць і міралюбівасць знайшлі павагу і любоў, высока паднялі яго прэстыж сярод праваслаўнага насельніцтва. Нават сяляне іншых паноў беглі ва ўладанні Астрожскага і добраахвотна не пагаджаліся вяртацца назад.

У гэты перыяд жыцця ўсе справы гетмана найвышэйшага былі скіраваны на карысць роднага народа. Напрыклад, карыстаючыся прыхільнасцю караля, ён выпрасіў у яго вызваленне жыхароў Луцка, спустошанага татарамі, на 10 гадоў ад платы гаспадарчых падаткаў.

Невядома дакладна, які ўдзел князь Астрожскі прымаў у падрыхтоўцы і выданні Літоўскага Статута (1529 года), але ён з радасцю вітаў гэтую падзею, бо абвешчаныя ідэі правапарадку былі значным крокам наперад, а ўсе асобы, "як убогія, так і багатыя" - роўныя перад законамі.

Амаль ва ўсіх больш-менш значных населеных пунктах, падуладных яму, Канстанцін Іванавіч закладаў і фінансаваў пабудову праваслаўных храмаў, у тым ліку ў нашым Дзятлаве, суседнім Навагрдку. У сталіцы ВКЛ - Вільні, ваяводам якой стаў напрыканцы свайго жыцця, узнавіў Прачысцінскі сабор, заклаў Троіцкую царкву. Ёсць падстава меркаваць, што Астрожскі прыклаў намаганні ў пабудове ці аздабленні Міхайл-

аўскай царквы ў Сынкавічах на Зэльвеншчыне. Усяго за сваё жыццё ён "прыклаў руку" да будаўніцтва больш як 20 святынь.

Узвышэнне князя Астрожскага спрыяла ўзмацненню праваслаўнай царквы ў Літве, тым больш што сам гетман найвышэйшы, які быў верным і адданым яе сынам і заўсёды абараняў інтарэсы праваслаўя, меў такіх сяброў і прыхільнікаў, як каралева польская і вялікая княгіня літоўская Алена Іванаўна (дачка маскоўскага цара Івана III, якая ў шлюбе не змяніла праваслаўнай веры), мітрапаліт Іосіф Солтан, Аляксандр Хадкевіч, стараста берасцейскі, ваявода Навагрaдскі, маршалак гаспадарскі, фундатар пабудовы велічнага Супрасльскага манастыра на Беласточчыне і дзясяткаў храмаў, яры прыхільнік праваслаўя.

Шэраг хадайніцтваў і рашэнняў на карысць цэркваў і манастыроў, працы па паляпшэнні ўнутранага распарадку жыцця царкоўнага і знешне юрыдычнага яе становішча канцэнтруюць у асобе Астрожскага ўсе інтарэсы таго часу, усе прыгожыя бакі тагачаснага праваслаўнага грамадства.

Важнейшыя перамены ў царкве звязваліся з яго іменем, міласці да праваслаўных па заяве самога караля рабіліся для Канстанціна Астрожскага. Паважаючы яго, кароль неаднаразова хадайнічаў перад урадам за праваслаўных. У выніку было трывала зацверджана юрыдычнае становішча праваслаўнай царквы ў Літве. Пры садзейнічанні Астрожскага былі прыняты і часткова ўкаранёны меры для падняцця маральнага і духоўнага ўзроўню праваслаўных, тым больш што каталіцтва, якое тады не мела заўзятых дзеячаў, адносілася да праваслаўя абыякава. Дзякуючы гэтаму, было вызначана становішча епіскапаў і сабаран і шмат зроблена па ліквідацыі патранацтва - спрэчнага пытання паміж епіскапамі і панамі з-за ўмяшальніцтва свецкіх асобаў у царкоўныя справы. Сяброўства гетмана найвышэйшага з мітрапалітамі, епіскапамі, праваслаўнымі дабрачыннымі панамі становча садзейнічала падняццю матэрыяльнага становішча царквы.

Скіроўваючы свой уплыў на карысць праваслаўя, Астрожскі стаў цэнтрам, вакол якога дружна гуртаваліся ўсе найбагацейшыя праваслаўныя магнацкія роды Беларусі і Вільні: князі Вішнявецкія, Дубровіцкія, Мсціслаўскія, Дашкевічы, Сол-

таны, Гулевічы.

Памёр Канстанцін Астрожскі 10 жніўня 1530 года. На надмагіллі гетмана, якое знаходзілася ў Кіева-Пячэрскай Лаўры (знішчана ў час Вялікай Айчыннай вайны), быў надпіс з пералікам яго ваенных дасягненняў, князь быў названы "рускім Сцыпіёнам" (Сцыпіёны - знакамітыя палкаводцы старажытнай рымскай імперыі, перамаглі Ганібала і заваявалі Карфаген).

Справу бацькі годна працягваў малодшы сын гетмана найвышэйшага Канстанцін Васіль, стараста Уладзімірскі і маршалак Валынскай зямлі, ваявода Кіеўскі, заступнік праваслаўнай веры, які выступаў супраць пашырэння каталіцтва на Беларусі і ва Украіне, шчодра падтрымліваў фінансамі праваслаўныя брацтвы, адкрыў школы ў Слуцку, Тураве, Астрогу, заснаваў дзве друкарні - Астрог і Дэрмань.

Найбольшую вядомасць набыла Астрожская школа. Гэта была грэка-славяна-лацінская калегія, першая навучальная ўстанова вышэйшага ўзроўню, вядомая сярод сучаснікаў як "акадэмія", што стала значным асветніцкім цэнтрам антыкаталіцкага накірунку. Акрамя вывучэння розных моваў, граматыкі, арыфметыкі, логікі, рыторыкі, на высокім узроўні было наладжана вывучэнне музыкі і харавых царкоўных спеваў. Менавіта тут развіўся шырока вядомы ва Украіне і Беларусі "астрожскі напеў". Астрожская школа зрабіла вялікі ўплыў на пашырэнне асветы сярод насельніцтва і на арганізацыю падобных брацкіх школ у Львове, Кіеве, Вільні, Берасці, іншых гарадах.

Плённа працавалі і друкарні. У 1581 годзе ў Астрожскай друкарні Іван Фёдараў і Пётр Мсціславец надрукавалі першую рускую Біблію кірылічным шрыфтам, пазней названую "Астрожскай Бібліяй".

Канстанцін Канстанцінавіч дапамагаў львоўскаму святару Васілю, які склаў кнігу "Аб адзінай веры", і вядомаму польскаму пісьменніку, свайму паплечніку Марціну Бранеўскаму.

Памёр Канстанцін Васіль 13 лютага 1608 года ў Астрогу, а пахаваны ў Кіева-Пячэрскай Лаўры.Гетман найвялікшы Канстанцін Астрожскі і яго сын Канстанцін Васіль мелі вялікія неацэнныя заслугі перад ВКЛ, праваслаўнай царквой, і памяць пра іх павінна быць ушанавана адпаведна правілам.

У наш час у Вільні дзейнічае храм-помнік, пабудаваны з ініцыятывы Свята-Духава праваслаўнага брацтва (1908-1913 гады), закладзены да 300-годдзя з дня смерці К. К. Астрожскага. На мемарыяльнай шыльдзе залатымі літарамі напісана: "У памяць раўніцеля і абаронцы праваслаўнай народнасці".

У Беластоку (Польшча) заснаваны фонд князя Астрожскага. Украінская праваслаўная царква на Памесным саборы 2008 года кананізавала князя К. К. Астрожскага як благавернага.

12 траўня 2008 года на тэрыторыі Берасцейскай цвердзі, побач са Свята-Міхайлаўскім гарнізонным саборам, у гонар К.І. Астрожскага ўстаноўлены памятны крыж. У верасні 2012 года на будынку Свята-Георгіеўскай царквы горада Ліды была замацавана мемарыяльная шыльда з выявай К. І. Астрожскага з тэкстам: "К. І. Астрожскі - абаронца веры і Айчыны". Але гэтага мала, гэта не адпавядае ўсім заслугам слаўнага роду кня-зёў Астрожскіх.

Улічваючы важнасць зробленага імі на карысць нашай Айчыны, на карысць праваслаўя, за тое, што ў "падмурак" нашага горада Дзятлава імі "закладзена" першая цагліна, за фінансаванне пабудовы Свята-Праабражэнскай царквы, узнікла ідэя стварэння ў раённым цэнтры манументальнага помніка К.І. Астрожскаму.

Пытанне аб стварэнні помніка К. І. Астрожскаму ў горадзе Дзятлаве ўзгоднена з раённымі ўладамі, Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь, яго падтрымалі святары і многія знакамітыя навукоўцы, мастакі, вучоныя, ураджэнцы Дзятлаўскай зямлі.



**Фёдар КРАСЮК**
(1949)

*Нарадзіўся ў Дзятлаве. Скончыў факультэт гісторыі і замежнай мовы Менскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута. Працаваў настаўнікам, інструктарам-метадыстам на Дзятлаўскай базе юных турыстаў, адказным сакратаром раённай арганізацыі таварыства "Веды", дырэктарам Дзятлаўскага гістарычна-краязнаўчага музея.*

*Прымаў удзел у падрыхтоўцы і выданні кніг "Памяць. Дзятлаўскі раён" (1997) і "На зямлі дзятлаўскай" (1998). Выдаў кнігу "Зецела або Падарожжа па старых вуліцах Дзятлава" (2013, 2015).*

# Адам Міцкевіч і Дзятлаўшчына

Знакамітага паэта Адама Міцкевіча (1798-1855) палякі адназначна называюць сваім польскім паэтам. У кнізе "Мысліцелі і асветнікі Беларусі" 1995 года выдання напісана, што "польскі паэт беларускага паходжання". У беларускай "Энцыклапедыі электроннай" пададзена так: "Беларускі польскамоўны паэт". Сам Адам Міцкевіч называў сябе ліцьвінам. Паэма "Пан Тадэвуш", напісаная ў эміграцыі (1832-1834 гг.) пачынаецца радкамі з сумам аб пакінутай Радзіме:

*Літва! Бацькоўскі край, ты як здароўе тое:*
*Не цэнім, маючы, а страцім залатое…*

Калі прааналізаваць творчасць паэта, то можна заўважыць такія моманты. Гістарычныя і літаратурныя крыніцы свед-

чаць, што Адам Міцкевіч мала ведаў Польшчу. Яго лепшыя творы і іх сюжэты склаліся на беларускай ніве. У яго лірыку ўнесена толькі тое, што дала яму радзіма - "мясцовасць Наваградскага павета".

Літаратурная творчасць Адама Міцкевіча - яскравы прыклад беларуска - польскага культурнага ўзаемаўплыву. Ён пісаў па-польску. Але пра Беларусь. Дарэчы, Адам Міцкевіч добра ведаў і беларускую мову. У сваіх лекцыях пра славянскія літаратуры ў Калеж дэ Франс (1841-1844) ён адзначаў, што беларусы "захавалі найбольшую колькасць агульнаславянскіх рыс", "у іх казках і песнях ёсць усё", а беларуская мова - гэта "самая багатая і самая чыстая гаворка, яна ўзнікла даўно і цудоўна распрацавана".

А ці быў Адам Міцкевіч на Дзятлаўшчыне? Па словах дырэктара музея Адама Міцкевіча ў Наваградку Міколы Гайбы, у нашай літаратуры няма прамых спасылак на тое, што паэт наведваў Дзятлаўшчыну. Але, у некаторых замежных крыніцах упамінаюцца Жыбартаўшчына, Дзятлава і яго ваколіцы. А ў Жыбартаўшчыне ў свайго дзядзькі жыў Ігнат Дамейка, будучы сусветна вядомы вучоны, нацыянальны герой Чылі, сябар Адама на ўсё жыццё. Даследчыкі жыцця і творчасці Адама Міцкевіча мяркуюць, што сяброўства сем'яў Міцкевічаў і Дамейкаў мае даўняе паходжанне і што маладыя людзі Адам і Ігнат былі знаёмыя яшчэ ў школьныя гады. Юнацкімі сябрамі Адама Міцкевіча былі вядомыя потым Ян Чачот, Тамаш Зан. Аднак яго бліжэйшымі суседзямі - аднадумцамі і амаль аднагодкамі, былі Ігнат Дамейка, Юльян Корсак - паэт са Стралы, Вінцэнт Дмахоўскі - мастак з Нагародавіч. Маладыя энтузіясты падарожнічалі па ваколіцах Навагрудка, любілі слухаць расказы мясцовых сялян, шляхціцаў, знаёміліся з іх жыццём і побытам, рабілі этнаграфічныя замалёўкі, наведвалі кірмашы, вяселлі, хрэсьбіны, дажынкі. Аповеды бывалых людзей, сярод якіх знаходзіўся і бацька Адама Мікалай Міцкевіч - былы ўдзельнік паўстання пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі, бунтавалі розумы і сэрцы дапытлівых юнакоў, прымушалі задумвацца над лёсам свайго краю.

Аб замілаванні паэта наваградскімі і дзятлаўскімі мяс-

цінамі сведчыць і адзін з перакладчыкаў "Пана Тадэвуша" Аляксандр Ельскі. Ён піша:" Гэта ж з роднай глебы прарос геній Міцкевіча, і з яе таксама браў ён сюжэты да многіх сваіх твораў, такіх як "Свіцязь", "Свіцязянка", "Дзяды", "Гражына", "Пан Тадэвуш" "Люблю" і з іншых, а мноства мясцін і назваў, якія ўспамінае вяступ, як Цырын, Ятра, Неман, Налібокі, Навагрудак, Мядзведка, Тугановічы, Дзятлава і гэтак далей, паказваюць, дзе ахвотней за ўсё блукала думка песняра, якімі вобразамі любіла яна песціцца".

Пра знаёмства Міцкевіча з Дзятлавам і яго людзьмі згадваецца таксама ў паэме "Пан Тадэвуш". Вось урывак з яе. (Да Тадэвуша Рэйтана завітаў, едучы на сойм, князь Чартарыйскі):

*"Ну, госць у дом - банкет у гонар генерала;*
*З'езд шляхты адусюль, падводы - дзе папала;*
*Спектакль давалі трупаю свайго тэатра;*
*Пан Кашыц феерверкам пасвяціў нам з Ятры,*
*З двара свайго; пан Тызенгаўз прыслаў танцорак -*
*Увесь кардыбалет, дзяўчатак мо пад сорак;*
*Агінскі з Солтанам ці з Дзятлава, ці з Белі*
*Прыслалі хор і музыку - аркестр і дзве капэлі."*

Вядома, што паэт ведаў літоўскую мову. Літоўскі вучоны, літаратар, перакладчык твораў Адама Міцкевіча на літоўскую мову, у прыватнасці вялікай паэмы "Пан Тадэвуш", Антанас Валайціс у артыкуле "Літоўцы родных мясцін А. Міцкевіча. Аб літоўцах Засецей-Дзятлава" (1938 год) піша наступнае: "Адаму Міцкевічу літоўская мова напэўна з малых гадоў, дакладна з юнацкіх часоў, не была чужая. Сведчанне таму - копія лістка Адама Міцкевіча з урыўкамі некалькіх літоўскіх песень; урыўкі гэтыя запісаны рукою самага паэта. Гэта даказваюць і словы Адама Міцкевіча ў заўвагах да "Дзядоў". Гэтыя факты, а таксама балада "Лілея", перафразіраванне літоўскай песні "Пані пана згубіла", паказваюць, што паэт літоўскую мову ведаў з юнацкіх часоў".

Але дзе ён мог з ёю пазнаёміцца? Справа ў тым, што жыхары навакольных вёсак каля Дзятлава - Засецце, Погіры, Норцавічы і іншых - размаўлялі ў той час (і амаль да Другой сусвет-

най вайны) па-літоўску. Плямёны прусаў і бартаў яшчэ ў старажытныя часы былі перасeлены сюды князем Трайдэнам ад наступу крыжаносцаў на іх землі. Вось дзе Адам Міцкевіч мог пазнаёміцца і вывучыць літоўскую мову.

Ігнат Дамейка з Жыбартаўшчыны застаўся бліжэйшым сябрам Адама Міцкевіча на ўсё жыццё. Яму аднаму Міцкевіч давяраў перапіску сваіх рукапісаў. Так, напрыклад, у 1833 годзе ў Парыжы Дамейка перапісвае для Міцкевіча "Пана Тадэвуша". Выказваннем падзячнасці да сябра стаў намер пачаткова назваць паэму "Пан Тадэвуш" "Жэгота" (філарэцкая мянушка Дамейкі). Даследчыкі таксама адзначаюць, што ў гэтым творы шмат элюзій, звязаных з асобай Жэготы і яго атачэннем. Дамейка з'яўляецца і героем III часткі міцкевічаўскіх "Дзядоў". Абодва выгнаннікі аддана падтрымлівалі на чужбіне адзін аднаго. Філамацкія прынцыпы - патрыятызм, любоў да Айчыны, служэнне для дабра роднаму краю - пранеслі сябры праз усё жыццё.

І яшчэ адзін цікавы аргумент. Па суседстве з Жыбартаўшчынай, у вёсцы Страла жыў, як ужо адзначалася, сябра і аднадумец паэта Юльян Корсак. У Стралу на вечарыны прыязджалі І. Дамейка, паэт А. Адынец, Марыля (стрыечная сястра І. Дамейкі і муза А. Міцкевіча), В. Путкамер і іншыя. Сядзіба Ю. Корсака была месцам частых спатканняў перадавой моладзі. Гэта было месца "сяброўска-інтэлектуальных" размоў, літаратурных дыскусій, філарэцкіх думак, гарачых спрэчак. Вечары ладзілі і ў Жыбартаўшчыне, хаця ўсё ж цэнтрам інтэлектуальнага жыцця была рэзідэнцыя Солтанаў у Дзятлаве, куды да Станіслава Солтана, былога маршалка Вялікага Княства Літоўскага, у палац прыязджаў на размовы і спатканні мясцовы свет. Не быць там не мог, бясспрэчна, і Адам Міцкевіч.

З усяго сказанага можна меркаваць, што Адам Міцкевіч бываў на Дзятлаўшчыне і не адзін раз. Таму гэтая тэма яшчэ чакае сваіх даследчыкаў.



*Нарадзіўся ў вёсцы Раклевічы. Скончыў гістарычны факультэт БДУ, аспірантуру Рэспубліканскага інстытута вышэйшай школы. Працаваў у ВНУ, у школе, а таксама ў Дзятлаўскім гістарычна-краязнаўчым музеі.*

*Актыўна займаецца краязнаўчай дзейнасцю.*

**Дзмітрый КУЗЬМА**
(1984)

# Напалеонаўскі генерал Ян Канопка на Дзятлаўшчыне

Ян Канопка нарадзіўся 27 снежня 1775 года ў Скоўдзічах каля Слоніма. Яго бацька Францішак даслужыўся да пасады маёра ў войску Вялікага Княства Літоўскага, а маці Ганна паходзіла з вядомага французскага роду прынцаў дэ Кондэ.

Мемуарыст Восіп Пшацлаўскі адзначаў, што ў гэтай сям'і былі 4 сыны і 3 дачкі. Трое старэйшых братоў пазней служылі ў французскай арміі, а малодшы стаў уланам у расійскай. А праз некаторы час быў прызначаны гараднічым у Слоніме. Адна з сясцёр, Юліянна, спачатку выйшла замуж за расійскага афіцэра Мікалая Безабразава, а ў 1810 годзе стала жонкай ваеннага і ўплывовага дыпламата Дзмітрыя Тацішчава.

У 1792 годзе Ян Канопка, пасля заканчэння школы, паступіў на вайсковую службу ў другі ўланскі полк украінскай брыгады Народнай кавалерыі генерала Станіслава Макраноўскага, які ў той час ваяваў з расійскімі войскамі.

У 1794 годзе Ян Канопка прымаў удзел у паўстанні пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі, праявіў сябе падчас абароны Варшавы смелым воінам і атрымаў званне лейтэнанта. А затым

быў накіраваны ў дывізію генерала Караля Серакоўскага, якая дзейнічала на беларуска-літоўскіх землях.

Пасля паражэння паўстання і далучэння беларусіх зямель да Расіі, Ян Канопка выехаў за мяжу і паступіў на ваенную службу ў французскую армію. Ён праявіў сябе як бясстрашны і таленавіты вайсковец у шматлікіх ваенных паходах у Італіі, Аўстрыі, Іспаніі, быў асабіста знаёмы з Напалеонам Банапартам. З 1807 года ўзначаліў уланскі полк Вісліцкага легіёна.

У 1811 годзе ў знак падзякі за ўдалыя ваенныя дзеянні супраць англійскіх войск у Іспаніі Ян Канопка атрымаў званне брыгаднага генерала і быў узнагароджаны Залатым крыжам ордэна "Virtuti Militari".

У 1812 годзе Напалеон распачаў новую вайну з Расійскай імперыяй. Польска-беларуская шляхта з радасцю ўспрыняла гэтую падзею, спадзеючыся з дапамогай французаў аднавіць Вялікае Княства Літоўскае. Канопка ўзначаліў Трэці Літоўскі ўланскі полк Імператарскай гвардыі. Падчас вайны 1812 года дзесяткі тысяч беларусаў апынуліся ў дзвюх ваюючых паміж сабой арміях.

У кастрычніку 1812 года Канопка са сваім палком рухаўся з Гародні ў бок Менска для падтрымкі французскіх войскаў. Падчас невялікага прыпынку ў Слоніме, атрад быў акружаны і разбіты рускімі войскамі пад кіраўніцтвам генерала Яфіма Чапліца, а сам Ян Канопка быў паранены і трапіў у палон.

Спачатку яго трымалі ў Санкт-Пецярбурзе, а пасля ў Херсоне, пакуль, сур'ёзна хворага, не адпусцілі на волю ў 1814 годзе.

Ян Канопка прыехаў у Варшаву, а пасля пераехаў у сямейнае ўладанне - вёску Дуброўка непадалёку ад Нёмана на Дзятлаўшчыне. Яго лячэннем у лістападзе 1814 года займаўся вядомы доктар Юзаф Франк. Ян Канопка пакутаваў ад хваробы лёгкіх. На жаль, лячэнне не змагло прыпыніць развіццё хваробы, і 20 снежня (па старому стылю) у прысутнасці жонкі, бацькоў і сяброў, генерал памёр.

Згодна паведамленням тагачаснай прэсы, пахаванне адбылося 24 снежня ў Дзятлаве (у тыя часы яно яшчэ называлася Здзянцёлам). У жалобных мерапрыемствах удзенічалі раскватa-

раваныя ў мястэчку расійскія вайскоўцы з Цвярскога драгунскага палка на чале з генерал-маёрам Каблуковым. Падчас пахавальнай службы ў мясцовым дзятлаўскім касцёле выступіў канонік берасцейскі і слонімскі дэкан ксёндз Гадлеўскі з прамовай, дзе пералічваліся шматлікія перамогі генерала Яна Канопкі. Згодна запісу ў касцёльнай метрычнай кнізе, Ян Канопка быў пахаваны ў дзятлаўскім касцёле. Магчыма, труна з яго целам знаходзілася ў касцёльных скляпеннях ці на тэрыторыі недалёка ад храма.

Больш чым праз 70 гадоў, у 1886 годзе, вёску Дуброўка ў суправаджэнні дачкі Аніты і мясцовага абшарніка Стравінскага, наведаў вядомы геолаг Ігнат Дамейка. Пазней, ён у сваім пісьме адзначаў, што ў гэтай вёсцы жыве спадарыня Корсакава, а ў двары яе дома расце стары дуб, з якога "легіянер генерал Канопка ўпаў і пакончыў з сабой". Дамейка выказваў здагадку, што прычынай смерці былі траўмы лёгкіх ад падзення з вышыні. Дакладна невядома, было гэта падзенне выпадковым ці свядомым. Навуковец лічыў, што, магчыма, Ян Канопка мог забрацца на дуб, каб схаваць у дупле нейкія важныя рэчы…

Ян Канопка пакінуў цікавы, унікальны след у беларускай гісторыі. Прыклад яго жыцця сведчыць аб наяўнасці высокіх ідэалаў патрыятызму, служэння Радзіме, вайсковага гонару. Яго імя, нягледзячы на паланізаванасць мясцовай шляхты, можа быць прыкладам для нас, беларусаў, сёння.

# ЗМЕСТ



**Ятранка**. Дзятлаўскі літаратурны альманах № 1. На беларускай мове. Выдавецкі дом ТБМ. 2021. 128 с. Наклад - 120 асобнікаў. Фармат - А-5. Гарнітура “Таймс”. Замова № 2015.



## Дзятлава

Будаваў драўляны замак гетман,
Слаўны сын, вялікі наш Астрожскі,
Тут байніцы размаўлялі з ветрам,
Тут збіраў вялікі гетман войска.

Солтанаў сляды тут і Сапегаў,
Храмы ім пяюць на святы гімны.
Пад дажджом,
пад лёгкім белым снегам
Горад наш прыгожы і адзіны.

Тут хадзіў Дамейка і Дварчанін,
І кружылі ў вальсах Радзівілы.
Бо зямля тут смела і адчайна
Надавала волі ім і сілы.

Каб сабраць ў адзіны збор дабро -
Петрыкевіч жыў сваім музеем,
Каб цікава людзям тут было,
Каб не страціць веры і надзеі.

Слаўны шлях ад Здзенцела да сёння,
Горад наш прайшоў усе вякі…
Каб заўсёды над Ятранкай вольна
Ў небясі звінелі жаўрукі.

*Сяргей Чыгрын.*

